

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

11 СТУДЗЕНЯ 2002г. № 2/4136 КОШТ 275 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на пяць — 5500 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў, на пяць — 12500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

Рыбакі лавілі рыбу...

*Фота Ю. ЗАХАРАВА*



# КОЛА ДЗЁН

***З 1 студзеня ў 12 краінах Еўропы пачалася шырокамаштабная кампанія па абмене нацыянальных валют на наяўныя еўра. За дзесяць мінулых дзён асаблівых кур'ёзаў з еўра не адбылося і, мяркуючы па таргах, курс новай валюты пачаў умацоўвацца. І калі за гэты год курс еўра складзе 1:1 да долара, як і задумвалася, то новая валюта будзе цаніцца не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце, не гаворачы ўжо пра нашу краіну. А пакуль што адзін долар можна купіць за 1675 рублёў, а адну еўра за 1450 рублёў. Праўда, што нам да ўмацавання еўра, калі ў нас існуюць свае грошы... І ўсё ж мы жывём у Еўропе і нам ад яе, як і ёй ад нас, нікуды не дзецца...***

## ДЗЕСЯТКА ТЫДНЯ

Чалавекам мінулага года N 1 грамадзяне Літвы назвалі прэзідэнта ЗША Джорджа Буша. У дзесятку самых вядомых людзей планеты ўвайшоў і прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Тут жа прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін, Папа рымскі Іаан Павел ІІ, прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус, брытанскі прэм'ер Тоні Блэр, прэзідэнт Польшчы Аляксандр Кваснеўскі. Словам, няслабая кампанія...

## АГЛЯД ТЫДНЯ

Міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь Мікалай Корбут правёў прэс-канферэнцыю, прысвечаную выкананню бюджэту 2001 года. З яго выступлення стала вядома, што паэтапнае павышэнне зарплаты да ўзроўню 100-доларавага эквіваленту па бюджэтніках вырашана. На гэта дадаткова з бюджэту было накіравана каля 400 мільярдаў рублёў. У сярэдзіне за год зарплата вырасла ў 2,5 раза, а стыпендыі студэнтаў і навучэнцаў — у 2,3 раза. Дапамога на дзіця ва ўзросце да 3 гадоў сёння складае 14,4 тысячы рублёў у месяц, на старэйшых за 3 гады — 10,8 тысячы рублёў. На гэты час у нашай краіне каля 5,7 мільёна чалавек карыстаецца рознымі льготамі. На іх забеспячэнне ў мінулым годзе з бюджэту пайшло каля паўмільярда рублёў. Аднак, нягледзячы на шмат чаго станоўчага, рэальны сектар эканомікі спрацаваў менш эфектыўна, чым чакалася. Таму бюджэт недаатрымаў каля 190 мільярдаў рублёў плацяжоў з прыбытку. Знешнія даўгі на канец года складалі 769,6 мільёна долараў. Пратэрмінаваных запазычанасці па знешніх даўгах на 1 студзеня 2002 года не было. Адным словам, фінансавая бяспека краіны стабільная...

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У гэтым годзе наша краіна адзначае 120-годдзе класікаў нацыянальнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. З гэтай нагоды ў нас шмат што ўжо зроблена, робіцца і будзе рабіцца на дзяржаўным узроўні, каб дастойна ўшанаваць Песняроў Беларусі. Пра Янку Купалу і Якуба Коласа ведаюць ва ўсім свеце. І сёлета ў Маскве мяркуецца паставіць помнік Янку Купалу, а ў Санкт-Пецярбургу — Якубу Коласу. Заказ на стварэнне помніка Купалу атрымаў вядомы беларускі скульптар Валяр'ян Янушкевіч. Архітэктарам праекта з'яўляецца Юрый Грыгор'еў — былы галоўны архітэктар Мінска, які зараз працуе намеснікам галоўнага архітэктара Масквы. Помнік Янку Купалу плануецца паставіць у скверы на Кутузаўскім праспекце. А там, глядзіш, і сквер будзе імя Янкі Купалы...

## ШАНЦ ТЫДНЯ

З 1 лістапада 2001 года ідзе прызыў грамадзян нашай краіны, якім споўнілася 18 гадоў, на тэрміновую вайсковую службу. Праз прызыўныя камісіі ўжо прайшло больш за 60 тысяч юнакоў і каля 7 тысяч з іх прызнаны нягоднымі для службы. Апошняя лічба невясёлая... На сённяшні дзень тэрмін службы застаецца ранейшым: 12 месяцаў — для асоб з вышэйшай адукацыяй і 18 месяцаў для ўсіх астатніх. Да канца студзеня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу павінны разгледзець праект Закона "Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе". Прыняцце законапраекта скароціць тэрміны вайсковай службы да 9 і 12 месяцаў адпаведна. Пад дзеянне новага закона падпадаюць і цяперашнія навабранцы. Ва ўсякім разе, маладым салдатам ёсць шанц вярнуцца дамоў раней...

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Не першы месяц ідуць размовы пра сітуацыю, якая склалася вакол Курапатаў. Прэзідыум Беларускага камітэта міру ў сувязі з гэтым прыняў зварот да кіраўніцтва нашай краіны і да парламента, у якім ёсць шэраг прапаноў, якія, на яго думку, садзейнічалі б усталяванню гістарычнай справядлівасці і кансалідацыі грамадства. Так прэзідыум БКМ прапануе прыняць неадкладныя меры па дзяржаўнай ахове ўрочышча "Курапаты", зацвердзіць ахоўную зону помніка гісторыі і культуры і зону рэгулявання забудовы помніка ўрочышча "Курапаты". Да ўсяго прапануецца паставіць агароджу помніка, вырашыць пытанне аб аднясенні помніка да пэўнай тэрыторыі, прыняць меры па мемарыялізацыі ўрочышча "Курапаты" — "Мемарыяла пралітай крыві". Для гэтага аўтары звароту прапануюць аб'явіць конкурс на праект і стварыць у бліжэйшыя два гады помнік ахвярам рэпрэсій.

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Існуе генеральны план забудовы Мінска, які прадугледжвае паэтапнае развіццё горада да 2030 года. Згодна з гэтым планам ужо сёлета пачнецца рэканструкцыя плошчы Незалежнасці, разлічаная на 4 гады. Асноўная задача рэканструкцыі — разгрузка цэнтральнай часткі горада ад усіх відаў транспарту. На паўночнай прывакзальнай плошчы і прылеглай да яе тэрыторыі будуць прыведзены ў парадак і падсветлены фасады будынкаў, уладкаваны двары, сквер і тратуар. На паўднёвай прывакзальнай плошчы плануецца збудаваць адзін з першых у сталіцы гіпермаркетаў. У гэтым годзе будзе дабудавана дэпо для цягнікоў метрапалітэна ў раёне станцыі "Магілёўская". Плануецца дадаць да кожнага эшалона метро яшчэ адзін вагон, каб павялічыць перавозку пасажыраў. У мікрараёне Уручча-6 адкрыецца новы парк адпачынку, а ў парку імя Горкага пачнецца рэканструкцыя. Будзе рэканструявацца і цэнтральная набярэжная ракі Свіслач. Планы па добраўпарадкаванні беларускай сталіцы вялікія і яны стануць явай, былі б толькі патрэбныя грошы...

## ПАЧАТАК ТЫДНЯ

На расійскім тэлеканале ТВ-6 пачаў тэхнічнае вяшчанне беларускі Першы музычны канал. Яго праграмы беларускія гледачы могуць бачыць з 23.00 да 4 гадзін раніцы. Дырэктар Першага музычнага канала Віталь Чыжоў паведаміў, што планаванае вяшчанне канал пачне ў сакавіку. Нядрэнна, але хацелася, каб Першы музычны канал не паўтараў расійскае тэлебачанне, якое і так мы можам глядзець, колькі хочам і да ўсяго, каб быў, калі ён для беларусаў, беларускім...

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Амаль год не павялічваліся цэны на праезд у прыгарадных цягніках. З канца мінулага года цэны ўзраслі на 33 працэнты і цяпер кошт адной зоны складае 80 рублёў. Раней было 60. Таксама на 33 працэнты павялічаны кошт білетаў на пасажырскія ўнутрырэспубліканскія цягнікі.

ВІНШУЕМ!

# Прэміі за духоўнае адраджэнне

***У Палацы Рэспублікі шосты год запар у светлае свята Ражства Хрыстова Беларусь ушаноўвала сваіх лепшых сыноў і дачок, якія ўдастоены прэміі "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльных прэмій фонду прэзідэнта па падтрымцы культуры і мастацтва. На ўрачыстай цырымоніі ўдзельнічалі кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка і Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі.***

**Лаўрэатамі прэміі "За духоўнае адраджэнне" 2001 года сталі:** мастак-манументаліст Мінскага мастацкага камбіната **Віктар Барабанцаў**, кіраўнік іканапіснай школы студыі пры Мінскім епархіяльным упраўленні **Павел Жараў**, свяшчэннік Свята-Духава кафедральнага сабора ў Мінску **Фёдар Крыванос**, узорная капэла хлопчыкаў і юнакоў Брэсцкага абласнога Палаца культуры прафсаюзаў (мастацкі кіраўнік — **Ала Ігумнава**), калектыў работнікаў Таварыства з абмежаванай адказнасцю "Выдатнае ліцэ".

**Лаўрэатамі спецыяльных прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сталі:**

**у галіне музычнага мастацтва** — кампазітар **Галіна Гарэлава; у галіне тэатральнага мастацтва** — рэжысёр-пастаноўшчык **Фларыт Таліпаў; у галіне журналістыкі** — фотакарэспандэнт газеты "Звязда" **Анатоль Кляшчук; у галіне кіно і тэлебачання** — мастацкі кіраўнік Тэатра-студыі кінаакцёра рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" **Аляксандр Яфрэмаў; у галіне архітэктуры і рэстаўрацыі** — архітэктар **Уладзімір Чайкоўскі; у галіне народнай творчасці** — народны майстар разьбы па дрэве **Мікалай Тарасюк; у галіне выяўленчага мастацтва — аўтарскі калектыў** у складзе архітэктара **Юрыя Казакова**, скульптараў **Аляксанра Чыгрына** і **Аляксандра Бацвіненка; у галіне харэаграфічнага мастацтва** — дырэктар-мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра балета Рэспублікі Беларусь **Валянцін Елізар'еў; у галіне эстрадна-цыркавога мастацтва** — вядучы майстар сцэны Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь **Андрэй Шпянёў; у галіне крытыкі і мастацтвазнаўства** — прарэктар па навукова-творчай рабоце БДАМ **Міхаіл Баразна**, дацэнт кафедры беларускай музыкі БДАМ **Вольга Дадзіёмава; у галіне выхавання творчай моладзі** — мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы **Валерый Раеўскі**, загадчык кафедры струнных народных інструментаў БДАМ **Яўгеній Гладкоў**, прафесар кафедры харавога мастацтва БДУК **Яўгеній Рэутовіч; у галіне развіцця міжнародных культурных сувязяў** — дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа **Рыгор Шацько**, дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна **Наталля Чуева; у галіне музейнай справы** — дырэктар Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея **Віктар Аненкаў, калектыў** Мотальскага музея народнай творчасці Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці; **у галіне бібліятэчнай справы — калектыў** Наваполацкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, **калектыў** Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна; **у галіне мастацкай самадзейнасці** — мастацкі кіраўнік народнага ансамбля народнай музыкі "Калі ласка" Лідскага гарадскога Дома культуры **Уладзімір Гарачоў, калектыў** народнай харавой капэлы Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў.

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На чарговым пасяджэнні рады СБП ішла размова аб надзённых праблемах пісьменніцкай арганізацыі, аб зацвярджэнні плана работы арганізацыі на 2002 год, аб зменах у складзе рэдкалегій выданняў, заснавальнікам якіх з'яўляецца Саюз пісьменнікаў. У прыватнасці, як заззначыла старшыня СБП Вольга Іпатава, нягледзячы на тое, што вось ужо сем месяцаў, як перапынілася сціплае фінансаванне Саюза пісьменнікаў, творчая арганізацыя жыве, працуе ў тым жа рытме і рэжыме. І, мяркуючы па планах, не збіраецца страчваць набытае.

Зроблена нямала, але яшчэ больш трэба будзе зрабіць. Гэта і святкаванне 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа, семінар маладых, пленум па крытыцы, увага да выданняў і кнігавыдавецкай справы, міжнародныя сувязі і г.д.

У абмеркаванні пытанняў, вынесеных на раду, бралі ўдзел Навум Гальпяровіч, Віктар Праўдзін, Уладзіслаў Мачульскі, Валянцін Блакіт, Алесь Жук, Генрых Далідовіч, Ала Канапелька, Генадзь Бураўкін і іншыя.

На радзе тайным галасаваннем былі прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Алена Гінько, Таццяна Дасаева, Алена Ігнацюк, Леанід Маракоў, Ірына Качаткова, Ірына Шаулякова, Мікола Ждановіч.

**Н. К.**

•

Гасцямі бібліятэкі СПБ былі вучні Першамайскай школы Бярозаўскага раёна. Яны цікавяцца сучаснай беларускай літаратурай, самі спрабуюць свае сілы ў паэзіі і прозе.

Ад імя Саюза пісьменнікаў гасцей вітаў намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч. Потым перад школьнікамі выступілі Эдуард Акулін, Віктар Шніп, Васіль Жуковіч, якія прачыталі свае вершы, адказалі на пытанні прысутных.

**Н. К.**

•

15 студзеня 2002 года а 15-й гадзіне адбудзецца пасяджэнне секцыі паэзіі. Абмеркаванне творчасці Ніны Гарагляд, Віктара Бачарова, Івана Цітаўца.

**Секцыя паэзіі**

ГОСЦІ

# З любоўю да оперы

У спектакля "Яўгеній Анегін" свая, асаблівая публіка: школьнікі, студэнты, шматлікія меламаны розных узростаў, прафесій. Гэтым разам да іх далучыліся музыканты, артысты... І не дзіўна: у Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі прыехалі спевакі славутага Вялікага тэатра Масквы.

У партыі Таццяны выступіла яркая зорка — абаяльная, жаноцкая Марыя Гаўрылава. На працягу ўсяго спектакля яе голас гучаў сакавіта, прыгожа. На адным подыху яна правяла славутую сцэну пісьма. Пачуцці, перажыванні яе гераіні адлюстроўваліся ў кожным руху, жэсце, у фарбах цудоўнага голасу.

Паўгода таму выпускніца Маскоўскай кансерваторыі па класе знанай опернай спявачкі прафесара І. Масленікавай Марыя Гаўрылава атрымала званне народнай артысткі Расіі. За дзесяць гадоў на сцэне Вялікага тэатра яна выканала галоўныя сапранавыя партыі ў "Пікавай даме", "Іяланце" П. Чайкоўскага, "Паяцах" Р. Леанкавала, "Ночы перад калядамі", "Пскавіцянцы" М. Рымскага-Корсакава і іншых. Таццяна з "Яўгенія Анегіна" — адна з найлюбімых. Гэтую партыю артыстка выконвала і за мяжой — у ЗША, Бельгіі, Францыі. Яна гастралявала ў Балгарыі, Польшчы, Германіі, Англіі, Японіі, а ў Мінск прыехала ўпершыню. Спявачка ўдзячная дырыжору спектакля А. Анісімаву, якога разумела з паўслова. "Мне было таксама прыемна працаваць з выканаўцам партыі Грэміна Алегам Мельнікавым, з якім я знаёмая. Прыемнае ўражанне на мяне зрабіла выканаўца партыі Вольгі — Алена Сало", — адзначыла госця.

У партыі Яўгенія Анегіна выступіў таксама госць з Масквы — заслужаны артыст Расіі Павел Чарных. Ён выхаванец Маскоўскай кансерваторыі па класе прафесара, выдатнага опернага спевака, Яўгена Несцярэнкі. Лаўрэат Міжнароднага конкурсу вакалістаў у Карлавых Варах, Павел Чарных працуе на праслаўленай маскоўскай сцэне з 1988-га. Выконваў шмат вядучых барытанальных партый. Сярод іх — Томскі, Раберт, Анегін у операх П. Чайкоўскага, Жорж Жэрмон, Набука, Аманасра, Рэната у операх Д. Вердзі, Валянцін у "Фаўсце" Ш. Гуно. Шмат гастралюе. А ў 1991-м Павел Чарных і Марыя Гаўрылава выступілі ў галоўных ролях спектакля Вялікага тэатра "Яўгеній Анегін" на сцэне "Метраполітэн Опера" (ЗША). Мінскую публіку пакарылі і арыстакратызм, і напал страсцей яго Анегіна.

Павел Чарных таксама ўпершыню ў Мінску. Ён пад уражаннем ад высокага прафесіяналізму хору, аркестра, салістаў Беларускай оперы: "На маю думку, цудоўна, што ўсе салісты Беларускага опернага спяваюць сваімі прыроднымі галасамі і што выканаўца такой, здавалася б, сціплай партыі, як няня, Наталля Руднева ўкладае ў стварэнне гэтага вобраза лепшыя вакальныя, душэўныя якасці, свой талент".

З уздымам выступілі ўсе ўдзельнікі гэтага спектакля, які, дарэчы, праходзіў падчас Дзён культуры Расійскай Федэрацыі на Беларусі. Літаральна пакарыў публіку Марат Грыгорчык у партыі Ленскага. Каларытны вобраз генерала Грэміна — вакальны і сцэнічны — стварыў Алег Мельнікаў. Самых добрых слоў заслугоўвае выканаўца партыі Трыке Генадзь Чэпікаў. Вышэй за ўсе ўхвалы спяваў хор. Вельмі прыемнае ўражанне ад танцаў, пастаўленых В. Бутрымовічам. Шкада толькі, што Беларускі балет рэдка ўдзельнічае ў нашых оперных спектаклях. Аркестр пад кіраўніцтвам А. Анісімава перадаў непаўторную лірычнасць музыкі П. Чайкоўскага.

Хацелася б, каб часцей прыязджалі ў Мінск майстры вакальнага, дырыжорскага мастацтва, каб нарэшце ў нас пастаянна працавалі такі таленавіты музыкант, як А. Анісімаў, а яшчэ — каб нарэшце узгадваўся ў Беларускай оперы вопытны, таленавіты дырыжор. Тады, магчыма, можна было б чакаць аншлагаў штовечар.

А яшчэ хацелася пажадаць, каб людзі не бралі з сабой у тэатр "мабільнікі" і паводзілі сябе ў оперным тэатры адпаведна — не пляскаючы ў ладкі, калі гучыць музыка. Каб тым, хто побач, не сапсаваць свята ад сустрэчы з вялікім мастацтвам.

**Вера КРОЗ**

## *Павіншуюць і ў Маладзечне*

**Нядаўна народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч адзначыла свой юбілей. Адзначыла на сцэне роднага Купалаўскага тэатра, выконваючы галоўную ролю ў спектаклі "Лес" А. Астроўскага. Потым былі афіцыйныя і сяброўскія віншаванні, кветкі, авацыі, шматлікія інтэрв'ю і публікацыі ў прэсе... А 12 студзеня павіншуюць юбілярку і маладзечанцы, дзе Марыя Георгіеўна даўно ўжо з'яўляецца паўнапраўным членам калектыву абласнога драмтэатра і паставіла там два спектаклі ("Апошняя ахвяра" А. Астроўскага — ён будзе прадстаўлены ўвазе гледача і ў гэты вечар — і "Характары" В. Шукшына), а ў спектаклі "Чорная нявеста" Ж. Ануя выканала ролю Маці.**

**Творчая вечарына з нагоды юбілею Марыі Захарэвіч адбудзецца ў 17 гадзін у памяшканні Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне (вул. Чкалава, 7).**

**Віктар МІКАЛАЕЎ**

## *Народныя промыслы Лепельшчыны*

**Усе мы з вялікай нецярплівасцю чакаем Каляды і Новы год, імкнёмся адзначыць іх. У гасцёўні У. Галубка стала добрай традыцыяй праводзіць розныя мерапрыемствы напярэдадні гэтых святаў. 14 снежня тут была адкрыта выстава "Народныя промыслы Лепельшчыны", на якой прадстаўлены больш за 100 экспанатаў з Лепельскага дома рамёстваў, якому хутка спаўніцца 10 гадоў. На сённяшні дзень у ім працуюць і перадаюць сваё майстэрства вучням больш за 70 майстроў па 14 накірунках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. А ля вытокаў стаялі 5 чалавек, з чыёй дапамогай былі вернуты з нябыту многія віды рамёстваў: традыцыйныя тэхналогіі ганчарства, ткання на кроснах сукенкі.**

**Большасць экспанатаў, прадстаўленых на выстаўцы "Народныя промыслы Лепельшчыны", маюць непасрэднае дачыненне да надыходзячых святаў: калядная зорка, маска казы, конікі і анёлы з саломы, Дзед мароз, калядныя званочкі, кампазіцыя "Нараджэнне Ісуса" з гліны, навагоднія паштоўкі-выцінанкі, сатканыя лялькі ў зімовай вопратцы. Супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, ствараючы гэту выстаўку, імкнуліся паказаць усё багацце і разнастайнасць рамёстваў Лепельшчыны, таму невыпадкова тут можна ўбачыць пляценне з лазы, чароту, разьбу па дрэве, вышыўку, выцінанкі, саломапляценне, ткацтва. На выстаўцы прадстаўлены работы больш за 20 аўтараў, многія з якіх з'яўляюцца членамі Саюза майстроў РБ.**

**У той вечар павіншаваць майстроў прыйшлі загадчыца аддзела культуры Лепельскага гарвыканкама Т. Бароха, старшыня Саюза майстроў Я. Сахута, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея У. Пракапцоў. У гасцёўні склалася вельмі добразычлівая, цёплая атмасфера. Магчыма, таму людзі доўга не разыходзіліся, зноў і зноў слухалі майстроў С. Чэрнікаву, Л. Казачонак, З. Ляйко, творы якіх выпраменьваюць дабро і цеплыню. Сапраўды, пакуль ёсць такія людзі, наша культура не знікне.**

**Л. КАМАРОЎСКАЯ,**
**загадчыца гасцёўні У. Галубка**

## *"Беларуская думка", N 12*

**У раздзеле "Літаратура і жыццё" змешчаны вершы Л. Мацюхіна і В. Драчова, апавяданні Н. Гальпяровіча "Зямля", "Жыць без яе...", "Ліст Маршака". В. Гардзей ("Дом з прыгожага рамана") звяртаецца да незабыўнага вобліка У. Караткевіча. В. Дубовік выступае з артыкулам "Раёнка: чаму вучыць яе гісторыя, тэорыя і практыка". Пра старшыню Мядзельскага райвыканкама С. Чарнушэвіча ("Спакой толькі сніцца") расказвае А. Марціновіч. З народнымі традыцыямі, звычаямі, абрадамі знаёміць Л. Качанка ("Зіма — двор, а ў хаты — свята"). Галоўны рэдактар "БД" У. Вялічка ("Душы цудоўныя парывы") гаворыць пра новыя кнігі, якія выйшлі ў членаў рэдакцыйнай калегіі "Беларускай думкі" ў юбілейным для часопіса годзе.**

## *Запрашаем!*

**Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа запрашае на Дзень адчыненых дзвярэй, які адбудзецца падчас святкавання нараджэння ліцэя 15 студзеня 2002 г. па адрасе: Мінск, вул. Кірава, 21, з 10 да 15 гадзін.**

**Запрашаюцца ўсе, хто жадае азнаёміцца з дзейнасцю унікальнай навучальнай установы.**

# Прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў



**Гінько Алена Іванаўна**, нарадзілася ў 1965 годзе ў вёсцы Тузбіца Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. У 1987 годзе закончыла філалагічны факультэт БДУ. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ N 39 г. Віцебска.

Аўтар зборніка паэзіі "Самотная птушка" (Полацк, 1999 г.).

Рэкамендавалі: Віцебскае абласное аддзяленне СБП, Ф. Сіўко, А. Жыгуноў, І. Пракаповіч.

**Дасаева Таццяна Мікалаеўна**, нарадзілася ў 1951 годзе ў вёсцы Старцавічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Закончыла ў 1973 годзе філалагічны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, пазней закончыла аспірантуру. Кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН РБ.

Аўтар літаратуразнаўчых манаграфій "Пошукі героя ў літаратуры 20-х-30-х гадоў" (Мн., 1993 г.), "Летапіс жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага" (Мн., 1993 г.).

Рэкамендавалі: Д. Бугаёў, У. Мархель, А. Пісьмянкоў.

**Ждановіч Мікалай Мікалаевіч**, нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Селішча Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1982 годзе закончыў Мінскі дзяржаўны педінстытут імя А. М. Горкага, у 1991 годзе закончыў БДУ. Працаваў намеснікам сакратара камітэта камсамола МДПІ, карэспандэнтам нараўлянскай газеты "Прыпяцкая праўда", уласным карэспандэнтам газеты "Гомельская праўда". Галоўны рэдактар райгазеты "Добрушскі край".

Аўтар зборнікаў паэзіі "Прызнанне ціхае люблю" (Гомель, 1997 г.), "Свята першага снегу" (Мн., 2001 г.).

Рэкамендавалі: П. Прануза, В. Гардзей, А. Камароўскі, Гомельскае абласное аддзяленне СБП.

**Ігнацюк Алена Аляксандраўна**, нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Асаўцы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Закончыла ў 1983 годзе Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут, працавала настаўніцай рускай мовы, інструктарам Брэсцкага ГК ЛКСМБ, закончыла аспірантуру. Кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела тэорыі і гісторыі культуры Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

Аўтар зборніка паэзіі "Нота "Ля".

Рэкамендавалі: Р. Барадулін, Л. Галубовіч, М. Скобла.

**Шаўлякова Ірына Леанідаўна**, нарадзілася ў 1974 годзе ў г. Чэрвені Мінскай вобласці. Закончыла філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру. Працавала рэдактарам аддзела крытыкі часопіса "Першацвет", навуковым супрацоўнікам музея Гісторыі беларускай літаратуры. Загадчыца аддзела крытыкі і літаратуразнаўства часопіса "Нёман".

Аўтар кнігі крытыкі "Сентыментальнае паляванне, або У крытычных сутарэннях" (Мн., 2000 г.), перакладаў, шматлікіх публікацый па праблемах крытыкі і літаратуразнаўства.

Рэкамендавалі: У. Гніламёдаў, М. Мушынскі, У. Конан, А. Кудравец, Т. Шамякіна.

**Качаткова Ірына Львоўна**, нарадзілася ў 1953 годзе ў г. Мінску. Закончыла філалагічны факультэт БДУ ў 1976 годзе. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, рэдактарам у выдавецтвах "Полымя" і "Мастацкая літаратура". Зараз у апараце СБП.

Пераклала на рускую мову паасобныя творы Г. Марчука, В. Іпатавай, А. Камароўскага, Я. Галубовіча, Я. Чыквіна, Б. Пятровіча, І. Навуменкі, В. Адамчыка, В. Жураўлёва, К. Камейшы, Л. Сільновай і інш., адзін з аўтараў кніжкі для дзяцей "Антошка и Муртазик путешествуют в страну знаний" ("Полымя", 2001 г.). Пераклала на рускую мову раман В. Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў" (Мн., 2000 г.).

Рэкамендавалі: В. Праўдзін, М. Кенька, А. Вярцінскі.

**Маракоў Леанід Уладзіміравіч**, нарадзіўся ў 1958 годзе ў г. Мінску. Служыў у Савецкай Арміі, з 1979 па 1987 год працаваў на Мінскім заводзе ЭВМ. Адначасова вучыўся ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце, пазней у аспірантуры. З 1987 па 1999 год працаваў у розных недзяржаўных прадпрыемствах.

Аўтар кніг "Валеры Маракоў. Лёс. Хроніка. Кантэкст" (1999 г.), даведніка "Вынішчэнне" (2000 г.), "Трое", "Непамяркоўныя" (2001 г.).

Рэкамендавалі: Н. Гілевіч, А. Бельскі, Ю. Станкевіч, А. Ліс.

# Нічые?

## НАТАТКІ З НАГОДЫ АДНАГО ЛІСТА

На маім жыцці ўлады некалькі разоў вялі кампаніі накшталт "паляпшэння работы з лістамі працоўных". Усталёўваліся нейкія тэрміны для адказаў на звароты і скаргі.

Але сённяшнія рэаліі такія, што найлепшае для ўлады — проста не адказваць на непрыемныя для сябе звароты. Тады, кідай ні кідай паперу ў паштовую скрынку, яна бясследна раствараецца, а ты сам сабе нагадваеш падарожніка на бязлюдным востраве, які кідае ў акіян бутэльку з запіскай і спадзяецца, што нехта яе знойдзе.

У нашым "акіяне" знікла каля дзесятка лістоў, у тым ліку тых, якія пісаліся па даручэнні сакратарыята Саюза пісьменнікаў. Аднак на адзін з іх, а менавіта адрасаваны прэм'ер-міністру, адказ усё-ткі прыйшоў. Прыводжу яго цалкам.

"Союз белорусских писателей
25.09.2001 N 06-1/1181

Министерство финансов по поручению Администрации Президента Республики Беларусь от 17 сентября 2001 года N 10/533-69 рассмотрело вопрос перечисления бюджетных ассигнований и сообщает.

Союз белорусских писателей является общественным объединением. В соответствии с Законом Республики Беларусь "Об общественных объединениях" денежные средства их формируются за счет:

1) вступительных и членских взносов;
2) добровольных пожертвований;
3) поступлений от проведения лекций, выставок, спортивных и других мероприятий, лотерей;
4) доходов от производственно-хозяйственной деятельности;
5) иных, не запрещенных законодательством, поступлений.

В свою очередь статьей 5 указанного Закона предусмотрено, что государство может оказывать в установленном законодательством порядке помощь общественным объединениям в осуществлении ими уставной деятельности. Ежегодно Союзу белорусских писателей предусматривались ассигнования на данные цели, в том числе и в текущем году. По состоянию на 24.09.2001 года из запланированных 63 млн. рублей профинансировано 28 млн. рублей.

Учитывая неудовлетворительное поступление доходной части республиканского бюджета и в связи с этим определенные трудности с финансированием бюджетных организаций, в ближайшее время **не представляется возможным решить положительно вопрос о дальнейшем перечислении денежных средств Союзу.**

Министр Н. П. Корбут"

Аднак вопыт суседніх, ды і многіх еўрапейскіх краін сведчыць аб тым, што нідзе пісьменнікі латарэямі не зараблялі на "выкананне статутных задач" сваіх саюзаў. Спашлюся толькі на свой уласны досвед таго, як і на што жывуць творцы і як да іх ставяцца ўлады.

Перш за ўсё, усюды пісьменнікам пакінулі будынкі, якія яны займалі раней. У Ноўгарадзе пісьменніцкую арганізацыю гарадскія ўлады пачалі было выцясняць з прыгожага катэджа ў цэнтры горада, ды тут падаспеў указ Б. Ельцына № 19/04 аб перадачы ў бязвыплатнае карыстанне творчым саюзам іхніх памяшканняў, і, нягледзячы на тое, што ноўгарадцы былі ў жорсткай апазіцыі да былога ўжо прэзідэнта, яны з трыумфам выйгралі судовы працэс. (Дарэчы, цяпер абласная адміністрацыя пастаянна выплачвае кожнаму сябру творчага саюза па 250 рублёў — гэта невялікія грошы, але тут важны прынцып, бо выплачваюць жа пажыццёвыя стыпендыі ў так званых капіталістычных краінах, напрыклад, у Швецыі.)

У Пскове стыпендый не даюць, але затое пісьменнікі могуць свабодна прадаваць свае ўласныя кнігі, не плацячы ніякіх падаткаў і не лічачыся пры гэтым прадпрымальнікамі. Спонсарская падтрымка рэкламуецца ў друку, улады яе вітаюць,і таму прадпрымальнікі ахвотна дапамагаюць мясцовым творцам.

У Эстоніі сістэма падтрымкі пісьменнікаў грунтуецца на тым, што створаны своеасаблівы Фонд культуры, здаецца, зусім вызвалены ад падаткаў. Ён за некалькі гадоў стаў такім заможным, што практычна кожны пісьменнік так ці іначай можа абапірацца на яго ў падтрымцы свайго літаратурнага праекта. Пазалетась нас, удзельнікаў "Літаратурнага Экспрэса—2000", вельмі цёпла прымаў прэзідэнт Ленарт Меры. І я бачыла, якой павагай там атуляюць пісьменнікаў, справядліва лічачы, што яны — "хрыбет" ідэі, на якой пабудавана само існаванне краіны.

У Маскве ўсе пісьменніцкія саюзы жывуць за кошт двух вядомых усім асабнякоў на вул. Поварскай (колішняй — Вароўскага, 52) і Герцэна. Дзялёж, за якім з жахам назіралі ўсе літаратары былых савецкіх рэспублік, быў жорсткім і непрыгожым (так цяпер дзеляць там Міжнародны Літаратурны фонд, у якім засталіся агульныя СССР-аўскія пісьменніцкія грошы і які там даволі заможны).

Балгарскія пісьменнікі таксама маюць свой Дом і частку некаторых іншых, якія здаюць у арэнду. Не гуляюць і яны ў латарэі, а на сяброўскія ўнёскі хаця б невялікаму апарату, без якога немагчымая ніякая статутная праца, існаваць таксама нельга.

Так што і ад "мудрай парады" міністра фінансаў карысці, як кажуць, ніякай. Але — адказ-адпіска ўсё ж прыйшоў. І на тым, як кажуць, дзякуй.

Не сумняваюся: наўрад ці адказаў бы так сваім пісьменнікам міністр фінансаў Літвы ці той жа Эстоніі, бо ён бы адказваў — сваім. Аўтарам кніг, вершаў, паэм, якія ён, міністр, стварыць усё ж не можа, бо Усявышні дае таленты нямногім.БПСМ, пра які міністр зараз "думае думу" ў сукупнасці з іншымі 22 грамадскімі арганізацыямі (у гэты спіс разам з БПСМ, Чырвоным Крыжам і іншымі аб'яднаді і Саюз пісьменнікаў), яму нашмат бліжэй, і гадавы "статутны" бюджэт маладых чыноўнікаў складаў летась, калі не памыляюся, 1 млрд. 200 млн., у той час як на пісьменнікаў ішло 63 млн. (гэта, арыенціровачна, чацвёртая частка прыбытку, які дае адзін наш (ніколі не скажу — былы наш) ДОМ).

Па гэтым лісце яскрава бачна — пісьменнікі для сённяшняй улады — НІЧЫЕ. Яна не ведае іх, не чытае. Новыя раманы Віктара Казько, Генрыха Далідовіча альбо Алеся Пашкевіча, ды і таго ж Івана Пятровіча Шамякіна таксама, відаць, падаюць у акіян.

Акіян раўнадушша.Оруэлаўскай рэчаіснасці. Дзе ёсць пісьменнікі, якія па даўняй прывычцы старанна сігналізуюць уладам "Не аддавайце ім Дом, я н ы яго прыватызуюць!", нягледзячы на тое, што на з'ездзе публічна растлумачана, што ў артыкуле 13 Закона аб творчых саюзах, прынятым Палатай прадстаўнікоў 18 лістапада 1999 года, гаворыцца аб немагчымасці нават падзяліць маёмасць творчага саюза паміж членамі самога ж саюза.

Лепей бы пісалі рэцэнзіі на новыя кнігі, толку было б болей.

Тады, азнаёміўшыся з імі, магчыма, прачытаў бы і міністр фінансаў новую паэму С. Законнікава, прозу І. Пташнікава, А.Федарэнкі, Ф. Сіўко, кнігі У. Арлова і іншых нашых пісьменнікаў, чыімі творамі можна ганарыцца любой краіне. І зразумеў бы, што іхнія "гульні" за пісьмовым сталом патрабуюць высокай эрудыцыі, творчага гарэння, любові да народа, для якога яны шчыруюць днямі і пераважна начамі.

**Вольга ІПАТАВА,**
**старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**

***Размову з народным мастаком Беларусі Леанідам Шчамялёвым заўжды прыемна весці ў яго вялікай майстэрні, дзе ўсе сцены ўпрыгожаны карцінамі мастака. Тут патанаеш у шчырай творчай атмасферы, якую можа стварыць толькі сапраўдная Асоба. Творчасць Л. Шчамялёва не залежыць ад кан'юнктуры рынку, часу альбо палітычных амбіцый. Ён у сваіх пазнавальна-шчамялёўскіх пейзажах і партрэтах застаецца шчырым прыхільнікам прыгажосці — ці то на яго карцінах краявіды роднай зямлі, ці то гарадскія плошчы, постаці і выявы людзей. Мастак даўно выявіў і замацаваў у свядомасці гледачоў свой уласны стыль. Галоўнай складаючай яго стылю з'яўляецца спеўная пластыка, яна паядноўвае ў адно цэлае каляровыя плямы і ўмоўныя пласты работ мастака. Гэтаму надзвычай натуральна дапамагае і колеравая гама, якая здзіўляе поліфанічнасцю гучання, і пры гэтым смелым выкарыстаннем вялікага багацця яркіх фарбаў.***

***Жыццё не было лёгкім для Леаніда Дзмітрыевіча, як і для многіх іншых мастакоў старэйшага пакалення. Не абмінула ваеннае ліхалецце, не былі лёгкімі, але напоўненымі штодзённай працай і далейшыя гады. Побач заўжды была каханая жонка, падрасталі дзеці. Сёння Леанід Шчамялёў — адзін з вядучых жывапісцаў рэспублікі. Яго творы знаходзяцца ў мастацкіх музеях Беларусі і замежжа, мастак актыўна ўдзельнічае ў мастацкіх выставах. Ён і сёння надзвычай многа творча працуе. І пры гэтым не замыкаецца ў сценах сваёй майстэрні, ахвотна прымае наведвальнікаў. Таму так запроста, "пра жыццё" і мастацтва гаворым мы сёння ў майстэрні з Леанідам ШЧАМЯЛЁВЫМ.***

# "Адчуваю перад светам захапленне..."

— Некалі Дэні Дзідро, знакаміты французскі энцыклапедыст, выказаў цікавую думку для нас, мастакоў, і ўвогуле для грамадства: тая краіна, якая будзе вучыць маляваць гэтак жа, як і чытаць і пісаць, будзе самай культурнай у свеце. Думаю, ёсць у выяўленчай культуры тыя якасці, якія абагульняюць веды пра чалавека і пра свет вакол яго, тлумачаць, як гэты свет успрымаецца праз пачуцці. А гэта вельмі важна для кожнага чалавека.

Калі звярнуцца да пытанняў эстэтыкі, можна заўважыць, што часта ў школе непрафесійна, не з пазіцый культуры і методыкі выкладання вядзецца размова з дзецьмі. Прычынай становяцца выпадковыя педагогі альбо мастакі, якія не маюць спецыяльнай педагагічнай падрыхтоўкі. Можна быць выдатным малявальшчыкам, але выкладанне —- гэта цалкам іншы шлях развагаў, як можна прыгожа і цікава ўспрымаць свет. Неспецыялізаваныя вышэйшыя навучальныя ўстановы таксама амаль не звязаны з экскурсам у гісторыю мастацтваў. А калі і выкладаецца сучасная культура і мастацтва, то найчасцей суб'ектыўна, не даецца ўяўленне самога паняцця сучаснага мастацтва. Але такое паняцце несумненна існуе, яно як дадзенае ўспрымаецца ў краінах заходняй Еўропы, такіх, як Францыя, Германія, Італія, Венгрыя, Польшча... Там кожную новую з'яву спрабуюць убачыць праз тыя прынцыпы, якія дыктуе сённяшні зменлівы час.

**— А як для сябе вы тлумачыце паняцце — сучаснае мастацтва? Чым вызначаецца сутнасць мастацтва сённяшняга дня?**

— На мой погляд, сучаснае мастацтва прапаноўвае вельмі featureрознабаковыя погляды на тое, што чалавеку цікава, а што не. Але часта пад выглядам сучаснага падаецца толькі эпатажна-суб'ектыўнае мастацтва, непрадказальныя геральдычныя, знакавыя моманты бачання. Асабістыя жаданні перамагаюць, нягледзячы на тое, ці ёсць прызнанне такіх эксперыментаў калі не ва ўсіх, то хоць у часткі людзей. І пры гэтым такі "сучасны" мастак не задумваецца, што такое бацькаўшчына, што такое захапленне перад навакольным светам, што такое прыгажосць. Трэба разумець паняцце прыгажосці. Прыгожымі застаюцца творы Пушкіна, Коласа, Купалы, яны прыгожыя па духу, па рытміцы чытання. Я выдатна разумею, што многія не пагодзяцца з маімі словамі. Ідзе час, перамагаюць іншыя, фармальныя прынцыпы бачання. Але, на мой погляд, застаецца захапленне перад тым, што існуе вакол чалавека. Калі ты жывеш у Сахары, ты можаш захапляцца пяскамі, калі ты жывеш у Беларусі, дзе столькі азёраў, рэк, лясоў, надзіва прыгожых і цікавых людзей, гэта павінна нейкім чынам адбівацца на творчасці. Таму фармальныя прынцыпы ў пытаннях адкрыцця новага бачання павінны быць звязаны з тым, як моцна на мастака дзейнічае наваколле, ці адчувае ён радасць, хваляванне пры знаёмстве з чалавекам, наколькі цікава выяўляе ён праблемы быцця. Паняцце сучаснага мастацтва — гэта складанае пытанне, яно датычыць агульнай культуры, свядомасці асобы. І гэта агульная культура вызначаецца не толькі повяззю з касмічнай прасторай ці заходне-еўрапейскай культурай, не звязана толькі з палітычнай ці нацыянальнай асновай, яна вызначаецца сутнасцю самога чалавека, яго ўнутранымі пачуццёвымі сувязямі і найбліжэйшымі яму рэаліямі жыцця. Тым не менш павага да таго месца, дзе нарадзіўся, толькі ўмацоўвае мастацкае ўяўленне і мастацкую мову. Я магу пацвердзіць, што ўсе найбольш вядомыя мастакі прывязаны да сваіх каранёў, яны прадстаўнікі сваіх краін, іх культуры, гісторыі, мастацкага густу, колераразумення, колеру радасці ці адмаўлення.

**— Што, зыходзячы з вашых слоў, мы можам вызначыць як нацыянальнае мастацтва: ідэю, дух альбо сутнасць выявы, колер, будову палатна?**

— З нараджэння мы ўбіраем у сябе прыгажосць асяроддзя, дзе прыходзім на свет, да тых рэчаў, кампанентаў рэчаіснасці, якія адразу ўваходзяць у свядомасць. Чамусьці многія мастакі лічаць, што нацыянальнае мастацтву перашкаджае. Я ж лічу, што яно наадварот развівае дух адкрыццяў, магчымасці паяднаць сябе не толькі з сённяшнім светам, але з тым, што было да яго, з продкамі. Натуральна такі погляд цікавы і для сённяшніх гледачоў, і для будучых, якім не будзе абыякавым, чым жылі, чым "дыхалі", пра што думалі іх бацькі не толькі з фармальнага боку, але з рэальнага, пабачанага, разважнага. Калі б мы ўсе сталі на шлях толькі фармалізаванага бачання, праз дзесяткі гадоў ніхто не будзе ведаць, хто мы, што і адкуль. Сёння мы ўжо можам без асаблівых праблем пазнаёміцца з мастацтвам замежных краін, па ўсім свеце пануе "глабаль-бачанне". Але гэта "глабаль-бачанне" далёкае ад разумення сутнасці і сучаснага, і проста мастацтва цалкам. А нацыянальнае заўжды было ў чалавеку — гэта мелодыка, колер, пластыка, рытміка. Зірніце на Беларусь, якая прыгожая прырода, якая пластыка рэк, рытміка лясоў — усё гэта закладае ад пачатку цікавую выяўленчую мову. Асобнае пытанне датычыць колеру. Калі звярнуцца да беларускай народнай творчасці, самаробных посцілак, дываноў, ручнікоў, вышыванак, можна заўважыць, як просты чалавек заўжды імкнуўся да колераразумення, колеравыказвання, да колераў радасці, свята. Чалавек увогуле імкнецца больш да свята, чым трагізму ў музыцы і выяўленчым мастацтве. Гэта зусім не азначае, што гэта свята падобна на весялосць з "адкрытым ротам". Але менавіта надзея напітвае ў чалавеку імкненне да лепшага. Таму і паняцце нацыянальнага становіцца неад'емнай часткаю кожнага чалавека, які паважае культуру свайго народа, якая яго выпеставала як асобу і дала магчымасць разважаць пра свае карані. Касмапалітычны погляд часцей за ўсё траўміруе людзей, яны становяцца ненаўмысна злоснымі, малацікавымі, з асноўнай рысай характару — нянавісцю да нязгодных з іх кропкай погляду. Я не думаю, што да такога варта імкнуцца.

**— Тым не менш, адмовіцца ад фармальных прынцыпаў, якія прыйшлі ў наша мастацтва ў апошнія гады, немагчыма. Пошукі ў форме, а не ў змесце сталі асноўнымі ў мастацтве і Заходняй Еўропы, і ў нас. Гэта не можа не ўздзейнічаць на творчасць цалкам і асобу пэўнага мастака канкрэтна...**

— Несумненна. Я, напрыклад, актыўна ўвайшоў у мастацтва Беларусі ў 60-я гады. І з першых крокаў, ва ўмовах тагачаснага палітычнага пацяплення, погляд на свет у маладых мастакоў моцна змяніўся. Мы імкнуліся выказвацца суладна з тымі думкамі, якія лунаді ў той час у паветры, і на той ступені прафесійнасці, якую мелі. Такая сітуацыя склалася ва ўсіх рэспубліках саюза. Натуральна, я імкнуўся патрапіць у тагачаснае разуменне пластыкі. На змест і форму мастацтва ў тыя гады моцны адбітак наклала вайна. Многія беларускія мастакі распрацоўвалі тэму вайны і, магчыма, падавалі яе лепш за мастакоў суседніх рэспублік. Час той не прайшоў без карысці для станаўлення беларускага мастацтва. У наступныя гады стабілізацыі, якія сёння называюцца найчасцей "застоем", фарміраваўся больш спакойны погляд на жыццё. Але менавіта ў той час актыўна працавалі такія мастакі, як Г. Вашчанка, В. Шаранговіч, маладыя У. Савіч, У. Тоўсцік, М. Селяшчук, якія склалі аснову мастацкай школы ў рэспубліцы і ўспрынялі навакольны свет у сваіх карцінах намнога цікавей, чым некаторыя мастакі са старэйшага пакалення 50-х.

Навакольны свет, рытмы жыцця, ідэалогія



— усё гэта само па сабе ўздзейнічае на форму бачання мастака. Пытанне — наколькі актыўна? Сённяшні дзень увёў у разуменне эпатажнасць "звышадкрыццяў", фармальныя вышукі. Актыўна адмаўляе пошукам на нацыянальнай ніве і заходнееўрапейскае мастацтва. Моцна ўздзейнічае на мастакоў і эканамічны бок. Малады мастак вельмі лёгка схіляецца да камерцыйнага накірунку, калі той прыносіць прыбытак. Але ж не сакрэт, што агульная культура пакупнікоў не вельмі высокая, яна будуецца на варыяцыях і рэмінісцэнцыях ужо даўно вядомых накірункаў. А мастак пры гэтым вельмі лёгка забываецца пра шчырае захапленне светам і становіцца на шлях "інтэрнейшен-артаўскага" погляду на наваколле.

**— І вашу творчасць не абмінула сучаснае бачанне свету. Жанр пейзажа мае шматгадовую гісторыю, і здаецца, у ім ужо не можа быць адкрыццяў. Але вашы пейзажы моцна адрозніваюцца і ад класічна-акадэмічных, і ад сац-рэалістычных, і ад цалкам фармалізаваных. Яны, мне здаецца, занялі "нішу" паміж рэальнасцю адлюстравання, бачання жыцця і дэкаратыўных, формаўтваральных, сучасных прынцыпаў жывапісу.**

— Калі спецыяльна задумвацца, якім чынам "асучасніць" сваю творчасць, можна дайсці і да схаластыкі. Сучаснасць мастака непарыўна звязана з уласным поглядам на свет, з уласным разуменнем пластыкі і вастрыні бачання. Такія мастакі, як Дэйнека, Ніскі (дарэчы, родам з Беларусі), Маісеенка, былі сучаснымі ў той цяжкі момант гісторыі, які мы сёння адносім да дыктатуры. І ў той жа час яны былі дынамічнымі, арганічна ўваходзілі ў сусветнае мастацтва, былі нягоршымі за Рэната Гутуза ці іншых замежных творцаў, з якімі, дарэчы, не мелі аніякіх сувязяў. Яны адчувалі свет праз рэальнае ўспрыманне з адпаведнай формай выяўлення. Рэалізм гэтых мастакоў ужо не быў падобны на рэалізм Шышкіна, Левітана, Куінджы, хаця і Шышкін, і Левітан, і Куінджы былі сучаснымі для сваіх пакаленняў і пры гэтым застаюцца цікавымі і да сённяшняга дня.

Погляды на сучаснае мастацтва і ўзровень успрымання яго павінна фарміраваць і крытыка. А сённяшняя беларуская крытыка, на жаль, застаецца на нулявым узроўні. Крытыкі зыходзяць не з тых ці іншых тэндэнцый, а закранаюць толькі асобныя постаці, якія падабаюцца крытыку альбо яго ангажавалі. Я не бачу ў такіх матэрыялах перспектыўнага погляду развіцця выяўленчай мовы. Усе выказванні асобных мастацтвазнаўцаў гранічна суб'ектыўнае, я б сказаў нават, палітычна-суб'ектыўныя. Гэта датычыць не толькі прэсы, найбольш нават музейных структур, Акадэміі навук, дзе няма глыбокага прафесійнага погляду на развіццё беларускага выяўленчага мастацтва.

А для ўспрымання сучасных форм мастацтва людзей трэба адпаведна рыхтаваць. Напрыклад, на маскоўскім тэлебачанні ёсць такі канал як "Культура", дзе многае спрэчна, але тым не менш прапаноўваюцца цікавыя ацэнкі расійскага і сусветнага культурнага працэсу. У Беларусі я не бачу нават спробаў прапанаваць шырокаму гледачу агульную культурную адукаванасць, перспектыўны гістарычны погляд у мастацтве. Магчыма, таму так часта ў прэсе сустракаеш выказванні кшталту "напісаў упершыню" альбо "адкрыў упершыню". Але ж у мастацтве сёння новае ўпершыню асабліва не адкрыеш...

**— Думаю, што такая сітуацыя моцна звязана з кан'юнктурай рынку.**

— Натуральна, многае залежыць ад кан'юнктуры — палітычнай і эканамічнай. Штучна запавольваецца развіццё пэўных накірункаў мастацтва, ствараюцца ўмовы, калі запатрабаванасць на "рынку" падае на малацікавыя творы. На жаль, наш рынак бедны і непрафесійны. Экспертная камісія Міністэрства культуры, якая па сутнасці фарміруе дзяржаўную закупачную палітыку ў галіне мастацтва, знаходзіцца на цалкам няверных пазіцыях набыцця твораў мастацтва, зыходзіць з неадпаведных ацэнак. Праца камісіі ператварылася ў хвілінную дапамогу асобным мастакам, а не на стварэнне агульнамастацкай калекцыі, каштоўнай для будучых пакаленняў. Згублены асноўны крытэрый — прэстыж патрапіць у такую калекцыю.

Думаю, што ў нашай краіне многае залежыць і ад суб'ектыўна-палітычнай кан'юнктуры. Асобныя "выкладчыкі" не вучаць маляваць рэчы, яны прапаноўваюць "свабоду" творчасці, абстрагаваную каляровую пляму. І калі такому вучню ўрэшце захочацца намаляваць чалавека, асяроддзе, пластыку, ён не здолее. Так можа згубіцца аснова нашага мастацтва — пачуццёвасць, пабудаваная на назіраннях за навакольным светам. Адзін амерыканец, які наведаў маю майстэрню, выдатна распавядаў пра тэхналагічныя дасягненні амерыканскай культуры, але ўрэшце прызнаўся, што галоўнае пытанне сучаснай амерыканскай культуры — пошукі пачуццёвасці, якая яшчэ захавалася ў беларускім мастацтве.

**— Вы на сённяшні дзень занялі сталае месца ў мастацтве. Многія мастакі, якія таксама адносяцца да старэйшага пакалення, не выстаўляюцца так актыўна, як вы. Яны мала працуюць, больш распавядаюць пра асабістыя праблемы, крыўды...**

— "Плачуцца" толькі тыя мастакі майго ўзросту ці старэйшыя за мяне, якія неактыўныя ў творчасці, непрацаздольныя. Іх галоўны аргумент: гэта нікому не патрэбна. Але ёсць вечныя тэмы: гэта ўнутраны свет чалавека, яго жыццё... Рэната Гутуза таксама чалавек у сталым узросце, але яго творчасць мае вялікі попыт у свеце.

Але ўвогуле слязлівасць з-за складанасцей часу не характэрна для сучаснага мастака. Сучасны мастак — найперш актыўны творца, жывы арганізм, які хутка рэагуе на падзеі жыцця, а не жаліцца, што яго нехта недаацаніў.

**— Для культуры кожнай краіны вельмі важнай з'яўляецца дзяржаўная падтрымка. Але ці ёсць у нашых уладаў сёння цікавасць да праблем *і* пытанняў выяўленчага мастацтва? Варта згадаць, калі апошні раз прысвойвалася званне народнага мастака Беларусі...**

— У Саюзе мастакоў сёння 1200 чалавек. З іх не ўсе актыўныя творцы, але ёсць многа цікавых. І гэта датычыць не толькі старэйшага, але і сярэдняга пакалення. Стаць мастаком — вельмі доўгі працэс. Вучэльня, акадэмія, самастойная праца — глядзіш, і споўнілася 50 год. Сярэдняе пакаленне за апошнія пятнаццаць-дваццаць год паказала сябе як сур'ёзнае і сучаснае. Яно заслугоўвае дзяржаўнай ацэнкі і падтрымкі. І не толькі званнямі, але і прадстаўленнем іх творчасці ў Нацыянальным мастацкім музеі. На жаль, гэтага прыйдзецца яшчэ доўга чакаць. І не толькі таму, што музей будуецца ўжо трынаццаць год. У экспазіцыі не закладзены асноўны прынцып прадстаўляць толькі нацыянальнае мастацтва, беларускае, як гэта ёсць у нацыянальных мастацкіх музеях свету. А так марыцца, што ў новай экспазіцыі будуць прадстаўлены і унікальная беларуская драўляная скульптура, іканапіс, мастакі 20—30 гадоў, пасляваеннае пакаленне і — сярэдняе, якое стварае сёння аснову трываласці беларускага мастацтва.

Гутарку вяла
**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

ецца эстэтычнае і матэрыяльнае. Разуменне паэзіі як увасаблення красы развіваецца ў метафары "А вершы — гэта зоры, гэта вецер..." А яшчэ вершы — гэта асяродак захавання нашае памяці і гісторыі. У гэтым пераконваешся, калі чытаеш "Рыцарскія хронікі" Людмілы Рублеўскай.

*Але, калі загіне горды Рым,*
*Па нашых вершах Рым*
*пазнаюць людзі.*

Воўчы вецер — метафара, досыць багатая на асацыяцыі. Воўк — звер самотны, няглeдзячы на тое, што палюе ў статку. Воўчае выццё — ноч, лясная цемра, страх ды думкі пра смерць. Вецер — лясны гул і стогн самотнай істоты-ваўка. "Воўчы вецер" — такую назву мае зборнік Віктара Шніпа, што змясціўся пад адной вокладкай разам з "Рыцарскімі хронікамі" Людмілы Рублеўскай, не маючы з імі, аднак, нічога супольнага. "Воўчы вецер" — кніга, што сумяшчае ў сабе пэўны шэраг асацыятыўных матываў. І ці не галоўнае месца ў ім займае матыў смерці — той смерці, думкі пра якую ўзнікаюць, калі жыццё становіцца невыносным цяжарам, пакутай душы, калі ў галаве пульсуе адзіная думка — уцячы ад усяго: жыцця, праблем, самоты. І адзіны шлях такіх уцёкаў — суіцыд. Ён — вынік чалавечай стомленасці, нежадання змагацца адзін на адзін са сваімі праблемамі, доказ жывёльнай тэорыі "выжывае мацнейшы":

*Ты ўцякаеш... Куды? Сам не знаеш,*
*Бо галоўнае — зноў уцякаеш*
*Праз лясы, праз палі, праз балоты,*
*Як ад ценю, ад мёртвай самоты.*
*Уцякаеш, як вены ўскрываеш,*
*Як сябе на шматкі разрываеш,*
*І крывёй заліваеш свой шлях...*
"Ты ўцякаеш"

Для вершаў зборніка характэрная нават эстэтыка смерці:

*Смерць жыве нечаканая ў вострым нажы,*
*У пятлі, у вадзе, у пякельным агні,*
*У цямнюткай начы і ў асветленым дні.*
"Не кажы..."

Часам жаданне смерці выяўляецца не толькі на ўзроўні індывідуальным, асабістым. Яна — вынік адчування калектыўнага болю: навакольнае і ўвесь свет настолькі жахлівыя, што хочацца, каб знікла ўсё — прычына і вынік ("Сумна ўсё гэта..."). Смерць і жыццё выступаюць як з'явы, што заўсёды знаходзяцца на сумежжы. Ад аднаго да другога — толькі адзін крок. Ды паўстае пытанне: які ён? Што ні кажы, але смерць за Радзіму і п'яная смерць — рэчы не тоесныя. Аднак паяднаць іх можа толькі адно — жаданне працягнуць свой пакутны шлях у гэтым свеце. Таму думкі пра жыццё і смерць змяняюць адна адну! ("Можна памерці..."). Адметна, што смерць у зборніку В. Шніпа адначасова асацыіруецца з традыцыйнымі і нетрадыцыйнымі вобразамі. З аднаго боку гэта — холад, ціш, самота, а з другога — чорная кава і... паэзія. Прычым такі сінтэз можа існаваць і ў межах аднаго твора. Самотнасць у "Воўчым ветры" не толькі іманентнасць чалавечай душы. Яна ў пэўнай ступені абумоўлена яшчэ характарам грамадскага ладу, сістэмай чалавечых стасункаў, калаўрота, у які ты акунаешся праз умовы гарадскога існавання. Адзінота паглыбляецца тады, калі асоба адчувае сваю адметнасць ("Вы стаміліся жыць у самотнай краіне"). Гэта ўзмацняе стомленасць душы, прымушае жыць з успрыманнем варожасці свету, які несупынна коціцца ў пекла. Здаецца, у ім няма ні гармоніі, ні цэласнасці, ні хаця б нейкага разумнага ладу. Усё варожае, бо ўсё незразумелае. Натуральна, што ў такой сітуацыі хочацца сказаць: "Свет наш, нібы габрэйскае гета". Немагчымасць зразумець навакольнае і сябе ў ім прыводзіць да стану, калі асоба адчувае сваю разгубленасць. Гэта прыводзіць да таго, што лірычны герой перастае ўспрымаць жыццё як рэальнасць. Аб'ектыўнае існаванне чалавека і грамадскага ладу становіцца падобным да мітусні нейкіх незразумелых істот, дзеянні якіх не маюць сэнсу і не разлічаныя на вынік.

*На белым прысаку зімы,*
*Як чорныя вароны мы,*
*Шукаем нечага, крычым...*
*І ўсё, як снег,*
*і, ўсё, як дым...*
"На белым прысаку зімы"

У гэтай няпэўнасці існавання асоба імкнецца знайсці выйсце — стварыць свой свет. Але гэтае жаданне сутыкаецца з рэальнасцю, з якой, аднак, не хочацца мець нічога агульнага, і чалавек зноў натыкаецца на сцяну.

*І хочам мы свой свет стварыць,*
*Нібыта сонца запаліць.*
*І тухнуць свечкі ля ікон.*

*І ў холад і святло зімы*
*Вяртаемся, як рэха, мы.*
"У гэтым свеце мы жывём"

Тады шукаецца новы шлях, які дасць надзею на выратаванне спатоліць душу. Ён — у адасабленні ад цывілізацыі, яднанні чалавека з прыродай. Але і тут назіраем абсурд сітуацыі, бо дарога да прыроды — вагон цягніка, у якім сутыкненне з "дурным тлумам" ды народам непазбежнае ("Ад дурнога тлуму і народу"). А сутыкацца з "балотным народам", як вядома, заўсёды непрыемна. Балота ў зборніку В. Шніпа атаясамліваецца найперш са збітасцю, зашоранасцю людскога мыслення, калі любыя дзеянні скіраваныя на здабыццё безвыніковага выніку, калі жыццё ўспрымаецца не як свет волі і духу, але як нейкі аморфны стан, у якім неабходнасць дзейнічаць — рэч другарадная. Тут адчуваецца адсутнасць руху, які цягне за сабою смерць балотнай краіны. Але адчуванне трагізму гэта не выклікае: смерць балотнага народа — рэч натуральная, а значыць і пазбегнуць яе немагчыма. Такім чынам, знікненне ўспрымаецца ў святле катарсісу:

*Балотныя людзі балотнай краіны*
*Знікнуць са свету аднойчы павінны.*
*Не шкода мне будзе балотны народ,*
*Шкода мне будзе лясоў і балот...*
"Балотныя людзі балотнай краіны"

Антыноміяй у дачыненні да вобраза балотнага народа выступае ўяўленне пра сваю краіну як пра частку цывілізаванай Еўропы ("Гэты дождж, як пачатак патопу"). Аднак яна з'яўляецца Еўропай не столькі па духу, колькі геаграфічна ("За вакном Еўропа і зіма"). Такім чынам, паэт паступова набліжаецца да асэнсавання месца Радзімы ў свеце. І невыпадкова, што тут з'яўляецца вобраз Вільні — духоўнай і інтэлектуальнай сталіцы Беларусі. У разуменні В. Шніпа, Вільня з'яўляецца ўвасабленнем духоўнасці. Нездарма ж гэты горад паэт параўноўвае і з Храмам, і з Ерусалімам. Але і тут няма вечнасці, бо храм калісьці мусіць разваліцца. Падаецца, што толькі душэўны боль не супынны.

*Нічога ў свеце вечнага няма...*
*Цяпло міне, пачнецца зноў зіма,*
*І будзе белы снег, і будзе цяжка.*
"Нічога ў свеце вечнага няма"

Адметна, што зборнік пачынаецца і заканчваецца вершамі, тэма якіх — канец XX стагоддзя. Зрэшты, у першым — толькі прадвесце гэтага, якое ўспрымаецца адначасова і як канец часоў, эпох. Здаецца, знікае ўсё: жыццё і прырода, сон і ява... Стагоддзе-дзень растварылася ў мінулым, пакінуўшы там святло і цемру, вятры ды пыл. Ствараецца ўражанне, што не засталося нічога. Ды так толькі на першы погляд. Але тое, што ёсць, усё ж не вельмі суцешвае. Бо мы — на рэштках гісторыі, мяжы небыцця, калі застаецца толькі крык, "што мы жывыя, што мы не ў балоце, // Хоць шмат хто з нас народам быць адвык". І ўсё ж мы жывём, жылі і будзем жыць, бо мы еўрапейскі народ, у якога не толькі ў даўняй гісторыі былі свае рыцары, але яны ёсць сярод нас і сёння, і таму не трэба баяцца воўчага ветру.

**Алена АЎЧАРЭНКА**

ВІНШУЕМ!

# Калядны водар святаянніку

## Міколу АНТАНОЎСКАМУ — 50

Бывае, раптам захочацца зімы, сустрэчнай завеі, крамянага марозу, але такога, што ледзь-ледзь пашчыпвае шчокі, і тады пад вандроўніцкі настрой выручае прыгарадная электрычка. Нейкіх хвілін сорак мільгання ў вокнах шэрых, аднастайных пералескаў, апусцелых да вясны дачных пасёлкаў, і ты ўжо на знаёмых палявых сцежках, дзе блукаў не адзін раз і дзе зроку запомнілася ці не ўсё, што тут квітнела і буяла ўлетку. На маіх сцежках паўз шырокую канаву, зарослую ўсялякім дробным хмызам і чарналессем да самай позняй восені стаялі нікім не чапаныя курціны залацістага святаянніку, ці інакш, зверабою — расліны лекавай і таму вельмі карыснай.

У полі гуляе завіруха, паўсюль глыбокія сумёты — сапраўды ні прайсці, ні праехаць, але перадкалядны «электрарывок» на прыроду, здаецца, апраўданы цалкам: у марозным паветры як быццам пачуўся кіславата—рэзкі водар травы—святаянніку, а ўваччу паўстаў, як праявіўся — з—пад снегу, рэальны летні малюнак — акурат такі ж, як і ў цудоўным вершы Міколы Антаноўскага:

*На расцяробах,*
*на палянах,*
*На злосць*
*дакучлівай слаце,*
*Людзьмі і зверам*
*не таптаны,*
*Мой святаяннік*
*зноў цвіце —*
*Як сонейка*
*ў зялёных травах*
*На скрыжаванні*
*ўсіх вятроў,..*

Не помню, якая зіма стаяла ў далёкім 1952 годзе, хутчэй за ўсё, яшчэ больш суровая, чым сёлета, але сельсаветам зафіксавана дакладна: аўтар працытаваных радкоў нарадзіўся трэскучымі студзеньскімі маразамі — на «куццю» перад Калядамі. Над выбарам імя немаўляці бацькам не трэба было і турбавацца, бо, як вядома, шостага студзеня па царкоўным календары — гэта дзень Аўгінні, Клаўдзіі, Міколы. Ёсць яшчэ адна «калядная» акалічнасць, пра якую нельга не згадаць. Беларуская сям'я, калі садзілася за стол есці «куццю» — рытуальную страву з ячных ці іншых круп, абавязкова жадала адзін аднаму шчасця, здароўя, дабра. Пра гэтую старадаўнюю традыцыю менш за ўсё варта напамінаць М. Антаноўскаму, таму што ўся яго паэтычная творчасць мае народныя карані і вытокі, аб чым сведчыць і канцоўка верша «Святаяннік»:

*Ёсць на зямлі*
*ў мяне дзяржава —*
*Надзея, вера і любоў —*
*У паплавах,*
*у расцяробах,*
*Дзе святаяннік залаты —*
*Ад адрачэння засцярога,*
*Мой спадарожнік*
*дабраты.*

Сваю першую кнігу вершаў, якая выйшла ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць», паэт так і назваў «Святаяннік», аднак не менш прыгожая і дакладная назва і другой яго кнігі — «Падсочаны бор». Абодва зборнікі, як і пазнейшыя шматлікія публікацыі ў перыёдыцы, мелі поспех у рэцэнзентаў і чытачоў. Так, у артыкуле «Каб каля роднага скінуць парога...» вядомы крытык і літаратуразнавец Алесь Карлюкевіч даволі трапна вызначыў галоўныя рысы ў творчасці Міколы Антаноўскага:

«Пішучы пра тое, што навідавоку, пішучы таленавіта, аўтар «Падсочанага бору» ставіць абвостраныя, што ідуць ад сумненняў і пакут душы, ад трывогі ў сэрцы пытанні: Як жыць далей? Як захаваць духоўны, стагоддзямі сфарміраваны, выратавальны патэнцыял народнай шчодрасці, светласці, дабрыні, спагады? Як адвергнуць пошласць, усё чорнае і бяздумнае, нізкае і подлае?

*Калі зняверышся*
*ты ў людзях —*
*Ідзі ж у лес,*
*у пушчу кроч*
*Далей ад бессаромных*
*воч*
*Там — цішыня.*
*Была, ёсць, будзе.*

*І хай смяецца ліхадзей*
*Услед адчайнасці*
*мяцежнай, —*
*Напэўна,*
*гэта непазбежна,*
*Як і вяртанне да людзей».*

Цёплыя словы крытыка пра паэзію М. Антаноўскага, упаўне маглі б стасавацца і да яго прафесійнага занятку — шматгадовай працы журналістам, і ўжо немалы час — у якасці рэдактара газеты «Раённыя будні», што выдаецца ў Пружанах. Гэтая цяжкая праца, бадай, не дасць зняверыцца ў людзях, асабліва калі ты сапраўдны патрыёт роднай зямлі, а ў нашым выпадку — слаўнай Берасцейшчыны. Паэт і журналіст справядліва зазначае: «Мы хочам зрабіць такую газету, якая будзе жаданай у кожным доме, стане неад'емнай часткай Пружаншчыны. Як сабор Аляксандра Неўскага ў Пружанах, як «Хроніка Быхаўца», адшуканая ў Магілёўцах, як славуты палац Сапегаў у Ружанах».

Вось якая багатая спадчына ў полі зроку мясцовай газеты «Раённыя будні». Зноў жа, зняверыўшыся ў людзях, яе таленавітаму рэдактару будзе куды «крочыць»: у яго ёсць свая, Ружанская, пушча, багатая не толькі на грыбы і ягады, але і на вядомыя гістарычныя падзеі. Дарэчы, з пушчы не так ужо і далёка да сваёй малой радзімы — вёскі Сташаны, што ў Пінскім раёне. Менавіта адсюль Мікола выбіраўся ў Ганцавічы на пасаду літсупрацоўніка, на вайсковую службу і на вучобу ў Беларускім дзяржуніверсітэце, аб чым ніколі не забывае. І той юнацкі час, праведзены дома, згадвае ў вершах з вялікай удзячнасцю:

*З якіх глыбінь.*
*З якіх вышынь*
*Я чую голас несціханы,*
*Які нясе цяпло душы.*
*Магнітам вабіць*
*у Сташаны?*

*І з тых вышынь,*
*і з тых глыбінь*
*Блакіт і светлыня*
*аднойчы,*
*Каб не журыўся я адзін,*
*Запаляць зорку*
*сярод ночы.*

*З плеч ападзе*
*надзённы тлум,*
*Калі лагодна і шчасліва*
*Вячэрняй зоркі*
*светлы сум*
*З вышынь пральецца*
*цудным дзівам.*

На прыезд шаноўнага госця палескія Сташаны «запаляць зорку сярод ночы» зусім невыпадкова, бо гэты неадназначны факт для М. Антаноўскага звязаны перш за ўсё з «куццёй» — днём нараджэння паэта. Ёсць павер'е: густыя зоркі ў калядную ноч абяцаюць багаты ўраджай, здаровы маладняк жывёлы, удачу і плён у працы. Сёлета на Каляды вечарам прыціскаў марозік, дзьмуў парывісты вецер, але пад раніцу неба прасвятлела, дзе—нідзе замігцелі зоркі, а гэта для самабытнага творцы і сапраўды добры знак, які «з вышынь праліўся цудным дзівам».

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

*ластаўка,*
*ты ніколі не бачыла,*
*дык пабачыш, якая смерць...*
*снег з Расейшчыны,*
*дождж з Паляччыны —*
*будзе целу й душы балець,*
*ластаўка.*

А прызабыты, беларус па сутнасці і па месцы нараджэння, выдатны расійскі савецкі паэт Яраслаў Смелякоў, які яшчэ ў 1968 годзе пісаў пра нас: "вы родня мне по крови и вкусу", што "из речи моей не пропало белорусское мягкое "га", у адным з вершаў пра людзей, безнадзейна захопленых паэзіяй, выказаўся так:

*"Неясных замыслов величье*
*их души собственные жгло,*
*но сквозь затор косноязычья*
*пробиться к людям не могло...*
*...Ах, сколько их прошло по свету*
*от тех до нынешних времен,*
*таких неузнанных поэтов*
*и нерасслышанных имен!*
*Всех бедных братьев, что к потомкам*
*не проложили торный путь,*
*считаю долгом пусть негромко,*
*но благодарно помянуть.*

Не, не, ні ў якім разе не прыніжаю я гэтымі класічнымі цытаваннямі ні чалавечы ані паэтычны гонар Алеся Корнева, а проста, сам калісьці перабыўшы ў шкуры правінцыйнага вершаскладальніка, хачу хоць бы маральна падтрымаць гэтых творчых людзей з беларускай перыферыі, дзякуючы духоўным і бескарысным намаганням якіх, мы, як нацыя, як самабытны народ, як дзяржава, у рэшце рэшт, — адбыліся, ёсць і будзем быць...

Алесь Касьянавіч — доктар па адукацыі і мастак па душы. На сваім вяку шмат каго вылечыўшы ад фізічнай немачы медыцынскімі прэпаратамі, заадно многім з іх ён упрыгожыў і ўмацаваў душу "жывою вадой" спрадвечнага мастацтва. Апроч вершаў, займаецца Корнеў і маляваннем (дарэчы, і гэтую сваю кніжку аформіў сам), і разбярствам па дрэве, і лясной скульптурай...

У гэтым даволі прафесійна зробленым і па-мастацку выдадзеным вершаваным зборніку пяць раздзелаў, назовы якіх самі па сабе тлумачаць чытачу свой змест: "Сівыя ісціны" (нізка нацыянал-патрыятычнай лірыкі), "Нашы ваколіцы" (свет вакол нас і мы ў свеце), "Сцежкамі Адама" (вершы, прысвечаныя жыццю і творчасці паэта Адама Міцкевіча), "Узрост кахання" (падобная паэзія тлумачэнню не паддаецца) і "Са спеўніка пеўніка" (гумар і сатыра, і як на мой густ, гэта адзін з найбольш удалых раздзелаў)...

А гэтыя дзве страфы з верша "На ростанях" увогуле, на мой погляд, вызначальныя ў вершаванай творчасці Алеся Корнева:

*Вось прада мною камень-верад.*
*Замшэлі літары на трэць.*
*Назад, направа ці наперад?*
*Галеча, сорам альбо смерць?*
*Не збочу з выбранага шляху.*
*Абы не сорам. Смерць дык смерць!*
*Хай каменем я лепей лягу...*
*Без літар буду стыць і мшэць.*

І дай Бог яму і надалей паэтычнага натхнення і дабрадзейнага плёну, а таксама жыццёвай чалавечай стойкасці, як у яго працытаваных радках.

А там — хто ведае, Алесь Касьянавіч?! — мажліва прыпомніўшы, хай сабе і чужаземную, але несмяротную сусветную класіку, "*и на обломках самовластья // напишут наши имена*" і нашыя нашчадкі...

**ЛеГал**

# “Я себе придумываю жизнь”

**Назва кожнай кнігі, асабліва паэтычнай — невыпадковая. Ва ўсякім разе тады, калі аўтар укладвае ў словы гэтыя (а часам і адно-адзінае) нейкі, бадай, аднаму яму да канца цалкам зразумелы сэнс. Што тычыцца чытача, дык ён, беручы кнігу ў рукі, зразумела, таксама хоча здагадацца, што хаваецца за гэтай назвай. Адгортваючы паэтычны зборнік Таццяны Ахрэмчык “Я себе придумываю жизнь” (дарэчы, другі ў аўтара), зрабіць гэта не так і цяжка, бо пэўнае тлумачэнне знаходзіш у першым вершы, лірычная гераіня якога імкнецца раскрыць сваю душу. Правільней, выказаць тое, што на душы. А на душы, як відаць з гэтага верша (ды і з наступных твораў), нейкае непастаянства, неўладкаванасць, адсутнасць той духоўнай апоры,**



**якая дазваляе сябе адчуваць упэўнена. Адсюль і некаторая песімістычнасць настрою, але разам з тым і жаданне ўявіць і іншае жыццё, непадобнае на гэтае, рэальнае. А жыццё іншае — абавязкова штосьці лепшае, чым ёсць:**

*Все дороги — никуда не деться, —*
*В пустоту, бранись или божись.*
*От небытия не зная средства,*
*Я себе придумываю жизнь.*

**А калі хочацца жыцця іншага, лепшага, дык жадаецца, каб і тыя, з кім лучыць цябе жыццёвая дарога, таксама станавіліся дабрэйшымі, шчадрэйшымі. Пацвярджэнне таму і гэты аднастрофны верш:**

*Все лучшее, что было в мире,*
*я приписать тебе посмела.*
*За веру, что вселенной шире —*
*теперь неверье без предела.*

**Два апошнія радкі таксама невыпадковыя. Гэта і сведчанне таго, што жаданае часта на паверку аказваецца зусім іншым, чым хацелася б, а вынікам усяго становіцца расчараванне, тое ж самае “неверье без предела» . І іншыя творы ў добрым сэнсе гэтага слова настраёвыя. У асобных з іх душэўная непрыкаянасць лірычнай гераіні, адчуванне адзіноты ад усведамлення, што цябе цалкам не разумеюць, а, магчыма, і не хочуць зразумець. І гэтае замыканне ў самой сабе — не толькі роспач, а і свайго роду ратунак. Ад той жа адзіноты:**

*Сама з собой уйду гулять —*
*никто не нужен.*
*Потом сама себе опять*
*сварганю ужин.*
*Сама с собою разойдусь*
*в нелепых мненьях,*
*но что поделать! —*
*помирюсь,*
*что толку в преньях.*

**А яна не хоча адпускаць ад сябе:**

*Сама с собою лягу спать*
*на две подушки,*
*и буду глупости шептать*
*подушкам в ушки,*
*и мука грянет, как гроза, —*
*сожмусь, робея,*
*но зло скажу: “Утри глаза!”*
*сама себе я.*

**І прычына гэтай адзіноты: “Себя ругать, себя убить — // все легче, чем его любить”. Настраёвасць прысутнічае і ў тых нямногіх вершах, у якіх прага прыроднага абнаўлення: “Скоро станут золотыми утра, // И запахнут почки тополей...” Не зважаючы на тое, што міжволі пранікаюць і матывы празмерна знаёмыя, у цэлым кніга “Я себе придумываю жизнь” пакідае прыемнае ўражанне.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

## ПАЭЗІЯ

Віктар ЯРАЦ



# Сем рамансаў

## Раманс без назвы

*Нібы ў цемры, вобмацкам шукае*
*маці непачутае на золку*
*Слова — так дрыготкімі рукамі*
*Прыміраюць нітку і іголку.*

*Дзе сляды згубіліся людскія —*
*родныя пытаюць днём і ноччу.*
*Ходзіць вецер па шляхах без кія,*
*хоць стары. Ён нешта чуў аднойчы.*

*Стоміцца і на пяньку сагрэтым*
*прызямліцца неўміручым дзедам.*
*Доўга ён блукаў па свеце гэтым,*
*галасамі снедаў і абедаў.*

*Доўга ён хадзіў, а на пытанні*
*не адкажа маці адзінокай,*
*толькі ліст пашле, сарваны ўранні,*
*ліст з бярозы да знямелых вокан.*

*Недзе неба папярхнецца дымам,*
*вочы праціраючы ад пылу*
*з тарфяных палёў, дзе конскім грывам*
*аваднёў страсаць з гарачых жылаў.*

*І нічога неба не адкажа.*
*Развядуць рукамі дрэвы горна,*
*як маўчанне гаркатою ляжа —*
*не заглушыць гул яго маторны.*

*...Чалавек аднойчы*
*выйшаў з дому.*

## Раманс без рыфмы

*...і магілы зарастуць травою.*
*А жыццё ці думае пра гэта?*
*...і развее вецер успаміны.*
*Чалавек руйнуе і стварае.*
*...стануць проста пылам смех і слёзы.*
*Як пульсуе кроў жывая ў жылах!*
*...воблачка аб чым з травой гаворыць?*
*Пахнуць пацалункі небным хлебам.*

## Надрэчны раманс

*Падмурка з цэглы не відаць*
*у крапіве, кустоўі.*
*Не скажа чужаку вада,*
*чаму хмурнеюць тоні.*

*З якой гасціннай стараны,*
*з якой скупой краіны*
*спяшае вершнік даўніны*
*на быльнягі, руіны?*

*Якая вестка ў край дзядоў*
*імчыцца полем спёкі*
*праз пыл, дзе гукі капытоў*
*трывожаць дол глыбокі?*

*А небасхіл маўчыць аб чым,*
*як лук, нацяты туга?*
*Плыве кастра вячэрні дым*
*над рэчкай і над лугам.*

*Што сніцца продкам ля ракі*
*пад бліскавіцай гулкай?*
*У роднай глебе спяць вякі.*
*Ці мякка ім, ці мулка?*

## Раманс горкай квецені

*Я пасівеў ад болю траў і дрэў,*
*крыніц і рэк,*
*сцяжын у жытнім полі,*
*дзе ногі босыя пясок дзяцінства грэў,*
*а воч журбою промні не калолі.*

*Страсалі з крыльцаў матылі пылок,*
*пытаючы аб чым прастор шырокі?*
*Ручэй бруісты — вечнасці выток —*
*паіў алешнік, ратаваў ад спёкі.*

*...Бязгрэшныя і дрэвы, і трава*
*чые грахі замольваюць*
*ТОЙ ночы?*
*Сівей аблокаў стане галава,*
*а цвет вясны*
*спакою не прарочыць.*

## Асенні раманс

*Чалавек ішоў па следзе звера.*
*Нецярпенне — куляй у ствале.*
*Грымне стрэл —*
*і пырскне кроў на верас.*
*Боль застыне ў баравой смале.*

*Птушкамі параненага золку*
*задрыжаць галіны дрэў густых.*
*І кальне халодную іголку —*
*сонца гарачэй — апошні ўздых.*

*Рэха стрэлу ў гушчарах патоне.*
*Крылы шырыні разгорне дзень.*
*Пра каго журбоцяцца прадонне —*
*жвір маўклівы — і спагадны цень?*

*Чалавек прайшоў па следзе звера.*
*Ствол не схібіў, не падвёў стралка.*
*Студзяць ветры вераснёвы верас,*
*а раса — крывёй маладзіка.*

## Белагрывы раманс

*У ботах-кірзачах парэпаных,*
*нібы старых бяроз кара,*
*сягоння йду не за арэхамі*
*на золку сцежкай ля Дняпра.*
*Каня патрэбна (добра б — дужага,*
*што не кульгае й не хітрыць)*
*за грыву вераснем асмужаным*
*пад карканне варон злавіць.*
*Ён вокам косіць, робіць выбрыкі,*
*гарцуе — не ідзе да рук;*
*здаецца, што не хопіць вытрымкі*
*кружыць за ім — за кругам круг.*
*Нібы пытае, рады вольніцы,*
*ці спрыту не стае ў мяне*
*злавіць нашчадка гордай конніцы —*
*насіла войска на спіне!*
*Нібы смяецца, непакорлівы,*
*калі суцішыць раптам бег:*
*ён чуе плуг, загон, дзе ворыва*
*павінна легчы ўсё ж пад снег.*
*Ён зведаў вокрыкі пагрозныя,*
*бізун — як лаянкі прысуд,*
*калі не раз да ночы позняе*
*араў — макрэў тугі хамут.*
*І ўсё ж, мой косю мілы-міленькі,*
*як ні круці хвастом наўкруг,*
*аброць накіну, сам умылены,*
*нібы цягнуў ці воз, ці плуг.*
*І пойдзеш ты, рахмана-сцішаны,*
*са мной світаннем — крок у крок —*
*праз поплаўны гарод, дзе вішаннік*
*хаваў начны і слых, і зрок.*
*Далонню губы — водар летавы —*
*твае пагладжу. Нам араць —*
*і дзірваном не стане дзедавы*
*загон на беразе Дняпра.*

## Галубіны раманс

*Вецер гуляе норд-ост,*
*лісце зрывае з бяроз.*
*Сёння я лодкаю стаў без вясла*
*ў свеце асеннім, дзе рэха святла.*
*Дзе ж вы падзеліся, подыхі летнія,*
*дзе і вятры, і шляхі ўсепрыветныя?*
*Вецер гуляе норд-ост,*
*лісце зрывае з бяроз.*
*Сёння я студняю стаў без вады*
*ў свеце, дзе гучна гудуць правады.*
*Светлая далеч за хмарнымі пожнямі.*
*Сцежка праз поле —*
*як памяць трывожная.*
*Вецер гуляе норд-ост,*
*лісце зрывае з бяроз.*

*І ўсё ж і сёння ў галубоў*
*у неба ўзнімецца любоў.*

Паўлюк ПРАНУЗА



## Салаўіная мова

*Сад у белым святочным убранні,*
*Нібы тут прашумеў снегавей.*
*— Цёх-цёх-цё! — я пачуў на світанні,*
*Упрыгожыў мой сон салавей.*

*Быў я песняй яго зачараван,*
*Нібы трапіў у казачны рай.*
*Беларусь — салаўіная мова,*
*Беларусь — светлы песенны край.*

## Салдатам быў ...

*Гады — жыццёвыя — вагоны —*
*Па рэйках лёсу грукацяць.*
*Хоць мы на новых перагонах,*
*Але ўспамінаў — не стрымаць.*

*Салдатам быў. Скажу я шчыра:*
*Не помню лепшай пахвалы,*
*Чым у баі ад камандзіра:*
*— За мною, сокалы-арлы!*

●

*Аб заграніцы я не мару,*
*Не думаю пра Рым, Парыж,*
*Мой родны край, мае Канары —*
*Сасновы бор, рака, Нясвіж.*

●

*Ідзеш дарогаю ці сцежкай,*
*Ці полем, ці па гушчары, —*
*Ты сонца сустракай усмешкай,*
*Ты радуйся святлу зары.*

*Кранае вецер твае шчокі,*
*Ты адчуваеш халадок,*
*Як лебедзі, плывуць аблокі —*
*І гэта просіцца ў радок.*

●

*Я праз памяць фільтрую гады,*
*Асцюкі адлятаюць, палова.*
*Час дзяцінства — мой век залаты,*
*Помню маці сардэчныя словы,*

*Чую звон крышталёвых крыніц,*
*Адчуваю пах бэзу і мяты,*
*Халадок чыстых, светлых масніц —*
*Мне харомам была тая хата.*

## Сымон Будны

*Экскурсанты, гараджане — людна,*
*Ўсе сышліся на ўрачысты сход.*
*Бронзавы, у задуменні Будны*
*Кнігаю паказвае на ўсход.*

*Кніга-сонца і гаючы вецер,*
*Што развейваў чад і змрок вякоў,*
*Прабівала шлях праз ліхалецце*
*І была нязгасным маяком.*

*І здаецца: ён з друкарні выйшаў*
*Адпачыць і глянуць на пейзаж...*
*Ён прапісан на вякі ў Нясвіжы,*
*Суайчыннік і дарадца наш.*

## Я працай жыў ...

*Я працай жыў, не быў я кволым.*
*Ад спраў не быў я на краю...*
*Вайна сваім крывавым колам*
*Прайшла праз маладосць маю.*

*Не трэба мне ў нябёсах жураўля,*
*Хачу трымаць рэальную сініцу.*
*Хай будзе пада мной любімая зямля,*
*Зямля бацькоў — жыцця майго крыніца.*

## Рыгору Барадуліну

*Цягнік жыцця — імклівы, скоры —*
*Грыміць праз рэчкі і масты.*
*Час налічыў ужо Рыгору*
*Нямала год цяжкіх, крутых.*

*Дзе б ты ні быў, заўсёды бачыш, —*
*Пацвердзіць кожны твой радок, —*
*Свае зялёныя Ушачы,*
*Свой партызанскі гарадок.*

●

*Скінуў груз юбілейнае даты,*
*Цішыня завітала ў пакой.*
*Адчуваю сябе я салдатам,*
*Зноў — на лініі перадавой.*

*Шмат цяпер неспакойнай работы,*
*Хоць мяне не шкадуюць гады:*
*Узрываць раўнадушша дзоты,*
*Словам біць у мішэні бяды.*

ПРОЗА

# Для дзяцей — па-майстэрску

## Галіне ВАСІЛЕЎСКАЙ — 75

***Галіна Ануфрыеўна нарадзілася 15 студзеня 1927 года ў Мінску. Здаўшы экстэрнам экзамены за дзесяцігодку, паступіла на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыла ў 1950 годзе. Працавала радыёжурналістам, літсупрацоўнікам часопіса "Сельская гаспадарка Беларусі", рэдактарам аддзела часопіса "Работніца і сялянка". У рэдакцыі часопіса "Полымя" была рэдактарам аддзела нарыса, адказным сакратаром. У 1982—1988 гадах з'яўлялася дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР.***

***Літаратурнай працай займаецца з 1953 года. З першым апавяданнем выступіла ў 1959 годзе. Асобнымі кнігамі выйшлі аповесці для дзяцей і юнацтва «Маланка ўначы», "Малюнак на снезе", "Бывай, Грушаўка" і іншыя. У 1986 годзе выйшаў аднатомнік "Выбранае".***

***З 75-годдзем, шаноўная Галіна Ануфрыеўна! Няхай Вам і надалей гэтаксама хораша жывецца і пішацца!***

Галіна ВАСІЛЕЎСКАЯ



# НА КРАІ

*Цяжкае хутка забываецца, помніцца добрае.*
**Васіль БЫКАЎ**

Праз незашторанае вакно ў пакой зазірае поўня. Гляджу на яе, стараюся ўбачыць, што там сёння адбываецца, на гэтым срэбным шары? Бо кожны раз, у залежнасці ад настрою, бачу іншы малюнак. Цяпер мне здаецца, што там, у начным чорным асеннім небе, выразна відаць, як змагаецца нешта.цёмнае з нечым светлым…

У палаце нас — двое. Суседка, таксама сардэчніца, варочаецца на ложку, уздыхае. Яна маладзейшая за мяне, але і ў яе букет хвароб. Яны ёй спаць не даюць? Яны трывожаць?

Пра мой букет думаць не хачу. Ганю прэч такія думкі. На голы лес. Мне чамусьці ўспамінаецца не толькі маё жыццё, як звычайна бывае, калі не спіцца ў салідным ужо ўзросце, а жыццё маёй матулі.

…Помню, ляжала яна вельмі хворая ў маім пакоі, на маім ложку, а я сядзела побач, трымала яе руку ў сваёй, гладзіла і слухала, слухала.

— Ты думаеш, я пражыла восемдзесят гадоў і гэта многа? А я і не заўважыла, як жыццё праляцела. Ніколі не жыла для сябе, не было часу, усё клопаты, клопаты… Спачатку дзеці былі маленькія, думалася тады: пастаўлю вас на ногі і пажыву для сябе. Вы пайшлі ў школу. Ты вучылася лёгка. А Віця — хлопчык. Усе яго равеснікі ў вайну гулялі, драўлянымі шаблямі размахвалі, і ён з імі… — Яна ўсміхнулася. — Разоў дзесяць глядзеў фільм пра Чапаева, спадзяваўся, што той выплыве… А я баялася, каб сын у якую бяду не трапіў, каб што з ім не здарылася. Трывога за яго не пакідала мяне ніколі… Потым вайна, загінуў Віця, і маё жыццё спынілася… Потым адно чаплялася за другое… Ты не думай, я не скарджуся, толькі, можа, я не так жыла?

Думкамі яна ўся ў мінулым…

Голас слабы, размова льецца-цурчыць, як ціхі ручай, закалыхвае сама сябе, і яна засынае. Баюся падняцца, каб не разбудзіць, бо сон ёй вельмі патрэбны. Гаючы сон.

Ведаю, здагадваюся, што яна магла, хацела расказаць мне далей. Бо жылі мы амаль увесь час разам. Яна ставіла на ногі і аднаго майго сына, і другога. І не толькі ставіла. Пакуль я вучылася, пакуль працавала, ездзіла па камандзіроўках, душа мая была спакойная — дзеці з матуляй. А што, можа, ёй цяжка — пра гэта проста не думалася.

Вінавачу сябе: была няўважлівая, была эгаістка.

Матуля расплюшчыла вочы:

— Ты яшчэ тут? Добра, пасядзі са мной, мне лягчэй, калі ты побач. Як укол ад болю… Знаеш, а я нават сон сасніла зараз.

— І што ты ўбачыла?

Горкая ўсмешка кранула яе губы.

— Нібыта стаю я на краі высокай скалы, а перада мной бясконцае мора — блакітнае, спакойнае, канца-краю яго не відаць. Далёка-далёка яно зліваецца з небам. І ўжо не разабраць, дзе мора, дзе неба. А мне зусім не страшна…

Яна памаўчала. І раптам сказала тое, чаго я зусім не чакала:

— Не ведаю, ёсць Бог на небе ці няма яго. Калі ёсць, то ў мяне да яго просьба: за тое дабро, што я паспела зрабіць людзям, каб ён даў мне лёгкую смерць. Каб я не ведала, што паміраю. Каб заснула і ў сне памерла.

— Ну пра што ты гаворыш? — абурылася я. — Ты паправішся. Доктар мне гаварыў. І мы з табою пажывём яшчэ не адзін год.

Яна ківае галавой:

— Пажывём, пажывём…

•

Бяжыць час. Не, не бяжыць — ляціць, як куля, выпушчаная на волю, хутка і няўмольна…

Здаецца, толькі ўчора ў мяне дома прагучаў гэты тэлефонны званок. Толькі ўчора… А мінула больш за дваццаць гадоў. Яшчэ, на шчасце, жыла мая матуля. На шчасце, бо гэты званок быў адрасаваны ёй: яе шукала жанчына, што пазваніла мне. Мяне аказалася знайсці лягчэй.

Я падняла тэлефонную трубку.

— Гэта Галіна Ануфрыеўна?

— Так, гэта я.

— Не можа быць! Не можа быць, каб вось так адразу вы мне адказалі. Я шукала вашу маму, вас усе пасляваенныя гады і не магла знайсці. Адраснае бюро адказвала: Марыя Адамаўна Скрыпко ў Мінску не жыве. І вы таксама.

— Яна жыве пад сваім дзявочым прозвішчам. Пасля вайны атрымала на яго пашпарт і не стала мяняць. Жыве з маім старэйшым сынам. А хто вы?

— Я Соф'я Фамінішна Бронская. Вы не помніце мяне?

— Чаму? Помню. А як вы мяне знайшлі? У мяне ж таксама другое прозвішча.

— Я зноў прыехала ў Мінск, бо жыву далёка адсюль, на Каўказе, з вельмі кволай надзеяй знайсці хоць каго-небудзь з вас. Я маміна даўжніца. Павінна разлічыцца з ёю. А сёння выпадкова сустрэла на вуліцы нашу агульную знаёмую мінчанку. Яна мяне пазнала і падказала, як знайсці вас. Проста не веру свайму шчасцю. Мама жывая яшчэ?

— Жывая. Можаце ёй пазваніць, — і я назвала нумар тэлефона.

Гэты званок ускалыхнуў маю памяць…

Першыя дні вайны. Фашысцкія самалёты, гружаныя бомбамі, праляталі над Грушаўкай і бамбяць Мінск. Мы чуем выбухі і бачым у небе дым ад пажараў. Мама не ведае, што рабіць. Тата ў Беластоку ў камандзіроўцы. У бабулі Мальвіны запаленне лёгкіх. Мне — чатырнаццаць, Віця — на два гады старэйшы. Мы не выключаем радыё, а яно гаворыць адно і тое: "Грамадзяне, заставайцеся на сваіх месцах. Вораг будзе адбіты". І грае музыка. Гэта перадаюць некалькі разоў на дзень. (Потым, калі я працавала на радыё, я дазналася, што гэтыя словы былі запісаны на плёнку і вартаўнік уключаў яе. Астатнія супрацоўнікі горад пакінулі.)

На пяты дзень з Беластока пешшу прыйшоў тата.

— Трэба ўцякаць. Хутка немцы тут будуць. Збірайцеся.

Мама, краўчыха, у роспачы:

— Куды я дзену чужыя адрэзы? Украдуць жа, калі пакіну іх.

— Якія адрэзы? Жыццё ратаваць трэба!

— А што я людзям скажу, як прыйдуць? Тата глядзіць на маму, як на ненармальную. Яна здымае са стала цырату і кладзе ў яе адрэзы.

— Віцёк, — просіць сына, — памажы мне занесці іх у хляўчук. Закапаем там… А тады ўжо пойдзем у бежанцы.

…Праверыўшы дакументы, немцы вярнулі нас у горад праз дзень. І пачалося жыццё ў фашысцкай акупацыі. Яго і жыццём назваць было цяжка, галоднае, халоднае і бясконца доўгае.

Аднойчы ў ліпені да нас на Грушаўку пастукалі ў дзверы. Дзень быў шэры. З неба цякло, як з рэшата. На вуліцы ледзь не па калена ліпкая гразь. Каму ў такое надвор'е не сядзіцца дома? Мама адчыніла. У пакой увайшла, дрыжучы ад холаду, маладая жанчына ў лёгкім хатнім халаціку.

— Соня? Ці ты гэта?

— Я, Адамаўна, я.

— Мама накінула ёй на плечы сваё паліто, каб яна сагрэлася, і пайшла на кухню распаліць прымус, заварыць гарбату.

Соня — студэнтка медінстытута. Жыла ў інтэрнаце па вуліцы Ленінградскай, што ля вакзала. І мы там жылі ў пакойчыку, бо бацька надбудоўваў паверхі ў галоўным корпусе медінстытута. Пабудаваў, і нас выселілі на ўскраіну, на Грушаўскі пасёлак за год да вайны. Будучыя ўрачы і былі мамінымі заказчыцы.

Папіўшы гарбаты з мятай, Соня сагрэлася.

— Інтэрнат згарэў. Я выскачыла ў чым была, толькі і паспела схапіць сумачку з дыпломам, які атрымала перад самай вайной. — Яна выняла з сумачкі дыплом аб заканчэнні медінстытута і паказала маме. — На работу ўладкавацца не магу. Не веРаць, што гэта мой дыплом, думаюць, чужы прысвоіла. І сапраўды, хіба можа такая зачуха быць доктарам?

Мамін твар асвяціла добрая шырокая ўсмешка:

— Сонечка, у мяне ж вашы два адрэзы ляжаць.

— Мае адрэзы? Вайна ж! У яе свае законы.

— Але адрэзы вашы!

— Адамаўна! Што вы гаворыце? Жыццё памянялася. Якія адрэзы!..

— Значыць так, спрэчка закончана. Я вам пашыю сукенку і касцюмчык. І вы будзеце апрануты, як сапраўдны доктар.

Соня недаверліва пакiвала галавой:

— А чым я вам заплачу? У мяне ж нічога няма.

— Пра што вы думаеце? Разбагацееце, тады і заплаціце. Давайце я мерку здыму. У мяне ў галаве такія фасоны для вас — лялечкай будзеце. Прыходзьце заўтра на прымерку.

Наш абедзенны стол зноў, як да вайны, пертварыўся ў стол раскрою. Мама шчыравала. Мерала сантыметрам чорную шарсцяную тканіну, якая на маіх вачах ператваралася ў строгі англійскі касцюм. І зноў у пакоі застракатала швейная машынка "Зінгер". Мама аж памаладзела, седзячы за ёю.

Праз некалькі дзён Соня забірала абнову. Мама загарнула ў газету яе халацік і новую сукенку, а касцюм прымусіла надзець.

— Ну вось, цяпер вы прынцэса, — сказала мама, любуючыся маладой прыгожай жанчынай і сваёй работай. — Цяпер вам толькі прынца й не хапае.

Соня горка ўсміхнулася:

— Мне б з голаду не памерці ў гэты цяжкі час, — адказала яна, цалуючы маму і выходзячы з пакоя.

— Мама таксама выйшла і доўга стаяла на вуліцы, гледзячы ёй услед…

•

Белыя тапаліныя пушынкі плавалі ў паветры, садзіліся на галовы рэдкіх прахожых, збіраліся па краях лужын, і тады здавалася, што гэта не тапаля цвіце, а снег упаў летам на зямлю з хмурага неба.

Быў чэрвень сорак чацвёртага. У горадзе трывожна. Фашысты хапалі на вуліцах мужчын і адводзілі невядома куды. А ў бок Дома ўрада паўзлі вялікія, цяжкія машыны.

У адзін з такіх дзён да нас прыйшла дзяўчынка-падлетак — Мая Лазоўская.

— Мама сказала ісці да вас, што ў вас яна мяне знойдзе.

Амаль год назад усю іх сям'ю фашысты арыштавалі. Турма, канцлагеры…

Мама накарміла нечаканую госцю, запаліла ў печы, каб награць вады, адмыць яе, спаліць лагерную адзежу, у якой, вядома ж, былі паразіты, частым грэбенем вычасаць яе хоць і кароткія, але густыя чорныя валасы.

І толькі пасля гэтага сталі слухаць яе расказ.

…У вялікі двор канцлагера па вуліцы Шырокай (цяпер Куйбышава), дзе да вайны выгульвалі коней, бо там былі канюшні, з раніцы наехала многа грузавых машын, крытых чорным брызентам. З баракаў, былых конскіх стайняў, сагналі вязняў. І вось ужо машыны, набітыя вязнямі, гатовы выехаць з двара, каб ехаць, як ім сказалі, у другі канцлагер.

З самага краю адной машыны сядзела Мая, яе маці і пяцігадовая Ларыса. Бацька быў у другой машыне. Па двары лёталі тапаліныя пушынкі і адну з іх злавіла Ларыса.

— Мама, глядзі, што ў мяне ёсць! Маленькі парасончык!

Яна разняла пальчыкі, вецер падхапіў пушынку і панёс. Ларыса заплакала.

— Не плач, я табе налаўлю іх многа. — Мая скокнула ўніз і пачала бегаць, лавіць пушынкі. Але вецер, нібы знарок, падымаў іх усё вышэй і гнаў у бок варот. Мая бегала за імі, падскокваючы, забыўшыся, што да варот падыходзіць строга забаронена.

Вартавы немец, што стаяў з аўтаматам, схапіў яе за руку, і не паспела яна спалохацца, як апынулася… за варотамі. Хацела вярнуцца назад, каб быць разам з усімі, стукала кулачкамі па жалезе, але пачула гучны голас немца:

— Wek! Wek!

Ад страху лягла ў канаву, каб яе не было відаць, і заплакала.

Пачуўся гул матораў. Вароты расчыніліся і пачалі выпаўзаць машыны. У адной з іх убачыла маму з Ларысай.

— Мама, што мне рабіць? — паспела крыкнуць.

— Ідзі да цёці Мусі. Мы цябе там знойдзем.

І яна прыйшла да нас…

Мама паклала яе на ложак, і Мая імгненна заснула. Прычыніўшы шчыльна дзверы пакойчыка, мы выйшлі на кухню параіцца, што рабіць. Як сказаць гаспадарам кватэры, хто яна?

Жылі мы ўжо на Паўночным завулку, бо пасля забойства Вільгельма Кубэ ўвосень сорак трэцяга ўсіх жыхароў выселілі з Грушаўкі. Нас пусцілі ў гэты маленькі пакойчык. Гаспадары днямі адсутнічалі і ім патрэбны былі вартаўнікі, каб не абрабавалі.

Стукнулі веснічкі. Я глянула ў вакно. На двор зайшлі два немцы.

— Мама, немцы!

Калі яны прыйшлі па вязня канцлагера, то нас усіх расстраляюць на месцы. Мы гэта разумелі. Мама кінулася да Маі, пачала будзіць:

— Дзетка, прачніся, лезь пад ложак, можа, шукаць не будуць.

А ў дзверы ўжо стукалі.

Але на наша шчасце, немцы ў хату не зайшлі. Яны спыталі толькі, ці ёсць у нас мужчыны. Мама адказала, што няма. І яны пайшлі. Былі нейкія разгубленыя.

Зноў стукнулі веснічкі. Мы падумалі, што вярнуліся немцы, а гэта прыехалі на машыне гаспадары. Убеглі ў дом, схапілі падрыхтаваныя загадзя клункі і, нічога не сказаўшы нам, выбеглі. Толькі пасля мы зразумелі: яны ўцяклі з немцамі…

Мы прыслухоўваліся, стараліся злавіць, пачуць глухія, ледзь чутныя гукі далёкай кананады. Здагадваліся, радаваліся, што гэта нашы ідуць вызваляць Мінск. Як і ў пачатку вайны, горад гарэў. І цяпер яго палілі фашысты, палілі тое, што не паспелі вывезці. Тушыць не дазвалялі. Ды і не было чым. Воданапорныя вежы ўзарваны, у горадзе не было вады.

Ішлі дні. Бацькі па Маю не прыходзілі.

Па радыё перадавалі: "3-га ліпеня ў 12 гадзін усе жыхары Мінска павінны з'явіцца на сход каля Дома ўрада. Хто не прыйдзе — будзе расстраляны".

(Заканчэнне на стар. 14 – 15)





## *Каляндар... кліча ў Віцебск*

**Мініяцюрны табель-каляндарык выдалі віцябляне. Аздоблены ён малавядомым фотапартрэтам Івана Салярцінскага, выдатнага музычнага дзеяча і літаратара. З яго імем, як вядома, звязаны адметныя старонкі культурнага жыцця Віцебска 20-х гадоў мінулага**




**стагоддзя. Каляндарык нагадвае, што сёлета з дня нараджэння Салярцінскага спаўняецца 100 гадоў. Юбілейная дата прыпадае на 3 снежня. Гэта крыху меней, чым праз год. Але ўжо зараз маленькі каляндар звяртае ўвагу на вялікую падзею і нібы запрашае ў Віцебск — на традыцыйны Міжнародны музычны фестываль імя І. Салярцінскага, што мае адбыцца ўжо чатырнаццаты раз і, як заўжды, — на пачатку першага месяца зімы.**

**С. Б.**

## *Балет у плакаце*

**Самыя розныя календары павядуць нас па новым, 2002 годзе. Адзін з найвялікіх паводле памераў і адзін з найбольш маляўнічых, па-мастацку аформленых сёлетніх календароў называецца "Найноўшая гісторыя беларускага балета ў плакаце". Як вядзецца, кожны аркуш гэтага шыкоўнага выдання змяшчае табель-каляндар на месяц. Але галоўнае тут — вялізныя каляровыя фота. Кароткі тэкст за подпісам мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі Валянціна Елізар'ева ўдакладняе, што гэты каляндар — своеасаблівая гісторыя тэатра ў плакатах. Гісторыя апошніх дзесяцігоддзяў.**

**Гартаючы старонкі з эфектнымі маляўнічымі здымкамі, на якіх адлюстраваны сцэны з лепшых спектакляў, можна ўявіць сабе і летапіс прэм'ер, і сузор'і салістаў, і гастрольную геаграфію беларускай балетнай трупы — а гэта больш за 30 краін, дзе (бывала, неаднойчы!) праходзілі выступленні нашых артыстаў на працягу апошніх 15-ці гадоў.**

**Частка плакатаў выдавалася за мяжой, так што нашы айчынныя прыхільнікі харэаграфічнага мастацтва бачаць іх упершыню. Паводле слоў В. Елізар'ева, Беларускі балет мяркуе пазнаёміць нас са сваімі новымі плакатамі, якія ўпрыгожаць не толькі гарадскую рэкламу, але і традыцыйны насценны каляндар.**

**С. ВЕТКА**

## *"Бязмежжа" пашырае межы*

**У Гайнаўцы адбыўся чарговы, шосты беларуска-польскі літаратурны семінар "Бязмежжа". Яго ідэя — ідэя пераадольвання межаў, палітычных і культурных, бязмежжа літаратурных пошукаў і чалавечых сустрэч — нарадзілася на Беласточчыне і адразу была падтрымана ў Беларусі, асабліва ў памежных з Польшчаю рэгіёнах. І адметнасць апошняга "Бязмежжа" якраз у тым, што яно было рэгіянальнае. Разам сабраліся літаратары і творцы з Беласточчыны, Віленшчыны, Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны.**

**У першы дзень семінара вялася шырокая дыскусія вакол новага літаратурна-мастацкага часопіса "Правінцыя", які пачаў выходзіць на Беласточчыне, выпрацоўваліся далейшыя яго змест і канцэпцыя. Завяршыўся вечар прэзентацыяй літаратуры сучаснай Гарадзеншчыны, якую прадстаўлялі вядомы гарадзенскі паэт Юры Гумянюк, журналіст і паэт з Ліды Юрась Карэйва, рэдактарка жаночага часопіса "Саламея" Алена Сіневіч, аўтары-выканаўцы сваіх песень Валеры Жамойцін і Вольга Хвашчынская. Зрэз літаратурнай сітуацыі на Берасцейшчыне зрабілі кобрынскі празаік і драматург Ігар Сідарук і маладая паэтка Ярына Дашына.**

**На другі дзень адбыўся дыскусійны форум "Польска-беларускае літаратурнае супрацоўніцтва на правінцыяльным узроўні", а таксама аўтарскі вечар Алега Мінкіна — паэта і перакладчыка з Вільні.**

**І. Х.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Бразільскія матывы на сцэне ТЮГа

Гарачыя бразільскія тэлесерыялы ўтульна адчуваюць сябе на нашых, сярэдніх, шыротах. Хочацца зазірнуць у чароўны свет, дзе паспяваюць ананасы і какосы, адкуль да нас трапляе духмяная кава, дзе заўсёды цёпла і людзі сустракаюць адзін аднаго самымі дружалюбнымі абдымкамі...

"Гісторыя кахання Паласатага Ката і сеньярыты Ластаўкі" бразільскага пісьменніка Жоржы Амаду зацікавіла рэжысёра і актрысу Валянціну Еранькову даўно. Некалі гэта "Гісторыя..." ужо ішла ў памяшканні Тэатра юнага гледача... на прыступках фае. Тут "размяшчалася" Малая сцэна тэатра. Прайшло шмат год. Прыступкі, на якіх калісьці разыгрывалася драматычная гісторыя кахання, прывялі на другі паверх тэатра, ва ўтульную, з купалам замест столі і цудоўнай акустыкай, залу. Эксперыментальная (ці Малая) сцэна ТЮГа знаходзіцца цяпер тут. Зусім новую пастаноўку Валянціны Ераньковай паводле твора Жоржы Амаду тут паказваюць чатыры разы на месяц.



Навіна пастаноўкі перш за ўсё ў тым, што "Гісторыя кахання..." пераўтварылася ў сапраўдны сучасны мюзікл. Аснову спектакля складае таленавітая музыка кампазітара Аляксея Ераňкова. Песні, танцы і проста музычны «фон" з'яўляюцца падмуркам, на якім рэжысёр будуе мізансцэны, праектуе тэмпарытм дзеяння. Акцёры на ім жа раскрываюць свае незвычайныя вакальныя здольнасці.

Стваральнікі спектакля з першых хвілін гучна абвяшчаюць жанр пастаноўкі. Стылёва ён нагадвае нашумелы ў Расіі мюзікл "Метро". Дарэчы, спектакль амаль не мае прыкмет заходняй тэатральна-музычнай культуры. Увага стваральнікаў скіравана, хутчэй, ва ўсходні бок, больш арганічна прыстасаваны да нашых умоў тэатральнай творчасці. На масток-подыум выбягае моладзь — наўмысна сучасная па стылі вопраткі, рухам і манерай размаўляць. Юнакі і дзяўчаты гараць жаданнем паказаць на гэтым подыуме нешта рэвалюцыйна новае, што пераверне ўяўленне публікі аб тэатральным мастацтве. (Дарэчы, гэта і зрабіў спектакль "Метро".) Моладзь стварае на подыуме "спектакль у спектаклі": размяркоўвае ролі, задае рытм "імправізаванай" пастаноўкі.

МАЙСТЭРНЯ

# Настрой адлётнага імгнення

"Я заўсёды зыходжу з канкрэтных зрокавых уражанняў, імкнуся ўвасобіць вечную і чыстую, Богам створаную Прыроду і чалавека як часцінку яе. Кожны, нават самы просты матыў, калі ён азораны і сагрэты гарэннем душы мастака, — варты адлюстравання і нясе ў сабе боскую сутнасць свету. Люблю пісаць па некалькі разоў адзін і той жа краявід, бо кожны стан прыроды — як музыка. Мяне цікавіць не партрэтнае падабенства мясцовасці, а настрой кароткага адлятаючага імгнення. Ніколі не пішу таго, што добра не ведаю, не адчуў. Даражэй за экзотыку мне родны, да болю ў сэрцы знаёмы пейзаж".

Гэтыя словы мастака Міколы Ісаёнка — як характарыстыка ўсёй яго творчасці. Пасля заканчэння мастацкай вучэльні ён пастаянна ўдзельнічае ў выставах. Яго карціны атрымлівалі высокія ўзнагароды ўжо ў 80-х гадах (у 1983 г. за карціны "Адраджэнне" — прэмія ЦК ВЛКСМ Беларусі і "Лён Беларусі" — дыплом Акадэміі мастацтваў СССР). Многія палотны закуплены Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэяй, Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі, рознымі музеямі краін СНД, Віланоўскім універсітэтам (ЗША), галерэяй Людзвіга (Германія), галерэяй Гекаса (Японія), ёсць яны ў прыватных калекцыях Бельгіі, Германіі, Англіі, Францыі, Італіі, Ізраіля, Канады, Японіі, Венгрыі, Галандыі, Люксембурга і іншых краін. Гэта сведчыць, што мастак адбыўся і яго прызналі не толькі на радзіме. Мікола Ісаёнак не здраджвае жанру пейзажа, што не так ужо часта сустракаецца ў сусветным мастацтве. Ён цалкам аддае сваю любоў роднай зямлі праз свае краявіды. У майстэрні, у вясковым доме, дзе Мікола жыве разам з жонкай Марыяй, таксама мастачкай, большую частку года, дзверы не зачыняюцца, сюды прыходзяць, прыязджаюць з усяго свету, каб адагрэць душу, зачаравацца выдатнымі краявідамі. І, зразумела, абавязковая тут і задушэўная размова пра мастацтва.

А яшчэ Мікола Ісаёнак лічыць, што трэба як мага больш падарожнічаць, уражвацца і пісаць, пісаць... Натуральна, можна маляваць, не выходзячы за парог майстэрні. Але як? "Другім разам напішу карціну, а яна мёртвая. І тады бярэш пэндзаль і перапісваеш усё наноў. Хоць рынак дыктуе мастакам свае правілы і можна проста працаваць на гэты рынак, але мастак павінен жыць і працаваць не дзеля кавалка хлеба, ён павінен паказаць прыроду, падкрэсліць найтанчэйшыя нюансы настрою, адценні душэйшых перажыванняў". Мікола Ісаёнак сапраўды адкрыў у няяркіх, стрыманых фарбах беларускай зямлі асаблівае каларыстычнае бачанне, багацце, якое ў яго краявідах дасягнула чысціні тону. У Беларусі высокая прафесійная жывапісная школа, лічыць ён. І сам з'яўляецца найлепшым яе прадстаўніком. У свой час пошукі мадэрну не абмінулі і Міколу Ісаёнка, але мастак здолеў застацца самім сабою, шукаць свой шлях і сёння. Ён удасканальваецца, лічыць, што нашы мастакі не рэалізаваныя. Для гэтага дзяржава павінна быць багатай, людзі таксама. Тады і мастакам будзе прасцей.





Апошнім часам М. Ісаёнак захапляецца невялікімі па памеры, камернымі працамі. На маё пытанне, чаму, ён адказаў: маленькая скрыпка можа іграць лепш за вялікае фартэпіяна. Пейзаж адзін і той жа можна паўтараць шмат разоў, бо ён, як музыка, у кожнай рабоце гучыць па-іншаму. Я думаю пра фарбы, пра свет і кампазіцыю, якія галоўныя для мастака. Адной фарбай можна перадаць стан дня і вечара, раніцы і змяркання. Так, напрыклад, спектральнымі чыстымі фарбамі піша зараз Ісаёнак сонечную зіму.

Цяпер мастак рыхтуецца да выставы. У яго шмат работ, але многа і новых задумак.

**Галіна ФАТЫХАВА**

*На здымках: мастак М. Ісаёнак у майстэрні; "Рамонкі", 2001; "Сакавік", 2000; "Адліга", 2000.*

*Фота Я. КОКТЫША*

Што ў літаратуры можа быць цікавей за прытчу ці алегорыю? У творы Жоржы Амаду, вядома ж, Кот — не проста дваровы драпежнік, а Ластаўка — птушка, якая ловіць у сінім небе чорных мошак. За гэтымі вобразамі хаваюцца пазнавальныя характары людзей.

...Баязлівая, сарамлівая Ластаўка (Юлія Палубінская) пакахала самаўпэўненага Ката (Сяргей Чакярэс). Гэта здарылася пад уплывам веснавога настрою, калі ўсё ў прыродзе абуджаецца насустрач любові. Аднак вясновая казка для Ластаўкі пераўтвараецца ў драму.

Такое каханне, што перажылі Кот і Ластаўка, не кожны зведаў. Нават больш за тое. Такога сюжэта на самую ўлюбёную сярод творцаў тэму, бадай, не сустрэнеш, цяпер у тэатры ўвогуле — так "нечакана" і, разам з тым, праўдзіва паказана драма кахання.

Хаця Ластаўка і Кот у спектаклі — персанажы роўнавялікія, у першым дзеянні "мужчынская" палова драмы застаецца ў цені. Вобраз Ката, бадай, больш ілюструе ўмовы сітуацыі, вакол якой разгарнулася дзеянне, чым непасрэдна дзейнічае. Мы бачым сімпатычную істоту, якая заўсёды думае аб нечым "сваім", іграе ролю філосафа, ці сапраўды такім сябе лічыць. Створаны Сяргеем Чакярэсам вобраз ідэальна падыходзіць, каб выклікаць суадноснае пачуццё з боку рамантычна настроеных жанчын.

Нават болей увагі, чым Кату, у першым дзеянні спектакля надаецца іншым жыхарам бразільскай сядзібы: Карове, Дацкаму Сабаку, Салаў'ю, Саве, Папугаю (артысты Вольга Бранкевіч, Васіль Казлоў, Андрэй Каламіец, Наста Шпакоўская, Міхась Есьман). У кожнага з іх ёсць свая "зорная" арыя, прыдуманая кампазітарам, свае жыццёвыя праблемы, нават сваё каханне. Але іх пачуцці выглядаюць будзённа. Мабыць, кожную вясну яны перажываюць усплёск пачуццяў, які канчаецца высвятленнем адносін і заспакаеннем. Для Ластаўкі ж гэта, напэўна, упершыню...

Сумненні — не лепшы сябар кахання. Калі сумняваешся, мабыць, ужо не кахаеш. Другое дзеянне спектакля прысвечана менавіта гэтай сумнай тэме. Часткова з прычыны нагавораў з боку знаёмых, часткова з-за пачуцця здаровага сэнсу Ластаўка пачынае адыходзіць ад аб'екта сваіх пачуццяў. Яна адыходзіць, а асоба Ката выходзіць на першы план.

Толькі на першы погляд тое, што адбываецца ў другім дзеянні спектакля, здаецца менш цікавым. Вядома, падаваць каханне ў яго яскравай рамантычнай выяве — справа больш удзячная, чым паказ пачуцця, якое паступова згасае. Разумеючы гэта, рэжысёр уводзіць у другім дзеянні "магутную артылерыю" — каскад яркіх візуальных эфектаў, якія аздабляюць непазбежны сум герояў. Спектакль пераўтвараецца ў рэвю. Пачынаецца канцэрт, складзены з самадастатковых, прыгожых музычна-танцавальных нумароў, якія аб'ядноўвае адзін сюжэт: Ластаўка перагледзе свае думкі і ўчынкі і... выходзіць замуж за Салаў'я.

Гэта ўжо амаль не хвалявала Ката. Але ён яшчэ ніколі не бачыў кахання на мяжы рызыкі, на мяжы ахвярнасці. Ластаўка пакахала яго насуперак усім астатнім "бразільцам". І цяпер Кот настолькі паважае, — менавіта больш паважае, чым кахае, — маленькую птушку, што амаль не злуецца, калі бачыць тую ў шлюбным вэлюме. Гэтае новае пачуццё Кот панясе з сабой, у будучыню...

Яркая музычная частка спектакля і авангардная рэжысура, вядома, не могуць не ўплываць на "празрыстасць" аўтарскай думкі, на яснасць літаратурнай часткі дзеі. "Нітка" сюжэта падчас губляецца, але яе "знаходзяць" і плятуць прыгожа карункі далей.

**Андрэй АХМЕТШЫН**

*На здымку: сцэна са спектакля.*
*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*





ГАСЦЁЎНЯ

# "Люблю, калі ёсць што спяваць..."

***Паўнютканая зала, мора кветак і віншаванняў (не толькі ад сяброў і прыхільнікаў, але і ад высокіх афіцыйных асоб), прыгожая музыка і цудоўныя галасы — усё гэта прыкметы нядаўняга бенефіса народнай артысткі Беларусі Вікторыі Мазур, вядучай салісткі Дзяржаўнага музычнага тэатра. Бенефіс быў прысвечаны юбілею Вікторыі Мазур, з якой пагутарыў няштатны карэспандэнт "ЛіМа".***



**— Скажыце, Вікторыя Мікалаеўна, вы з акцёрскай сям'і?**

— Не, акцёраў у маёй сям'і няма і ніколі не было. Маці мая медык, а тата — вайсковец. Нарадзілася я ў Магілёве. Там жа скончыла сем класаў агульнаадукацыйнай школы, а таксама музычную па класе фартэпіяна. Паступіла ў музычнае вучылішча на спецыяльнасць "харавое дырыжыраванне". А потым была кансерваторыя — вакальнае аддзяленне, я вучылася ў класе Арсена Канстанцінавіча Карынскага разам з Валерыем Кучынскім ды Аляксандрам Рудкоўскім.

**— Чаму раптам вакал?**

— А я яшчэ маленькай спявала. Колькі сябе помню, увесь час пяю. Наша сям'я жыла ў вельмі цікавай мясціне: дом стаяў у бярозавым гаі. А навокал — палі, цудоўная прырода. Два дамы вайсковага гарадка стаялі проста сярод дрэў. Помню, калі мне было 8 ці 9 гадоў, прайшоў фільм "Страказа" (тэлевізара не было і кіно лічылася адзінай радасцю). Гераіня фільма сядзела на галінцы і спявала: "Чудный май, желанный май, ты отраду сердцу дай". Песенька мне надзвычай спадабалася, я хадзіла па лесе і тое самае спявала, пераймаючы гераіню...

**— А якім вы былі падлеткам?**

— Ой, хуліганка была! Была адчайная, смелая, нічога не баялася. Лазіла па садах, біла хлапцоў, калі заслугоўвалі. Была вельмі вольная і незалежная. Гадавалася на прыродзе. Мы спакойна хадзілі ў лес (вайсковы гарадок — даволі закрытая тэрыторыя). Зімой станавіліся на лыжы, я і на каток лётала...

**— Бацькі не спрабавалі вас перавыхаваць?**

— Ой, спрабавалі. Але я лічу, што лепш дзецям не перашкаджаць расці такімі, якія яны ёсць. Няёмка, канечне, гаварыць так пра сябе, але ў мяне праяўляўся яркі музычны талент. А калі трэба было рыхтаваць урокі, я доўга не сядзела: вывучу — адкажу і хутка забуду. Школу я скончыла з добрымі адзнакамі. Наша пакаленне гадавалася здаровым — не было дрэннай экалогіі, я не помню, каб хварэла. У школу хадзілі пешшу праз пасёлак і ў гразь, і ў холад. Ды ў самой школе раней было зусім па-іншаму: ішоў урок, і паўсюль стаяла неверагодная цішыня... Калі я потым хадзіла ў школу да сваёй дачкі, мяне абураў страшэнны вэрхал і тое, што дзеці бегалі па калідорах!

**— Пагаворым пра ваша жыццё ў тэатры...**

— Я вучылася на чацвёртым курсе кансерваторыі, калі пачынаў арганізоўвацца Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Беларусі. Вясной 1970 года быў абвешчаны конкурс для яго будучых артыстаў. Я, праўда, асабліва не імкнулася працаваць у жанры аперэты, таму што марыла пра оперу. Але я прайшла па конкурсе, і мяне ўзялі ў тэатр. Як зараз помню, залічылі мяне ў трупу 13 чэрвеня, а 10 верасня я ўжо спявала Віялету ў аперэце "Фіялка Манмартра" Імрэ Кальмана.

**— Якую з вашых партый вы любіце больш за ўсё?**

— Напэўна, Сільву. Але мне падабаюцца і характарныя ролі. А ўвогуле, я люблю класіку, дзе ёсць што спяваць.

**— А ці ёсць гераіня, у якую б вы згадзіліся пераўвасобіцца не толькі на сцэне?**

— Класічная аперэта заўсёды мае добры канец: не так дрэнна быць і Сільвай, і Марыцай. Кожная ўрэшце выходзіць замуж. І багатая, і шчаслівая, і прыгожая, і пры мужы... (Смяецца. — **В. Н.**) Амаль ува ўсіх венскіх аперэтах так атрымліваецца.

**— Вы хацелі спяваць у оперы... А як вы сёння ставіцеся да аперэты?**

— Я люблю яе. Проста калі толькі прыйшла ў тэатр, не вельмі добра ведала гэты жанр. А калі паглыбляешся ў дзеянне, у музыку, пачынаеш разумець, што ўсё гэта цудоўна. Як можна не любіць Штрауса?! Калі я яшчэ ў маленстве выпадкова чула па радыё вальс Штрауса, дык гэта было такое шчасце! Я сядзела, стаіўшы дыханне, і слухала... Дарэчы, у гэтым сезоне буду ўваходзіць у "Лятучую мыш", проста з-за бенефісу працу над роллю Разалінды давялося адкласці. Пасля прэм'еры навагодняй імпрэзы "Галактыка кахання" трэба ўспамінаць Ганну Галавары ў "Вясёлай удаве"...

**— Вы не падлічвалі, колькі роляў сыгралі на сённяшні дзень?**

— Трэба падлічыць. Я думаю, што каля 40-50. Бывала ж, я іграла некалькі роляў у адным спектаклі. Напрыклад, у "Фіялцы Манмартра" — то я Віялета, то Мадлен, у спектаклі "Чацвёра з вуліцы Жанны" — то Каця, то Марыя і гэтак далей.

**— Як вы ацэньваеце творчы ўзровень цяперашняга Дзяржаўнага музычнага тэатра ў параўнанні з мінулымі гадамі?**

— Першыя 10-12 гадоў жыцця тэатра былі, напэўна, самыя яркія. Гэта быў неверагодны ўзлёт. У тэатры працавалі вельмі добрыя артысты: Юрый Лазоўскі, Таіса Брагіна, Уладзімір Лінкевіч, Віктар Шаўкалюк... Потым пачало ўсё мяняцца. Цяпер, што ні кажы, тэатр зрабіўся намнога слабейшы. Але прыйшоў новы дырэктар — будзем чакаць добрых зменаў. Ёсць добрыя акцёры: Бажэнаў, Крайнікава, Пятліцкая, Вяржбіцкая... Моладзь цікавая: Шыцікава, Мартынюк... Паглядзім, што будзе далей...

**— Ці ёсць сярод іх вашы сябры?**

— У нармальнага чалавека павінны быць сябры, іншая справа — якія і колькі. Сапраўдных сяброў многа не бывае. А тым больш у актрысы. Тых жа людзей, каму можна даверыцца, — зусім мала. Я не буду зараз называць сваіх тэатральных сяброў, а скажу пра сваю найлепшую сяброўку — Людмілу Якімчык. Яна зусім не звязана з тэатрам, працуе дырэктарам магазіна. Гэта вельмі блізкі для мяне чалавек. Ведаеце, я думаю, сябры пазнаюцца не ў бядзе, а ў радасці. Бывае, чалавек, пачуўшы пра твае поспехі, робіцца літаральна чорным. А Людміла шчыра радуецца маім добрым навінам. Гэта дзівосны чалавек.

**— Вы аптыміст?**

— Скажам так: я рэаліст з аптымістычным пачаткам. Стараюся быць аптымістам, у мяне для гэтага ёсць падставы: любімая работа, добрыя адносіны з дачкой, цудоўная ўнучка. Ёсць рэчы, дзеля якіх трэба жыць. У шчасця, канечне, ёсць многа граняў. Я люблю вандраваць — тое, што сёння не заўсёды магчыма: раней і гастроляў было больш, і вандраваць было прасцей. Лепш за ўсё я адпачываю на моры. Вельмі люблю ваду, люблю плаваць, акунацца ў цёплае мора... Я вельмі люблю жывёл — усіх. Гляджу адпаведныя тэлеперадачы. У мяне ёсць сабака: карлікавы пудзель, якога клічуць Тоні. Калі б была магчымасць, я б трымала больш жывёл, але гэта ж не проста. І часу няма. Калісьці ў мяне жылі нават тры сабакі. Падбірала бяздомных, потым аддавала ў добрыя рукі. А яшчэ я вельмі люблю чытаць. Не магу заснуць, пакуль што-небудзь не пачытаю. У дзяцінстве чытала ўсё запар, нават позна ўвечары хавалася пад коўдру і чытала з ліхтарыкам. Цяпер вакол нас многа інфармацыі, многа заходніх фільмаў, якія разбэшчваюць маладых людзей. Мы ў іх узросце жылі кнігамі...

**Гутарыла**
**Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*На здымку: Вікторыя Мазур у дуэце з Пятром Рыдзігерам.*
*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## *Рыхтуецца новая экспазіцыя*

**Сяргей Сіпач — пухавіцкі краязнаўца. У свой час у знакамітай пухавіцкай партызанскай вёсцы Гарэлец (пры руплівай падтрымцы старшыні мясцовага калгаса імя Янкі Купалы У. Захарэвіча) ён стварыў музей "Партызанская слава". Цяпер гэты музей набыў сапраўды новае дыханне, з'яўляецца філіялам Пухавіцкага раённага краязнаўчага.**

**Сёння С. Сіпач працуе над стварэннем літаратурна-краязнаўчай экспазіцыі ў музеі "Партызанская слава". Падставы на тое ёсць самыя красамоўныя. Мясцовы калгас, як бачым, носіць імя народнага паэта Беларусі. Дарэчы, спашлёмся на біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі": "На Беларусі імем Янкі Купалы названы 4 калгасы — у Стаўбцоўскім, Пухавіцкім, Аршанскім і Клімавіцкім раёнах... вёска ў Пухавіцкім...." У 1982 годзе Гарэлец наведалі Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, пісьменнікі Станіслаў Шушкевіч, Аляксей Кулакоўскі.**

**У гарэлецкіх, панадпцічанскіх лясах партызаніў рускі пісьменнік Усевалад Саблін. У час Вялікай Айчыннай вайны Рудзенскі падпольны райкам КП(б)Б выдаў кнігу яго вершаў "Мстители". Тонкія нітачкі гістарычнай памяці яднаюць Гарэлец і з Якубам Коласам. У свой час дырэктарам Гарэлецкай школы з'яўляўся таварыш Якуба Коласа па Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Раман Фяневіч. Частым госцем у Гарэльцы, суседніх вёсках быў вядомы беларускі празаік Макар Паслядовіч.**

**Мажліва, хтосьці, прачытаўшы гэтую інфармацыю, зможа дапамагчы Сяргею Іванавічу ў стварэнні літаратурна-краязнаўчай экспазіцыі. Тады пішыце на адрас: Мінская вобласць, Пухавіцкі раён, Гарэлецкі сельсавет, вёска Гарэлец, музей "Партызанская слава", Сяргею Іванавічу Сіпачу.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## *Паплечніца вялікага Купалы*

**У Нацыянальным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася сустрэча, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння вядомага педагога, паплечніцы і жонкі Янкі Купалы Уладзіславы Францаўны Луцэвіч.**

**Успомніць цёцю Уладзю, аддаць даніну павагі яе дабрыні да людзей прыйшлі паэты Мікола Аўрамчык, Пятро Прыходзька, акадэмік Радзім Гарэцкі, пісьменнік-краязнаўца Уладзмімр Содаль. Яны расказалі пра цярплівасць і мужнасць Уладзіславы Францаўны, успаміналі выпадкі жыцця цёці Уладзі і Янкі Купалы.**

**На вечарыне таксама выступалі выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Тамара Тамашэвіч і Аляксей Захараў. Ды самым прыемным і кранальным было выступленне дзетак дзіцячага садка N 208 Заводскага раёна, якія прыгожа спявалі песні на беларускай мове, чыталі жартоўныя вершы з кніжак Уладзіславы Францаўны Луцэвіч.**

**Успомнілі добрым словам цёцю Уладзю і пляменнікі Янкі Купалы Ядвіга Раманоўская і Уладзіслаў Раманоўскі.**

**Асаблівы каларыт у атмасферу сустрэчы ўнеслі навучэнцы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа N 1, будучыя настаўнікі беларускай філалогіі, якія чыталі свае вершы. Яны зачаравалі прысутных "вянком" вершаў пра кветкі і расліны, якія "селяцца" каля каледжа. Сярод чытальнікаў былі Валерый Змітровіч, Юлія Шавель, Андрэй Грыгаровіч, Ганна Кананові, Таццяна Чачэнька, Ірына Рудовіч, Мікола Кацуба, Вольга Туравец, Вікторыя Бутурля.**

**Вядучая вечарыны Марыя Чабатарэвіч яшчэ і яшчэ раз адзначала абаяльнасць, энергічнасць цёці Уладзі, паплечніцы паэта.**

**Мы, навучэнцы і выкладчыкі МДПК N 1, хочам выказаць падзяку дырэктару Нацыянальнага літаратурнага музея Янкі Купалы Ж. Дапкюнас, яго супрацоўнікам, а таксама ўсім тым, хто не забывае вялікіх людзей сваёй Бацькаўшчыны.**

**Андрэй ГРЫГАРОВІЧ,**

**навучэнец Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа N 1**

ВІНШУЕМ!

# "Лімаўскі радок" у біяграфіі

## Веры ВЯРБЕ — 60

З першымі вершамі слынная паэтка Вера Вярба выступіла ў часопісах "Полымя", "Вясёлка", "Работніца і сялянка" ў шаснаццацігадовым узросце, а ў 1962 годзе стала аўтарам першай паэтычнай кнігі "Вочы вясны". На творчым рахунку Веры Вярбы і іншыя зборнікі: "Белыя пісьмы", "Высакосны год", "Сіняя бухта", "Альфа", "Мая маленькая планета", "Яраслаўна", кнігі выбраных твораў "Выбранае" і "Белыя пісьмы". Маленькіх чытачоў яна парадавала зборнікам "Пралеска". У перакладзе Веры Вярбы на беларускай мове ў 1975 годзе асобнай кнігай пабачыла свет вядомая аповесць Р. Фраермана "Дзікі сабака Дзінга, альбо Аповесць пра першае каханне". Сапраўдную ж вядомасць паэтэсе прынесла песня "Ручнікі" (музыка М. Пятрэнкі), якую многія ўспрымаюць народнай.

Вера Вярба — выпускніца філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працавала ў аддзеле прапаганды літаратуры Упраўлення кніжнага гандлю Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку, у рэдакцыі часопіса "Беларусь". Свой лёс з "ЛіМам" звязала ў 1972—1977 гадах.



З юбілеем, шаноўная Гертруда Пятроўна! Далейшых Вам жыццёвых і творчых набыткаў!

**Н. К.**

*Фота Ул. КРУКА*

# Праз гады

## Яўгену КАРШУКОВУ — 70

***Выпускнік факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта Яўген Каршукоў працаваў адказным сакратаром акцябрскай раённай газеты "Чырвоны Кастрычнік", загадчыкам аддзела веткаўскай раёнкі "Пад ленінскім сцягам", рэдактарам шматтыражнай газеты панчошна-трыкатажнай фабрыкі "8 Сакавіка" ў Гомелі, старшым рэдактарам на Гомельскай студыі тэлебачання. А з "ЛіМам" свой лёс звязаў у 1971 годзе, стаўшы загадчыкам аддзела літаратуры. Пасля быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Вожык", працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў БССР. У 1980—1989 гадах з'яўляўся галоўным рэдактарам выдавецтва "Юнацтва", а з 1989 года зноў працуе ў апараце Саюза пісьменнікаў.***

***З першымі апавяданнямі і гумарэскамі выступіў у 1955 годзе. Аўтар кніг прозы "У дарогу", "Не без таго...", "Сустрэча", "Бывай, кампанія!", "Перад Новым годам", "Пісьмо жонцы" і іншых. Парадаваў ён сваім майстэрствам і юных чытачоў: "Змоўшчыкі", "Пасланне нашчадкам". Са славацкай мовы пераклаў зборнікі апавяданняў "Апошні вераснёвы дзень", "Разбуджаны голас", раман Р. Морыца "Выбух". Пераўвасабляе па-беларуску і творы рускіх, украінскіх і польскіх пісьменнікаў. А апошнім часам усё часцей выступае як паэт.***

***Віншуючы Яўгена Іванавіча з 70-годдзем, зычым яму жыццёвых і творчых удач!***

Яўген КАРШУКОЎ



# ГУДУЦЬ ПЧОЛЫ

### АПАВЯДАННЕ

Вяртанне з бальніцы — як свята... Вось ізноў я сяджу са сваёй сямейкай у прыбранай утульнай гасцінай і перажываю радасныя хвіліны вяртання дамоў, расказваю пра бальнічнае жыццё-быццё, а жонка, дачка і мая маці слухаюць і не слухаюць, адно — улюбёна ўзіраюцца ў мой твар, нібы цэлы год не бачыліся, нібы я герой з нейкага моднага фільма. І ўсё ж, герой не герой, а выкарабкаўся з бяды, адужаў хваробу.

– Уявіце сабе, — доўжу я гамонку, — ляжаць у палаце трое бледнатварых. Паслухмяныя, пакорлівыя, амаль бездапаможныя інфарктнікі. Не на жартачкі ўстрывожаныя, напалоханыя хваробай. На ўсё чыста згодныя — і безліч лекаў прымаюць, і нудотныя кропельніцы стаяць у іх пры ложку, і розных уколаў ім не шкадуюць. Як той казаў, цярпі казак, атаманам будзеш. А тут — толькі б сэрца падлячыць, вярнуцца да родных-блізкіх жывым-здаровым. Час ідзе марудна. Здаецца, пра ўсё ўжо перадумана, перагаворана. Напэўна, так шчыра, споведна людзі могуць размаўляць паміж сабой, толькі тады, калі іх напаткае нечаканае гора... Дзякуй богу, у мяне з таварышам па ложку пайшло на папраўку неўзабаве, патроху акрыяў, ну, а той стары настаўнік, Сасноўскі... нават не ведаю, што з ім будзе. Урачы маўчаць. Цяжкі выпадак. Ды і гады... Гаротнік Сасноўскі...

– Божачка, божачка, за што чалавеку беднаму кара такая?! — горка сцяўшы губы, кажа маці і цяжка ўздыхае.

Уздыхаюць жонка і дачка. І гэтае шчырае спачуванне Сасноўскаму, чалавеку, якога яны ніколі не бачылі і не чулі, кранае мяне да глыбіні душы, падахвочвае расказваць далей.

– Калі б вы толькі зірнулі на яго: змораны, схуднелы, піжама на ім, як на калку вісіць. Адны вялізныя вочы бліщчаць. Але які мужык! Мы насы павесілі, скардзімся — то тут, то там баліць, а ён трымаецца і нас размовамі сваімі падбадзёрвае. Не паверыце — жартуе нават... Усмешка такая добрая, цёплая, спагадлівая, нібы і няма ў яго тых страшэнных пакут. Успамінае школу, вучняў, пчальнік. Гэтым сваім пчальнікам вушы нам пратрубіў! Самае дарагое ў яго жыцці, аказваецца, дзеці і пчолы. Расказвае, як пчальнік ладзіў на пры школьным участку, як насенне люцэрны купляў ды сеяў... Я пра тую люцэрну і чуць не чуў, дык ён мне цэлую лекцыю прачытаў: самы каштоўны меданос... Толькі сонца ўзыдзе, падсушыць расу, пчолы і ляцяць на кветкі. І ён следам за імі. Прысядзе на ўзмежку і назірае, як пухнатыя прыгажунькі з краскі на краску перабіраюцца, шчыруюць. Сэрца, кажа, ад пяшчоты замірае... Нават у сне трызніць пчоламі: "Цішэй, хлопчыкі... Цішэй! Чуеце? Гудуць пчолы...". А гудуць не пчолы, а старыя водаправодныя трубы ў палаце.

Помніце, прасіў я вас купіць на базары мёду ў сотах? Дык не сабе, Сасноўскаму.... Вы перадалі, а ён нават ні разу чаю з ім не выпіў. Як паставіў слоік на тумбачку, так і стаіць. Затое прачнецца ўранку, здыме накрыўку і нюхае мёд, як кветкі. Твар лагодны-лагодны, і ўсмешка на вуснах блукае. А перад самай маёй выпіскай з бальніцы падазваў да сябе і просіць: "Абяцай, дружа: калі вернешся дамоў — сходзіш на лужок. Паслухаеш, як пчолы спяваюць. Прыйдзеш на адведкі — раскажаш". Паспрабаваў старога падбадзёрыць, маўляў, сам хутка дома будзеш сваіх пчол слухаць. Круціць галавой — кіньце... Не верыць. Я на ўсякі выпадак палатнай медсястры свой тэлефон пакінуў. Ці мала што...

Расчуленая маці ражком хусткі выцірае слязу. І ў жонкі павільгатнелі вочы. Шкада ім Сасноўскага, як і мне. Спахапіўшыся, пераводжу размову на іншае: вунь які прыгожы чэрвеньскі дзень! Пасля спорнага начнога дождджычку на вуліцы ўсё чыстае, свежае, ззяе ў сонечных промнях. Перад нашым домам ярка зелянее купка маладых бярозак. Цёплы ветрык гарэзна рвецца з балкона ў пакой, гуляе са шторамі на вокнах. Я не хаваю свайго настрою і ўжо зусім іншым голасам — вясёлым, жыццярадасным голасам здаровага чалавека прашу жонку:

– Пашукай мой спартыўны касцюм.

– Навошта ён табе зараз?

– Прайду ў наш лясок... Пагуляю трошкі, зусім развучыўся хадзіць.

Мяне спрабуюць далікатна адгаварыць — у лесе сыра, прастудзіцца можна, ці варта рызыкаваць? Але ўсе разумеюць: змаркоціўся я па калматых ялінах, па звычайнай траве-мураве. Ніякія ўгаворы ўжо не падзейнічаюць.

І вось я на вуліцы. Іду няспешна, радуючыся кожнаму свайму кроку. Неадольная прага жыцця перапаўняе ўсю маю істоту. Пераходжу дарогу і асцярожна спускаюся па пясчаным адхоне ўніз. Неўзабаве мікрараён з шэрымі буйнапанельнымі дамамі застаецца ззаду, і зусім іншы свет узнікае перад маімі вачамі: невялічкі травяністы лужок, балотца з блакітнымі акенцамі вады, астраўкамі разгалістай лазы і, нарэшце, наперадзе, на выспе, — цёмназялёная сцяна сапраўднага лесу. Нават не верыцца, што тут, побач з гарадскімі будынінамі, ёсць такі прыгожы, яшчэ не сапсаваны куточак прыроды. Колькі навокал красак, дзьмухаўцоў... Я асцярожна абыходжу гэтыя жоўценькія кветкі-зорачкі, каб крый божа, не наступіць. Не магу стрымаць спакусы — згінаюся над сямейкай пахкіх кветак — зрываю адну з іх, але застываю ад здзіўлення: што гэта за камячок варушыцца, кешкаецца сярод залацістых пялёсткаў? Няўжо пчолка? Яна самая... Не губляе часу, працаўніца. Можа, упершыню я так блізка бачу яе ружовыя крылцы, карычневыя грудкі і чорную бліскучую галоўку, якая раз-пораз хаваецца ў пялёстках. Мабыць, толькі ў дзяцінстве так пільна і назіраў я за рознымі казюркамі. І вось цяпер зноў ахапіла мяне невыказнае, хвалюючае пачуццё далучанасці да непаўторнага свету прыроды.

Раптам нехта асцярожна кранае маё плячо. Азіраюся. Ну, калі ласка, захапіўся, як малое дзіцё! Нават не заўважыў, як падышла дачка. Што здарылася, што яшчэ прыдумалі мае клапатлівыя жанчынкі? Але дачка не спяшаецца адказваць на маё маўклівае пытанне. Марудзіць. Нарэшце кажа, адводзячы свой позірк убок:

– Табе званілі, тата...

– Відаць, з працы? — пытаюся я.

– Ды не... Медсястра званіла з бальніцы.

Я адчуваю, як трывожна пачынае біцца сэрца. Кружыцца галава. Добра, дачка побач. Бярэ мяне пад руку. Ужо зусім ціха дадае:

– Ты не хвалюйся... Твой Сасноўскі... памёр, ноччу. Пайшлі дамоў, татка. Пайшлі.

Але я доўга не кранаюся з месца. Узрушаны, уражаны, гляджу сабе пад ногі, на жоўтыя кветкі. Бачу, як нетаропка, дамавіта апускаюцца, садзяцца на іх пчолы, і нібы чую слабы, урачыста-ўмольны голас Сасноўскага: "Цішэй, хлопчыкі... Цішэй! Чуеце? Гудуць пчолы..."

Гудуць... Тужліва, сумна. І звініць гэтае гудзенне-зумканне ў тугім блакітным паветры, як напятая струна.

# Крыж міласэрнасці,

## або Слова, з паўлірычнымі адступленнямі, з нагоды паездкі ў Вільню

"КРЫЖ МІЛАСЭРНАСЦІ" — раман Валянціны Коўтун пра беларускую грамадскую дзеячку і пісьменніцу Цётку (Алаізу Пашкевіч). Чытач, безумоўна, ведае гэты твор па часопісных публікацыях, па кіно, па кнізе, што перавыдадзена ў 1996 годзе ў "Мастацкай літаратуры" ў серыі "Школьная бібліятэка" (між іншым, гэтае выданне найпаўней асвятляе жыццё і творчасць Цёткі, але паколькі ажыццявілася ў вышэйназванай серыі, то яе, кнігу, можна знайсці толькі ў бібліятэках). Тут я не рэцэнзую "Крыж міласэрнасці", адзначу толькі два свае, глыбока асабістыя ўражанні наконт яго: ён мяняе усталяваны дасюль погляд на Цётку як толькі на апантаную рэвалюцыянерку, ледзь не ідэолага тэрарызму і аўтарку твораў ледзь не сацыялістычнага накірунку — не, "Крыж міласэрнасці", на маю думку, рэальна і справядліва паказвае, што Цётка — найперш зямная жанчына з усімі жаночымі моцаю і слабасцямі, уласцівымі маладзіцы, якая пражыла ўсяго толькі сорак гадоў (яна, народжаная ў заможнай сям'і, змалку не паддалася на спакусу сытага спажывання, а высакародна прысвяціла сваё жыццё, мякка кажучы, няпростаму беларускаму народу, як і яе сучаснікі, героі кнігі В. Коўтун Янка Купала, Карусь Каганец, браты Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі і інш.). Дзеля слаўнай, але заўсёды цяжкай для нацыянальна свядомага чалавека высакароднасці Цётка і настаўнічала, і садзілася за пісьмовы стол, каб сваім духам і словам сцвердзіцца самой і, галоўнае, паварушыць, разбудзіць, заклікаць усвядоміць сябе Чалавекам, Народам шчырага, працавітага, сціплага, але ў нечым знявечанага, угодлівага беларуса, а ўрэшце, ратуючы люд ад тыфусу ў першую сусветную вайну, і памерла ў роскідзе чалавечых, творчых сіл разам з захварэлымі. Такая Жанчына, такая Асоба варта не толькі кнігі, але і помніка ў сталіцы! Ды не будзе! Пры такой нізкай нашай свядомасці і самапавазе і далей будзе красавацца ў нас Калінін ці яшчэ хтосьці такі, хто да Беларусі не мае ніякіх адносін! Па-другое, мне прыемна паўтарыць, што "Крыж міласэрнасці" заўважаны, ацэнены не толькі ў нас, але і ў Літве. Зразумела, не толькі таму, што ў свой час Цётка была жонкай літоўца, Кайрыса, сацыял-дэмакрата, і не толькі таму, што яна добра ведала Вільню і Літву, працавала там, клапацілася пра іх, і не толькі таму, што высакароднасць і міласэрнасць былі, ёсць і будуць найвыдатнымі якасцямі. Карацей, "Крыж міласэрнасці" перакладзены на літоўскую мову (ёсць звесткі, што рыхтуецца пераклад і на ўкраінскую); гэта, безумоўна, — не проста добры жэст, а без лішняй балбатні пра "дружбу" і г.д. культурная падзея, узнаўленне і мацаванне сяброўскіх сувязей не на словах, а на справе, на грунце літаратуры.

Калі тады, ужо некалькі гадоў таму (як хутка бяжыць час!), радасная аўтарка запрасіла разам з ёй, Х. Лялько і А. Разанавым паехаць у Вільню на вітанне літоўскамоўнага "Крыжа міласэрнасці", я ахвотна згадзіўся. Каб і сказаць добрае слова пра добры твор калегі, і каб яшчэ раз пабачыць "красавіцу Вильно" (выраз рускіх, царскіх афіцэраў), ды сваімі вачыма паглядзець, што і як робяць нашы даўнія пабрацімы, і каб, не буду таіцца, пабыць на беларуска-літоўскай мяжы, дзе раней столькі шуму нарабіў П. Шарамет.

Каб трапіць на асабістым легкавіку Х. Лялько на літоўскую зямлю (ох, і зух жа Хрысціна-шафёр!), мы маглі б змарнаваць, бадай, гадзіны дзве, а каб пасля вярнуцца адтуль на сваю, то, відаць, страцілі б гадзін пяць-шэсць з-за чэргаў аўтамабілістаў. Але гэтага не здарылася, бо нас яшчэ на нашым баку сустрэў, а пазней сюды правёў дарадца па культуры беларускага пасла ў Літве Васіль Жлутка — вельмі адукаваны і сімпатычны малады чалавек, які ўвесь той дзень прысвяціў нам і зрабіў усё, каб мы пачуваліся ў Вільні добра.

Мінуўшы мяжу (літоўскія памежнікі сустрэлі, праводзілі прыхільна, нават бралі пад казырок, калі праязджалі нашы машыны), нельга было не адчуць адразу ж: геаграфічна нібы нічога не змянілася, тое ж роўнае ці пагоркавае асеннее поле, тыя ж узлянелыя лугі, статкі кароў на іх, але не, ты ўжо не ў Беларусі, ты — **у Літве**. У Вільні гэтае пачуццё яшчэ болей узмацнілася: ты ў іншай, **сапраўднай дзяржаве!** Блізкі, мілы душы горад, які таксама будавалі, мабыць, яшчэ будуюць і нашы беларусы (праўда, некаторыя акаталічаных сталі палякамі, а праваслаўныя — рускімі), горад, дзе на пачатку гэтага стагоддзя ў поўным сэнсе гэтага слова адраджалася наша Беларусь, а ў 20—30-ыя побач з Савецкай захоўвалася і развівалася, тым не менш ён, гэты горад, Вільня — цяпер **сапраўдная літоўская сталіца!** Не толькі спрэс літоўскамоўнымі шыльдамі і рэкламамі ці яшчэ якім антуражам, а **духам!** Аж зайздросна стала ад гэтага і балюча крыўдна за нас. Не, не ў Еўропе мы, а ў яе закутку, на задворках правінцыйных!

Нас цёпла прыняў тагачасны пасол, Яўген Вайтовіч, расказаў, што і як робіцца ў Літве, распытаў пра справы ў беларускай літаратуры і пра жыццё, творчасць многіх добра вядомых яму пісьменнікаў, па-еўрапейску пачаставаў кавай, смачным пячэннем і экзатычнай садавінаю. Пасля ён застаўся ў пасольстве, каб быць у курсе спраў у Вільні (у той дзень вырашалася важная для Літвы рэч: згодзіцца ці не А. Бразаўскас зноў вылучацца на прэзідэнцкую пасаду), а ягоны дарадца па культуры, В. Жлутка, павёз нас на экскурсію па горадзе. Пасля смачнага і сытнага абеду ў кафэ (за такое меню ў Мінску прыйшлося б плаціць амаль удвая больш) В. Коўтун падзяліла сваю радасць з выдавецтвам, якое выпусціла ў свет яе кнігу, Х. Лялько адлучылася па клопатах мінскіх каталіцкіх часопісаў, якія яна рэдагуе, а А. Разанава і мяне В. Жлутка гадзіны тры (час проста праміргнуў) бліжэй знаёміў са старым горадам. Праўдзівей сказаць, у многім знаёмства было найперш для мяне, бо Разанаў не толькі добра ведае Вільню (для яго нечаканых толькі новыя назвы вуліц, паколькі з іх цалкам знікла савецкая сімволіка), але добра, нават, здаецца, выдатна ведае і літоўскую мову, дык ён тут быў сваім чалавекам (дарэчы, у адным з музеяў ён папраўляў літоўскую мову экскурсаводкі, якая родам з Урала і больш-менш вывучыла "местный язык", каб тут жыць і працаваць).

Не ведаю, як Жлутка і Разанаў, а я (на той час выношваючы ў галаве апошнія раздзелы "Кліча роднага звона" — раманахронікі пра першыя крокі Вялікага Княства Літоўскага) з вялікім хваляваннем сузіраў на самым ганаровым месцы ў Вільні новенькі помнік дзяржаўцам усіх часоў. Многія з іх не толькі нашы агульныя кіраўнікі, а нашы землякі! Зноў жа побач з радасцю была і гаркота за нашыя бяспамяцтва і непавагу слаўных продкаў, за і сённяшняе пакланенне чужародным ідэям і кумірам, многія з якіх былі злачынныя і антыбеларускія! Што ж, слава Літве, якая сумеснымі з намі і назваю, і гісторыяй, і нацыянальнымі сімваламі распарадзілася па-людску, чым нармальна ды хораша ўвайшла не толькі ў Еўропу, але і ў сусветную супольнасць! А мы плачма ўсё па парабкоўства ў СССР, пакланяймася Леніну, Сталіну ды розным мясніковым, чырвоным сцягу ды зорцы, выстаўляйма сябе нейкімі незразумелымі туземцамі ў цывілізаваным свеце!

Ды пра Вільню-красуню. Падвечар нашу дэлегацыю прынялі знаёмыя нам па пабыўках у нашай Іслачы старшыня Саюза пісьменнікаў Літвы В. Свінцінскас і крытык П. Бражэнас, дзе мы зусім не па-дыпламатычнаму, а па-сяброўску шчыра і даверліва абмяняліся думкамі — г. зн. поглядамі пра стан спраў у нашых грамадствах, у літаратуры, распыталі адны адных пра жыццё, творчасць многіх вядомых нам пісьменнікаў розных пакаленняў. Дарэчы, прыемна было ўведаць, што будынак Саюза пісьменнікаў Літвы (ды які будынак, проста цуд-палац!) — пісьменніцкая ўласнасць і ніхто на яе не замахваецца, больш — літоўскія калегі былі шчыра занепакоеныя, што ёсць такі замах нашых улад на Дом літаратара ў Мінску; В. Свінцінскас (ён для мяне вельмі добры чалавек ужо і за тое, што яшчэ ў савецкі час здабываў рэдкае лякарства для патрэб маёй сям'і) асабіста на прэс-канферэнцыі кіраўнікоў суседніх краін у Вільні звярнуўся да нашага прэзідэнта з тым, каб не былі пакрыўджаныя беларускія пісьменнікі, і наш прэзідэнт, як было нам сказана, горача паабяцаў, што ніякай крыўды ні беларускай мове, ні літаратуры не было і не будзе, дык літоўскія калегі вельмі здзівіліся, што словы не супадаюць са справамі. Не, пачулі мы, у нас такога няма! У нас пісьменнікі ў вялікай пашане! Як слава і гонар нацыі! Што ж, зноў і зноў парадуемся за Літву! Малайчына яна, наша найбліжэйшая суседка! Невялікая і не вельмі багатая, але годная шляхцянка!

Затым у пісьменніцкай зале было вітанне літоўскамоўнага "Крыжа міласэрнасці", якое вёў крытык П. Бражэнас (крыху пазней ён і іншыя былі ў Мінску, у нашым Саюзе пісьменнікаў і ў Купалаўскім музеі, дзе адбылася вечарына, прысвечаная з'яўленню кнігі В. Коўтун). Там, у літоўскім Доме, натуральна і хораша гучалі тры мовы: літоўская, беларуская і руская. Калі былі нейкія замінкі ў патрэбе пошуку найбольш дасканалага адпаведніка нейкага слова ў перакладзе на іншую мову, дык тут жа яго знаходзілі Разанаў і перакладчык рамана В. Коўтун А. Лапінскене (яна перакладала на літоўскую мову і мае творы). Яна, Лапінскене, валодае беларускай мовай дасканала, разбіраецца ў шматлікіх нюансах беларускай лексікі і фразеалогіі, дык і ёй, літоўцы, цяжка слухаць, якой убогай і беларускай, і рускай мовамі прамаўляюць некаторыя нашы чыноўнікі, журналісты і... той-сёй з нашага, пісьменніцкага, асяроддзя. Як мне здалося, яна чуйна адчувае лад мыслення па-беларуску, лад беларуская сказа, дарэчнага ўжывання кожнага дзеяслова і прыметніка. Адпаведна, такі перакладчык — на вагу золата! А калі цяжка ўдарыць такога руплівца золатам, дык можна ж яму надаць наша ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь", паколькі гэткае даецца ў нас і тым, хто, як напісана ў "Лысай гары", "не можа звязаць і двух народных слоў". Скажыце, дзе з 15-ці былых савецкіх рэспублік можна ўбачыць такую з'яву: малады, малавядомы прыязджае ў рэспубліку і, не маючы патрэбы ведаць тутэйшыя мову і культуру, "выбіваецца ў людзі" і папстрыквае нацыянальных майстроў? Зрэшты, асобныя і свае не лепшыя, а то свінячаць яшчэ горш. Асабліва на радыё і тэлебачанні.

Двухгадзіннае вітанне прайшло ў непасрэднай, шчырай атмасферы, раман "Крыж міласэрнасці" высока ацанілі, усе дружна згадзіліся, што трэба чым найбольш узаемаперакладаў, узаемасустрэч для агульнай карысці — Яе Вялікасці Літаратуры. На заканчэнне, як цяпер модна гаварыць, быў фуршэт, дзе пасля першых паўафіцыйных прамоў-тостаў і глыточкаў добрага віна, адбылася ў кожнага з нас то з адным, то з іншым гамана на самыя розныя грамадскія, літаратурныя і асабістыя тэмы, а ў выніку зусім цвярозыя, задаволеныя, вясёлыя, усе цёпла развіталіся, і наша беларуская дэлегацыя пад дыпламатычнай апекаю адправілася дадому.

Дом, наш Мінск, як раніцай праводзіў, так і ўвечар сустрэў хмурнасцю (у Вільні было сонечна, што мы, жартуючы, патлумачылі вітаннем нам ад Цёткі), а заадно родны горад спаткаў зусім не роднасцю і зусім не з адчуваннем, што ты прыехаў у самастойную сталіцу самастойнай дзяржавы: усё тыя ж назвы вуліц з савецка-камуністычнымі сімваламі, з імёнамі розных мясніковых, ландараў, кнорыных — лютых непрыяцеляў Беларусі альбо з імёнамі тых, хто ніколі, паўторым, не меў да нас ніякага дачынення, мноства кіёскаў з навалам чужародных газет, часопісаў і кніг з пошлым зместам і на дрэннай рускай мове, лічы, толькі з "падзямельнай" беларускай моваю, паколькі яе выгналі з урадавых устаноў, са школ і садзікаў, з тэлебачання... "углыб", пад зямлю, г. зн. яна, мова-пакутніца, пакуль што жыве толькі ў метро!

На свае вочы пабачыўшы, **што і як у разумных людзей**, вяртацца ў такую абязлічаную сталіцу, хоць і гарачы патрыёт горада, гнятліва. Не трэба быць надта мудрым, каб пераканацца: у Літве і ў нас прадстаўленым шанцам незалежнасці распарадзіліся абсалютна па-рознаму. Там, зусім не баючыся вокрыку, санкцый, а то амонаўцаў і танкаў, сыходзілі са сваіх, **нацыянальных**, інтарэсаў, заяўляючы іх з самага простага, але асноватворчага, паднялі на **дзяржаўны ўзровень** адраджэнне, аднаўленне гістарычнай памяці, нацыянальных сімвалаў, **адзяржаўлівання** роднай мовы. Там ужо калі не мінуліся, дык аціхлі грамадска-палітычныя звады, перапалкі і сутычкі, антылітоўскія выпады, што заказваліся правакатарам; карэнныя задаволеныя, што ім, літоўскай нацыі, не пагражае ні фізічная, ні духоўная пагібель — наадварот, з'явіўся выдатны шанц усяму лепшаму нацыянальнаму даць новы імпульс развіцця, ісці ў свет не толькі праз сваю, рускую, але і англійскую мову. Іншыя — руска-польска-беларускамоўныя — усё больш разумеюць, прывыкаюць, што, паколькі яны жывуць у самастойнай дзяржаве, то павінны не таптаць, не глуміць усё карэннае, а далучацца да яго, хоць быць і самім сабою. Там пра такія важныя рэчы, як нацыянальная справа, не праводзілі і не думалі праводзіць нейкіх рэферэндумаў, бо трымаюцца за тое, што дадзена ад Бога, ведаючы, што Літва можа рэалізавацца толькі ў Літве, усведамляючы, што Расія рэалізуецца ў Расіі, Польшча — у Польшчы, Беларусь — у Беларусі. Там не магло і не можа быць, каб арыфметычным шляхам — паднясцем рук ды яшчэ, трэба разабрацца, чыіх і як падлічаных — вырашаць, ці быць Літве ў Літве! Там ужо адвыклі ўніжаць тутэйшае, павучаць гонар літоўскай нацыі, там урад, парламент (як і ў нашай суседкі Украіне) не пасмелі б не гаварыць на роднай мове!

Адзін з самых вялікіх рускіх пісьменнікаў, Ф. Дастаеўскі, зусім не выпадкова зазначыў: "Никто не может быть **чем-нибудь** или достигнуть чего-нибудь, не быв сначала **самим собою**". І яшчэ ягонае: "Тогда только человечество и будет жить полною жизнию, когда всякий народ разовьется на своих началах и принесет от себя в общую сумму жизни какую-нибудь особенно развитую сторону... общечеловечность не иначе достигается, как упором в **свою национальность каждого народа** (тут падкрэслена мной. — Г. Д.). Идея... национальностей есть точка опоры, Антей..."

Зразумець бы нам гэта, на чым, уласна, адбыліся і адбываюцца высокаразвітыя краіны ў свеце, калі не ўсім, дык хоць у большасці! Якімі іншымі мы былі б, як бы нас больш ведалі і паважалі!

На думку звышпільных, апошняе — па-ранейшаму, па-сталінску, "нацыянал-экстрэмізм!" Ды не, гэта — тое, што і трэба. Для нармальнага і моцнага народнага здароўя. У свеце шмат розных кветак, усе цвітуць па-свойму хораша, але найчасцей бывае, калі не будзе пераапылення, то кветкі застануцца пустацветамі, не дадуць насення, г. зн. працягу роду і віду. Таму ўзаемасувязі непазбежныя і неабходныя. Праўда, у нас сітуацыя іншая: нас не проста пераапыляюць ці запыляюць, у нас знішчаюць нашу кветку, "заботясь" раней пра інтэрнацыяналізм, а цяпер — "об общеславянском единстве". Нават такому выдатнаму рускаму празаіку, як В. Распуцін, наш не менш выдатны пісьменнік Н. Гілевіч мусіў тлумачыць (нядаўна ў "Литгазете") пра боскае права і беларусаў на жыццё і дзейнасць у гэтым "общеславянстве!". Больш — некаторыя візіцёры, у тым ліку і ад імя рускай літаратуры, прыязджаючы да нас, абыходзяць Саюз пісьменнікаў, выдавецтвы і часопісы, напраму шыбуюць у нашы гарады і вёскі і непрыкрыта агітуюць... не, не за саюз паміж нашымі краінамі, а за ўваходжанне Беларусі да іх на праве губерні! Канечне, мы такога не можам прыняць. Пры ўсёй нашай вялікай любові да братняга народа, да яго цудоўнай мовы і культуры. Праўда, не ўсе, бо той-сёй у нас і сёння не столькі дбае пра сваё, наша, колькі плача па Саюзе, па Расіі, быццам там няма ні ўрада, ні тысяч навучальных устаноў і школ на рускай мове, выдатнай нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, культуры і літаратуры, урэшце, рускага народа!

Зразумела, Літве лягчэй сыходзіць са сваіх, нацыянальных інтарэсаў. Яна пазнала іх глыбей у 20—30-ыя гады, яе абмінуў жудасны даваенны сталінскі тэрор альбо і генацыд ды і ў вайну былі не такія страты і ахвяры, як не мела такіх наступстваў пасляваенная асіміляцыя. Ды, трэба прызнаць і іншае, асноватвызначальнае: калі мы моцныя сваёй цярплівасцю, то літоўцы — яшчэ і рашучасцю ў сваім праве "людзьмі звацца". Літву ў СССР ужо не заманіш і нафтаю, не загоніш і танкамі (у НАТА, зразумей, яны бачаць не пагрозу, а абарону), хоць гэта не значыць, што там замкнуліся на замок. Як нам гаварылі, яны за сувязі і інтэграцыю з Еўропай, з Расіяй таксама (перад нашым прыездам там адбыліся дні рускай культуры), але, паўторым, там нацыянальныя інтарэсы разумеюць з **патрыятычнага** пункту гледжання. У нас таксама нямала "патриотов" і "патриотических" суполак. Але нават інтэрнацыяналіст з інтэрнацыяналістаў Ленін пісаў, што патрыятызм — любоў да свайго народа, да яго гісторыі, мовы і культуры, у прыватнасці, "Одно из наиболее глубоких

*(Заканчэнне на стар. 15)*

якую апошні месяц я заплацію сваячасна. Найбольшы мой вораг — гэта плата за кватэру. Чорт яе меў у пекле: плачу ня дробныя грошы!.. Але я пра сон даконччу. Як сон у руку!».

Я.Юхнавец часткова нібыта мадэрнізуе мрыеўскі стыль («Запіскі Самсона Самасуя») шаржава-сатырычнага адлюстравання рэчаіснасці (сакратар перадае пісьменніку свае запіскі — роздумы-споведзі). «Знаёмства», да ўсяго, «поліўзроўневы» твор: на адзін эпізод з яшчэ нераскрытай фабулай накладваецца іншы, потым аповед перарываецца-«перакоквае» на першае.

Творчая «хаатычнасць» аўтарскага мыслення перадавалася напоўніцу ў «запісах» Я.Юхнаўца, публікаваць якія ён пачаў у 1970-я гады. Некаторыя з іх сталі вядомымі чытачу на Бацькаўшчыне дзякуючы публікацыі ў часопісе «Крыніца» (1998, №6). «Запісы» Я.Юхнаўца — сярэдзіннае звяно паміж прозай і паэзіяй. Гэта мастакоўская мазаіка лірычных замалёвак, экзістэнцыйна-філасофскіх роздумаў, пісьменніцкіх рэфлексій і разваг, літаратурных рэмінісцэнцый, афарыстычных выказванняў. І гэтая мастацкая мазаіка, узбагачаючы агульнабеларускі кантэкст мініяцюр Я.Брыля, В.Адамчыка, Л.Галубовіча, застаецца адметнай і арыгінальнай дзякуючы сваёй шчырасці, інтэлектуальнасці, засяроджанасці-сумоўю з любімымі аўтару пісьменнікамі і філосафамі Ф.Ніцшэ, Ж.П.Сартрам, А.Камю, А.Шапэнгаўэрам, К.Юнгам, С.Кіркегарам, М.Хайдэгерам і інш. Яна перарастае ў своеасаблівую духоўную біяграфію самотніка без Бацькаўшчыны. «Запісы — мая здабыча. Прымушаю сябе да інтарэсу задавальнення падтрымаць тое, што думаю», — прызнаваўся Я.Юхнавец.

Як і паэт, празаік Я.Юхнавец спавядае найперш авангардныя ідэі, выяўляе выключную інтэлектуальную моцу і спрычыненасць найперш да заходнееўрапейскай мастацкай культуры, аднак усё гэта не замінае яму пачувацца годным сынам сваёй Беларусі, якая засталася ў вяртанні да еўрапейскасці. «...жыву на ўскраіне Нью-Ёрку на невялікім абтоку ў Гудзонаўскай затоцы,— пісаў Я.Юхнавец. — ...здараецца, калі слухаю вухканне савы, я гублю арыентацыю. Я не ў сваім Забродку на Беларусі. ...жыць (абставіны ўрочлівага жыцьця) у воддалі ад Айчыны не перашкоды. Перашкоды толькі ёсьць, што ты ня можаш уступіцца псыхалягічнай яснасьцяй у змрокі быцьця на Айчыне».

**Алесь ПАШКЕВІЧ**

лісце дрэў у садах ужо амаль усё асыпалася, яблыкаў таксама не было відаць, іх парвалі дзеці, не даўшы даспець. А бярозкі на вуліцы за парканам яшчэ залаціліся, яшчэ красаваліся, жылі. Дзьмуў вецер.

Я паглядзела на Андрэя і здалося мне, што ў тую хвіліну ён думаў, успамінаў свае Журавічы, сваю маці, якая адна гадавала яго малодшых братоў, а цяпер яшчэ гадуе маленькага ўнука, сына трагічна загінуўшай сястры Моці; бацьку, якога невядома дзе і як завірліла вайна...

Закончыла запісваць словы і не клікала Андрэя, не хацела перашкаджаць ягоным думкам. Ён раптам азірнуўся, падышоў і, беручы паперу са словамі песні, сказаў:

— Ёсць у мяне ідэя, толькі яшчэ не ведаю, з якога боку да яе падступіцца, як яе ўзяць за рогі... Але вазьму. Усё роўна вазьму... — Голас яго ўзмацнеў. — Я ім пакажу. — Ён сціснуў кулак.

— Каму?

— Потым дазнаешся...

Я забылася б зусім пра гэты выпадак, калі б праз некалькі месяцаў Андрэй не пачаў чытаць у нас сцэны з п'есы "На досвітку".

І тады я зразумела, што кулаком ён пагражаў... праклятым капіталістам.

Слухаючы п'есу, я ўсё чакала, што вось зараз нехта з герояў заспявае песню, словы якой я запісвала Андрэю. Але песні ў п'есе не аказалася. Я спытала ў яго:

— А дзе песня?

— Не спатрэбілася. Інакш павярнулася п'еса. Але ўсё роўна табе за дапамогу дзякуй.

П'есу паставіў у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы рэжысёр Канстанцін Санікаў. Андрэй прысутнічаў на ўсіх рэпетыцыях, прыходзіў, расказваў, як яны ідуць, і вельмі хваляваўся. А перад прэм'ерай прыйшоў да маёй маці, пашаптаўся з ёй на кухні, яна схадзіла яшчэ да некага з суседзяў, вярнуўшыся, уручыла Андрэю цэлы пачак грошай на яго самы першы ў жыцці пасля спектакля банкет...

●

...Мая хворая, старэнькая матуля аднойчы заснула і ў сне памерла...

# Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ

4 студзеня 2002 года памёр вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра Авяр'ян Дзеружынскі.

Нарадзіўся Авяр'ян Сафонавіч Дзеружынскі 10 чэрвеня 1919 года ў вёсцы Хляўно Кармянскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў Магілёўскі газетны тэхнікум (1937), затым Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску (1941). У час Вялікай Айчыннай вайны — карэспандэнт і супрацоўнік газет у Краснаярскім краі, Калінінскай вобласці, Маскве. У 1945—1949 гадах — загадчык аддзела газеты «Чырвоная змена». У наступныя гады (1949—1984) працаваў рэдактарам у выдавецтвах «Беларусь», «Мастацкая літаратура», «Юнацтва».

Першыя літаратурныя творы Авяр'яна Дзеружынскага з'явіліся ў друку ў 1939 годзе. Выйшлі зборнікі вершаў «Песні маладосці» (1959), «Калінавы цвет» (1961), «Бярозавы вецер» (1990).

Значны ўклад Авяр'яна Дзеружынскага ў дзіцячую літаратуру. Убачылі свет яго зборнікі вершаў для дзяцей: «Цуды ёсць на свеце» (1960), «Дзе жыве зіма» (1962), «Карагод» (1963), «Ляцелі дзве птушкі» (1964), «Яе завуць Каця» (1965), «Кую-кую ножку» (1967), «Смешкі і пацешкі» (1968), «Добры ветрык» (1969), «Чабарок» (1970), «Ластаўка» (1971), «Бегунок» (1972), «Каласок» (1975), «Конікі-будаўнікі» (1977), «Цягнік-працаўнік» (1978). У 1979 годзе выйшла кніжка выбраных твораў «Вясёлікі». У апошнія гады выдаў кніжкі «Добрае сэрца», «Касмічны агарод», «Той, хто працуе», «Працалюбы», «Залаты каласок» і іншыя.



Шмат якія вершы Авяр'яна Дзеружынскага пакладзены на музыку. Сярод іх найбольш вядомыя «Мінскі вальс», «Дзявочая лірычная», «Песня аб Мінску», «Нездаровіцца». Песні «Сабірайся ў госці, мой дзядок» і «Мяцеліца» сталі народнымі.

Авяр'ян Дзеружынскі быў старанным працаўніком, карыстаўся павагай сярод людзей, у пісьменніцкай арганізацыі. Шмат увагі надаваў выхаванню маладой літаратурнай змены.

Светлы вобраз пісьменніка і грамадзяніна Авяр'яна Дзеружынскага, які аддана служыў Радзіме, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ПАМЯЦЬ

# "Душу не спаліў я самотай..."

Так сталася, што вось ужо больш чвэрці стагоддзя маё жыццё цесна знітавана з Украінаю. Ніткі сувязі, якія снаваліся яшчэ ў маладыя гады, і сёння, нягледзячы на ўсе нясприяльныя варункі нашага бязладнага, няўтульнага часу, не перарываюцца.

Перад навагоднім святам адтуль, з мілага майму сэрцу краю, былі да мяне тэлефонныя званкі, атрымаў бандэроль з новымі кнігамі, а тут, у Мінску, з удзячнасцю прыняў нетрафарэтнае, шчырае, сардэчнае віншаванне ад Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Анатоля Дроня.

Па даўняй завядзёнцы і я тэлефанаваў сваім блізкім украінскім сябрам, каб не толькі павіншаваць, але і проста пачуць іхнія знаёмыя, родныя галасы. Ды перадкавагодні светлы настрой парушыўся: "Памёр Валодзя Забаштанскі... Сёння хаваем..."

Гэтая вестка была нясцерпна балючаю... Паэт з Божае ласкі, чалавек трагічнага, але непаўторнага мужнага і сумленнага лёсу, Уладзімір Забаштанскі заслужана меў асаблівую шану і пяшчотную любоў ад пісьменніцкай сябрыны, ад усіх, хто яго ведаў. Ён нарадзіўся ў 1940 годзе ў сяле Брайлава Жмерынскага раёна Вінніцкай вобласці ў сям'і рабочага. Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся ў рамесным вучылішчы, працаваў на будоўлях, у гранітных кар'ерах, качагарам на цукровым заводзе. У выніку няшчаснага выпадку Валодзя страціў зрок і рукі, два гады ляжыўся ў Кіеўскім інстытуце артапедыі і траўматалогіі. Затым скончыў вячэрнюю школу рабочай моладзі, а таксама філалагічны факультэт Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Т. Р. Шаўчэнкі. І не проста скончыў, а з адзнакаю!

Друкавацца Уладзімір Забаштанскі пачаў у 1961 годзе. Паэзія стала для яго не толькі ратаваннем у змрочнасці і невідушчасці, не толькі тым абсягам і прытулкам, дзе можна было сцвердзіць сябе як асобу, але і ўсім. Яна жыла ў ягонай душы змалку, а цяпер саспела, вырвалася на волю.

Аднойчы, калі я гасцяваў у сціплай, але вельмі ўтульнай кіеўскай кватэры Валодзі, ён, хвалюючыся, сказаў: «Белы свет застаўся са мною. Я і цяпер бачу колеры, яшчэ больш абвострана адчуваю пахі, чую гукі. Са мною ўся непаўторная Боская гармонія свету. І рукі мае нібыта засталіся...» Нездарма Валодзевы кнігі маюць такія назвы: «Сінія скалы», «Пах далiны»...

Самым істотным, галоўным у паэзіі Уладзіміра Забаштанскага стала глыбокае асэнсаванне трагічнай і слаўнай гісторыі Айчыны, народа, вера ў светлую будучыню Украіны. Гэтыя пачуцці дапамагалі яму пераадольваць уласныя пакуты і боль:

*Ці можна скарыць непадкупную долю?*
*Яна не шкадує нікого ніколі,*
*Свет цэлы на плечы ўзвальвае мне*
*І пільна цікує: устою ці не?*
*Хрыбет не зламаў ад цяжару і змогі,*
*У космасе цемры не збіўся з дарогі,*
*Душу не спаліў я самотай датла,*
*Бо побач са мною Айчына была.*

Гартаю кнігі Валодзі. Вось на адной з іх — «Треба стояти» — такі надпіс: «Чесному й мужньому сяброві моему Сергієві Законникову на світлу згадку про харківські вечори під зарею Тараса. Щиро Володимир Забаштанський». І адразу ў памяці паўстае той майскі дзень Міжнароднага Шаўчэнкаўскага свята ў Харкаве, калі ў 1988 годзе, пасля доўгай нацыянальнай нематы і забыцця, агромністы горад загаварыў па-ўкраінску. На цэнтральнай плошчы або, як кажуць украінцы, на майдане каля помніка вялікаму Кабзару (відаць, гэта самы найлепшы помнік Шаўчэнку ў свеце!) сабраліся многія тысячы людзей. Гараджане стаялі і на ўсіх вуліцах, прылеглых да майдана. Тут на поўны голас праз магутныя ўзмацняльнікі ўпершыню прагучала праўда пра голадамор на Украіне, пра расправу з барацьбітамі за незалежнасць, пра пастаянны здзек з нацыянальнай годнасці вялікага еўрапейскага народа. І здавалася, што голас праўды плыў над усёй Украінай, чуцен быў усім яе насельнікам...

Да гэтага мне ніколі не даводзілася прамаўляць слова перад такой велізарнай аўдыторыяй. І хоць страшэнна хваляваўся, але добра помню незвычайную цішыню, стоенае дыханне тысяч людзей.

Пасля выступу я спусціўся з падножжа помніка ў грамаду, назіраў і слухаў, як рэагуе на гэтае дзейства народ. Радасць і страх, захапленне і абурэнне віравалі паўсюль. Старая жанчына са слязамі на вачах сама сабе шаптала: «Божачка, нарэшце дачакаліся...» і хрысцілася. А побач стаялі два чыноўнага выгляду мардатыя мацакі, і іхнія вочы палалі нянавісцю, грэблівасць перакрыўляла твары.

І потым, калі аўтобусы з гасцямі свята марудна рухаліся па запоўненых людзьмі вуліцах Харкава, тысячы гараджан зноў воплескамі віталі нядаўніх выступоўцаў, але былі і нешматлікія купкі падпітых хлапцоў, што махалі кулакамі і крычалі: «Самостийники, вон из Харькова!» Валодзя Забаштанскі, які пачуў гэта, спакойна прамовіў: «Нічога. Выбачце ім. Яны яшчэ стануць відушчымі!»

А другая Валодзева кніга высвеціла незабыўныя хвіліны Шаўчэнкаўскага свята ў наступным годзе ў Кіеве, дзе ён, Міхайла Шаўчэнка і я зноў былі разам. Калі ў канцы свайго слова каля помніка Кабзару я выгукнуў: «Жыве Беларусь! Слава Украіне!», то нечакана для мяне прадстаўнікі маладой інтэлігенцыі, студэнты, вучні горада, якія хавалі за пазухамі жоўта-блакітныя сцягі, выхапілі іх і ўзнялі над сабою. Гэтыя тысячы сцягоў затрапяталі на веснавым ветры радасна і прароча. Разгубіліся і начальства, і міліцыя, і заўсёды непрыкметныя супрацоўнікі дзяржбяспекі. Яны не чакалі такога павароту, у іх не было інструкцыі, як дзейнічаць. А моладзь затым зноў схавала сцягі. І калі сілавікі апаматаліся, то ўсё абышлося без асаблівага хапуна. Усіх жа на плошчы не абшукаеш!

Якім жа шчаслівым быў Валодзя, калі я дзяліўся з ім сваім захапленнем ад убачанага!

Зноў гартаю старонкі кніг. І яшчэ раз радуюся таленту свайго ўкраінскага пабраціма, захапляюся мужнасцю Валодзі, які так любіў свой народ, неньку-Украіну, які здолеў сказаць такое шчымлівае, такое сардэчнае слова пра самае дарагое для яго. Як, напрыклад, у вершы «Прысяга», што перакладзены мною за лічаныя хвіліны, той бяссоннай ноччу, пасля жалобнага паведамлення, бо блізкі па духу:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Не трэба балбатні пустое,*
*Хай спеюць мужнасць і адвага.*
*На пост прыйшлі,*
*не на пастоі,*
*Стаяць за чысты колер сцяга.*

*Мы з вераю,*
*а не з адчаем*
*Да сэрцаў сцежкі зноў таруем,*
*І колераў не пазычаем,*
*І родным сцягам не гандлюем.*

*Калі ўжо прысягнулі праўдзе*
*І слаўнаму свайму народу,*
*То нам стаяць,*
*убок — ні пядзі,*
*За тое і на тым заўсёды!*

Бывай, дарагі Валодзя! Хай спакойна спіцца табе ў роднай зямлі... Абавязкова будзе так, як ты марыў і жадаў. Тваю Украіну на шляху да незалежнасці, да шчаслівага жыцця ніхто і нішто ўжо не спыніць. І ў заўтрашнім дні новая Украіна, якая будуецца сёння, будзе помніць цябе, свайго адданага сына.

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

# Крыж міласэрнасці

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)

чувств, закрепленных веками и тысячелетиями обособленных отечеств". Адпаведна, нельга не запытаць нашых "патриотов", якія не толькі не ўжываюць беларускую мову, але ўсё беларускае лічаць нацыяналістычным, варожым: чые вы? Якога "обособленного отечества"? Ды не пытаем, церпім абразы і здзекі, а тойсёй нават з нашага літаратурнага асяроддзя падыгрывае, падпісвае розныя «патриотические», "общеславянские" лісты, дзе найперш розныя палітычныя інтрыгі ды асабістыя кар'ерыцкія памкненні!

На заканчэнне яшчэ раз пра мову. Дык вось у Літве моўнымі нюансамі займаецца не толькі ўрад, у якога хапае і сваіх клопатаў, а прадстаўнічая грамадская камісія з заканадаўчай ініцыятывай. Камісія, дарэчы, улічвае інтарэсы і нашай, беларускамоўнай дыяспары (праўда, часамі не ў поўнай меры і з-за неакрэсленай пазіцыі Мінска). У прыватнасці, як не згадзіцца думкай з тымі, што Мінску трэба менш азалочваць розныя сумнеўныя "славянские базары", "могилевские шлягеры", што пачалі пераўтварацца ў неславянскія балаганы, што таксама трэба менш падкормліваць розных прыездных папсу, рэжысёраў і актораў, якія экранізуюць, скажам, зусім не беларускую прозу, а больш звяртаць увагу і на нашых суродзічаў за мяжой, у Вільні таксама, дзе, да слова, трэба аднавіць былы цэнтр беларускай культуры, г. зн. там, дзе Вострабрамская Божая маці, дзе былі рэдакцыя "Нашай нівы", музей І. Луцкевіча і г.д. Што да адпаведнай моўнай камісіі ў нас, то я, прызнаюся, нават баюся раіць яе стварыць: у нашых умовах у яе ўвойдуць тыя, хто "ничем в белорусском не замечен".

Як вядома, у кожнага народа шмат вучоных, дзеячаў культуры і мастацтва, палітыкаў-дзяржаўных мужоў, але агульнанацыянальнага ці народнага ўзроўню асоб не шмат, бо яны прыходзяць і робяць сваё вялікае, бываюць у самыя цяжкія часы, бывае, і не ў кожнае стагоддзе. Нацыянальным, народным нельга быць на чвэрць ці нават напалову, ім трэба быць поўнасцю. Такімі, якімі былі тыя ж Усяслаў Чарадзей, Войшалк і Вітаўт Вялікі, Леў Сапега і Скарына, Кастусь Каліноўскі, Янка Купала і Якуб Колас, дзякуючы якім, як і яшчэ многім, мы, уласна, і ацалелі не проста геаграфічнай назваю на сусветнай карце! Але мала толькі ацалець. Вопыт суседкі Літвы паказвае, што можна дабіцца і значнага, і на аснове таго, што ў свой час даў Бог і што калі не сфармавалі, то азначылі даўнія, слаўныя продкі!

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# ІМГНЕННІ ЖЫЦЦЯ

АПАВЯДАННЕ

Нядаўна перадавалі па радыё амаль неверагодную гісторыю: чалавек, хворы на рак, сам, без лекаў і аперацый змог цалкам вылечыцца!

Як? Даведаўшыся, што жыць яму гады два ад сілы, гэты разумны і, несумненна, мужны чалавек не стаў мітусіцца, хныкаць, скандаліць і палохаць радню ўвесьчаснымі згадкамі свайго хуткага фіналу. Найперш ён памірыўся з былымі непрыяцелямі, вярнуў пазыкі, якія, вядома, змог успомніць, і тады спакойна, стараючыся ні пра што не дбаць, пачаў развітвацца са светам і з людзьмі. Усё ім цяпер успрымалася інакш, і ён з горкай усмешкаю назіраў за людской мітуснёю. Беды і радасці абміналі яго. Ён дайшоў нават да таго, што ў думках пачаў дзякаваць лёсу за хваробу, якая надала яго жыццю раней невядомую цэльнасць. Нават боль, нібы насыціўшыся сваёй перамогаю, нібы пераканаўшыся, што чалавек зламаны і больш не падымецца, пакрысе пачаў адступаць. Яму, болю, было ўжо нецікава з пераможаным, яму трэба былі іншыя ахвяры, дужыя, радасныя, бестурботныя...

Між тым наш хворы рэгулярна, раз у месяц прыходзіў у дыспансер на абследаванне, кожны раз рыхтуючыся да таго, што гэты раз можа стаць апошнім. Аднак з кожным новым візітам дактары, агледзеўшы яго, звярыўшы аналізы, пацiскалі плячыма, неяк здзіўлена між сабою пераглядваліся і нічога не казалі. І вось недзе праз год, калі чалавек ужо нагледзеў сабе месца на могілках, заказаў труну, вянкі, помнік і агароджу, распісаў між шматлікай раднёю свой небагаты нажытак, падчас чарговага наведвання дыспансера ён пачуў ад доктара строгія словы: "А чаго вы, уласна кажучы, сюды ходзіце? У вас даўно ўсё рассмакталася і зарубцавалася. Тут хапае сапраўдных хворых!"

Так, ці вельмі блізка да таго, расказваў, выступаючы па радыё, гэты чалавек.

Неверагодна! Вылечыцца ад такой страшнай хваробы толькі тым, што змяніць свае адносіны да людзей, да жыцця?! Чалавек проста ўсё лішняе перастаў браць да галавы. Ён нікога не чапаў, нікому не дакучаў і змог стварыць сабе такія ўмовы, пры якіх і яго не чапалі і не дакучалі яму.

"Дык гэта – хворы, – падумалася мне, – а мы, здаровыя? Мы ж у сто, у тысячу разоў больш павінны радавацца кожнаму імгненню такога шчасця, як жыццё! Падумаеш, наступілі ў тралейбусе на нагу. Ці прадаўшчыца нахаміла ў гастраноме. І вось перажываем, камплексуем, шукаем, на кім спагнаць злосць...

А гэта ж якім цудоўным магло быць жыццё, калі б мы ясна ўсвядомілі, што кожны з нас – той жа "хворы на рак", толькі без больш–менш дакладнага ведання даты свайго фіналу.

Якім цудоўным магло б быць кожнае імгненне жыцця, калі б мы ў кожным "блізкім сваім" бачылі найперш хворага, смяротнага няшчасніка, калі б мы не ўкарочвалі адзін аднаму і без таго кароткі век рознымі плёткамі, дробнай зайздрослівасцю, урэшце, элементарнай пабытавай бесцырымоннасцю!.."

З такімі думкамі паехаў я на працу ў рэдакцыю. Вырашыў пачаць з сябе...

●

У рэдакцыйным калідоры сустрэў сябра, ён кінуўся мне на шыю.

– Якія людзі! Прывітанне! А я кожны дзень званіў і заходзіў, хоць і ведаў, што ты ў адпачынку.

– Чаго ж ты званіў і заходзіў?

– Так, думаю, можа, засумаваў па сябры, раней вярнуўся... Ну, расказвай. Дзе быў? У вёсцы, вядома?

– Не, у Крыме.

Сябар замоўк, тады адступіўся.

– Вось як, – сказаў ён іншым голасам і агледзеў мяне іншымі вачыма. – Ну, і што там, у тваім Крыме?

– Ведаеш, здорава! Накупаўся, пазагараў, у горы лазіў...

– Ага. Я і забыў, што спяшаюся, – ён заклапочана зірнуў на гадзіннік.

– Ды пачакай, я ж і не расказаў толкам нічога!

– Што тут расказваць... Падумаеш, шчасце такое, Крым... Мы ўжо як–небудзь так, па-нашаму, па-вясковаму... Абыдземся як-небудзь без крымаў.

Нядобрая здагадка працяла мяне. Але я ўспомніў, што ўсе мы – смяротнікі, "хворыя на рак", і ў нашай уладзе не атручваць адзін аднаму імгненні жыцця.

– А ведаеш, твая праўда, – пакорліва сказаў я. – Якія там горы, адна назва, проста пагоркі нейкія. Адзін раз усяго і злазіў, толькі калена абадраў, вось, – я падняў калашыну і паказаў драпіну. – Ды і мора – брудная, пена, мядузы, дэльфіны гэтыя... Адна назва, што мора.

– Аднак ты казаў, купаўся, – заўважыў сябар, які раптам забыў, што спяшаецца, і пачаў слухаць з цікавасцю.

– Адзін раз усяго. Ды і дажджы там лілі амаль усе дні...

– Адзін раз?!

– Кажу ж. Акрамя дажджоў, там яшчэ халера, дызентэрыя, забаронена было купацца

– Ты ж не захварэў, – мякка ўпікнуў сябар.

– Хварэў, далібог! Тры... не, трынаццаць дзён прамучыўся з дызентэрыяй.

Сябар заўсміхаўся.

– Жылі хоць блізка ля мора? – з цёплынёй у голасе спытаў ён.

– Метраў... у сэнсе, кіламетраў... дзесяць. Калі б і захацеў пакупацца, не дужа находзішся.

– І ў якую суму табе гэта ўляцела?

– Лепш не пытай. Прадаць сёе-тое давялося. Пару касцюмаў старых... Тэлевізар, радыёпрыёмнік...

Сябар зусім развесяліўся і ляпнуў мяне па плячы. Потым угледзеўся ў мяне і сказаў з лёгкім дакорам:

– Аднак ты загарэў.

– Ды які гэта загар! Раз памыцца – і ўвесь загар злезе. На, паглядзі, – я наслінію палец і пацёр руку. – Бачыш, белаю скура робіцца?

– Сапраўды... Ану, дай я! – і сябар пачаў націраць маю руку з такой стараннасцю, нібы сабраўся здабываць з яе агонь.

Развітаўшыся з ім, да канца ўсцешаным, я зайшоў у свой кабінет і ўбачыў на стале пісьмо. Не, што ні кажыце, а без сяброў зусім сумна было б на гэтым свеце. Вось ляжаў я сабе бяздумна пад крымскім сонейкам, а мяне ў гэты час успаміналі, пісьмы пісалі... Прыемна!

"Тройчы перачытваў тваё апошняе, – было ў пісьме, – і, як сябра сябру, вырашыў выказаць накіпелае, бо ніхто, акрамя мяне, табе больш гэтага не скажа: 1) кідай ты гэтую літаратуру; 2) з першага сказа немагчыма чытаць... 3) 5) 7) 14) асабліва немагчыма чытаць у канцы..."

Ну, і не чытаў бы! Дзіўныя людзі! Нашто ж так пакутаваць? Мяне, напрыклад, калі не пайшоў першы абзац, ніякімі сіламі не прымусіш чытаць далей, хай гэта будзе напісана хоць самым залатым сябрам. Падраць к чорту, у сметніцу! Ці не?.. Усё ж чалавек думаў пра мяне... Адгукнуўся. Адказу чакае. Падзякі, можа, чакае. Усе мы смяротныя, усе "хворыя"...

"Дарагі (чым ён мне дарагі?) Шчыра дзякую за (за што?)... за строгую, але справядлівую крытыку, якая (што якая?)..."

Тэлефонны званок. Кідаю недапісаны ліст і здымаю трубку:

– Слухаю.

– Ага, нарэшце! Вярнуўся з адпачынку?

Навучаны, хутка дакладваю:

– Так, вярнуўся, у вёсцы тырчэў, дажджы лілі, потым халера, мядузы, мора далёка...

– Па мне хоць у вёсцы, хоць на Канарах, – перабіў голас. – Я вось чаму званю: гэта праўда, што табе не спадабалася мая новая навела?

Я, да свайго сораму, не чытаў яшчэ і старую, таму асцярожна кашляю ў трубку і спрабую цягнуць час, каб выведаць хоць штосьці:

– Новая? Не можа быць. Хто табе сказаў?

– Твае сябры так званыя, якімі ты так даражыш.

– Сябры? – мямлю я. – Хто?

– ...Овіч перадаваў ...евічу...

– Што? Не чуваць нічога!

– А мне перадалі праз ...ова і ...ава! Ну?

Маўчу. Не казаць жа, што я першы раз пра тую навелу чую.

– Дык як ты хочаш, каб тваё хвалілі, калі сам чужое крытыкуеш? Сам любіш, нябось, калі цябе хваляць?

Ды нічога падобнага: не падабаецца – не хваліце. Хачу апраўдвацца, але голас ў трубцы не дае:

– Дык вось: цяпер, пасля тваёй крытыкі маёй навелы, я вымушаны выказаць табе ўсю праўду–матку. Што я на самай справе пра цябе думаю. Тым больш, я ўсё ж лічу цябе сябрам і ўпэўнены, ты не вельмі пакрыўдзішся...

Пакорліва выслухоўваю "праўду-матку". Нарэшце, пачуўшы ў трубцы кароткія гудкі, вяртаюся да ліста. Але чамусьці не пішацца. Хачу думаць пра людзей, "хворых на рак", якім грэх труціць з-за драбязы жыццё, а ў галаве круціцца: "Цікава, хто аўтар выслоўя "не ўсіх дурных вайна пабіла"?.. Сурова, але як справядліва..."

Ціхі, ветлівы, настойлівы стук у дзверы.

– Калі ласка! – крычу я.

Неяк бокам, сарамліва ўсміхаючыся, у кабінет заходзіць аўтар, – заходзіць і нізка схіляе галаву, нібы хоча паказаць: "Я ўвесь ваш, гатовы хоць на плаху!"

– Добры дзень, дарагі вы мой, – з парога пачынае аўтар. – Нарэшце! А я да вас хадзіў-хадзіў, званіў-званіў... Увесь ваш адпачынак.

– Нашто ж вы хадзілі, калі ведалі, што я ў адпачынку?

– Так... А раптам, думаю, зацікавіўся маім артыкулам і вырашыў вярнуцца з адпачынку. Хе-хе... Жартую!

Я запрашаю аўтара сесці.

– Ну, расказвайце, – кажа ён. – Дзе адпачывалі, што, як – усё-усё, падрабязна расказвайце.

– Добра адпачываў.

Мы маўчым.

– Што гэта вы нейкі пануры сёння? – трывожыцца аўтар. – Ці не захварэлі?

– У мяне проста выгляд такі, – у тысячны раз тлумачу я. – У мяне кепскі зрок, таму я, углядаючыся, вымушаны хмурыцца. Адсюль ілюзія панурасці.

– Беражыце сябе, вы яшчэ спатрэбіцеся нашай літаратуры. Акуляры трэба насіць.

Я махаю рукою:

– Чэхаў вунь насіў пенснэ, а таксама маршчыніў лоб, і яго абсалютна несправядліва лічылі занудам, панурым і ганарліўцам.

– Вось, дарэчы! – ажыўляецца аўтар і нахіляецца бліжэй, нібы сабраўся падзяліцца са мною якімсьці непрыстойным сакрэтам. – Добра, што згадалі Чэхава. Я чытаў ваша апошняе, гэта, я вам скажу, сіла. Уражвае. Ёсць мясціны проста чэхаўскага ўзроўню. Працуйце, і праз два гады...

Я раблю хітры ход – хутка дастаю з шуфляды і кладу на стол папку з рукапісам аўтара. Ён замаўкае на паўслове, забываецца на ўсё, акрамя гэтай папкі, і я так і не даведваюся, што ж чакае мяне праз два гады.

– Мо прачыталі? – пытае аўтар і аблізвае губы.

Прачыталі. Артыкул слабенькі. Яго трэба вяртаць. У літаратуры жорсткія законы. Тут, на мой вялікі жаль, тэорыя пра смяротнікаў і "хворых на рак" спрацаваць не можа. І ўсё ж мне шкада аўтара.

– Артыкул... добры, – пачынаю я. – Ды што там, выдатны артыкул. Думкі, тэзісы розныя... Асабліва пра феадальны ўплыў на капіталістычны націск... Але...

Пры гэтым "але" аўтар, які ловіць кожнае слова, уздрыгвае і дакорліва глядзіць на мяне. Потым зноў нізка апускае галаву, быццам падстаўляючы яе пад сякоры бязлітасных абух.

– На вялікі жаль, артыкул для нашага часопіса наўрад ці можа падысці. У вас атрымаўся навуковы артыкул, нават задужа навуковы... Гэта важная праца для навукі, – гавару я абы-што, каб адцягнуць трагічную развязку. – Навука ўзбагаціцца, словам... А ў нас часопіс літаратурна-мастацкі, папулярны, не спецыфічны...

– Вяртаеце?

– Вяртаем, – не ў сілах больш мучыць чалавека, разам апускаю абух.

І – вось дзіва! Мой абух аказваецца чароўным. Ён не аглушае аўтара, а толькі ператварае яго з мілага, ветлівага чалавека ў грознага бунтара. Аўтар парывіста ўстае, горда, з-пад майго носа забірае папку.

– Галоўны ў сябе? – пытае ён ледзяным голасам.

– У сябе.

– Вось няхай галоўны і вырашае! А то будуць тут розныя, маладыя ды раннія... Не, ты спачатку дажыві да маіх гадоў, папішы з маё! А то ўжо ў Чэхавы меціць... Многа вас, такіх "чэхавых", па дзесяць у кожнай рэдакцыі! І кожны нешта ламае з сябе, кожны "геній."

Сабраўшыся дахаты, праходжу калідорам ля кабінета галоўнага рэдактара і чую з прачыненых дзвярэй голас аўтара, зноў ператворанага ў сябе ранейшага – уважлівага, льсцівага:

– Вось вы ўмееце выслухаць, абнадзеіць... А то заяўляе мне: "Я ўжо – Чэхаў, таму вяртаю рукапіс не чытаючы!" У наш час таксама ўсялякае было, але межы ведалі, старэйшых паважалі...

●

Буду ехаць дамоў – знарок уплішчуся ў самы перапоўнены тралейбус і патапчуся па чужых нагах. Хоць душу адвяду.

*1994 г.*




ЗАСНАВАЛЬНІК

**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ,
Алесь ГАЎРОН – *адказны сакратар,*
Мікола ГІЛЬ,
Уладзімір МАРУК – *намеснік галоўнага рэдактара,*
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Яўген РАГІН,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП – *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19



**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі – | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара – | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі – | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі – | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця – | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі – | 284-7985 |
| паэзіі і прозы – | 284-7985 |
| музыкі – | 284-8153 |
| тэатра, кіно – | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва – | 284-8462 |
| фотакарэспандэнт – | 284-8462 |
| бухгалтэрыя – | 284-8462 |
| Тэл./факс – | 284-7965 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2601
Нумар падпісаны ў друк 10.01.2002 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 163

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ЮБІЛЕІ

# Уладзімір Сулкоўскі — мастак нацыянальны

Не так часта можна сустрэць на мастацкай выставе гледача з слязамі на вачах. Карціны жывапісца Уладзімра Сулкоўскага, якія экспануюцца ў сталічным Палацы мастацтваў з нагоды "залатога" юбілею мастака, узрушылі, кранулі за жывое дачку рэпрасаванага ў трыццатыя гады паэта Маю Кляшторную. Краявіды Браслаўшчыны нагадалі ёй першую сустрэчу з Радзімай, якая адбылася, калі ёй было 17 гадоў. Са станцыі Друя, куды яе прывёз цягнік з далёкай чужой і халоднай Сібіры, яна пехатой ішла гэтыя доўгія вёрсты і, нягледзячы на стому, захаплялася хараством роднай прыроды. І вось цяпер, праз дзесяткі гадоў, у жывапісных палотнах, так дасканала выпісаных мастаком, яна пазнае гэты казачны азёрны край.

Уладзімір Сулкоўскі — майстар пейзажа. Ён працуе на пленэры круглы год, як толькі ёсць для гэтага хоць невялікая магчымасць. На палотнах мастака — прырода Беларусі ў розныя поры года: вясна ў квецені садоў, незвычайнай прыгажосці рамонкавы луг, залатая восень і заснежаныя палі да азёры. І як прыемна ў гэтыя халодныя марозныя дні перанесціся ў лета, адчуць сярод зімы прыгажосць і цяпло веснавых дзён. Геаграфія захапленняў мастака сягае ад родных палескіх мясцін, дзе нарадзіўся, да маляўнічых Вайшкунаў, што на Блакітных азёрах. Пэндзлю Уладзіміра Сулкоўскага належыць серыя унікальных карцін, якія ён стварыў па родных мясцінах Якуба Коласа. У свой час на гэтую працу яго натхніў паэт Генадзь Тумаш. І мастак гадамі жыў і тварыў у гэтых святых для кожнага беларуса мясцінах.Карціны, прысвечаныя класіку беларускай літаратуры, экспанаваліся ў Рэспубліканскай галерэі прыроды і творчасці, карысталіся поспехам і выклікалі вялікую цікавасць у гледача.

Уладзімір Сулкоўскі — мастак шырокага творчага дыяпазону. Акрамя пейзажа, ён працуе ў жанры партрэта і нацюрморта. У сучасным беларускім мастацтве яму належыць адметнае месца ў кагорце мастакоў, якая ўзнікла на хвалі чарговага Адраджэння беларускай культуры ў 70-ыя гады. Гэты час прыпадае на пачатак ягонага творчага шляху. Менавіта тады Сулкоўскі заявіў пра сябе як таленавіты жывапісец. У сваіх ранніх творах ён увасобіў не толькі непаўторныя ў сваёй прыгажосці палескія краявіды малой радзімы. На ягоных палотнах самабытны палескі край, паляшуцкі вобраз, дух. Усё гэта — у аўтэнтычных інтэр'ерах сялянскіх хат заходняга рэгіёна, упрыгожаных вырабамі мясцовых майстроў. Тут і "чырвоны кут", расквечаны ўзорыстымі ручнікамі, і акуратна засланы саматканымі посцілкамі ложак з горамі падушак, і вобраз гаспадыні ў нацыянальным строі. Усё гэта хараство і адметнасць палескага інтэр'еру мастак дакладна пераносіць на свае палотны, можа, у той час яшчэ не да канца ўсведамляючы, што тым самым захоўвае для нашчадкаў пласт народнага мастацтва і эпоху, калі яно стваралася самімі вяскоўцамі.

Шкада, што на выставе сярод этапных твораў, такіх, як "Полацкі нацюрморт", "Палескі інтэр'ер", "Зямля Браслаўская", партрэт Максіма Багдановіча, — няма выдатнага жывапіскага палатна "Ядвіся". Гэты жаночы вобраз з'явіўся ў мастака як вынік яго шматгадовай пранікнёнай працы, прысвечанай жыццю і творчасці Якуба Коласа.

І хаця экспазіцыйныя плошчы не дазволілі паказаць больш поўна творчы набытак мастака, выстава дае падставы гаварыць пра Уладзіміра Сулкоўскага як глыбока нацыянальнага творцу, які, спадзяёмся, яшчэ не адзін раз парадуе сваім адметным арыгінальным мастацтвам.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**

ДАТЫ

# З класікаў...

90 гадоў споўнілася з дня нараджэння Льва Абеліёвіча, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, кампазітара, чыя творчая асоба, безумоўна, вылучалася ў айчыннай музычнай культуры XX стагоддзя.

Нарадзіўся ў Вільні, вучыўся ў Варшаве, музычную адукацыю працягваў у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, а ў пасляваенны час удасканальваўся як прафесійны кампазітар у Маскве, пад кіраўніцтвам самога М. Мяскоўскага.

Сярод беларускіх класікаў мінулага стагоддзя ён меў рэпутацыю мудрага творцы-філосафа і самаадданага прафесійніка. Льва Абеліёвіча можна было б таксама назваць песняром драматычных пачуццяў і глыбокіх перажыванняў, якія шчыра і шчодра перадаюцца ў самых розных творах праз галоўную для кампазітара тэму — тэму мінулай вайны.

Ім напісаны чатыры сімфоніі, аркестравыя уверцюры, "Беларуская рапсодыя", "Гераічная паэма", Фартэпіянны канцэрт, "Вакаліз" для голасу з аркестрам, "Арыя" для скрыпкі ды камернага аркестра... Усе аркестравыя творы Л. Абеліёвіча пералічыць цяжка, ды ёсць яшчэ багатая спадчына ў жанрах камерна-інструментальнай, вакальнай, тэатральнай і кінамузыкі. Асаблівай мастацкай выразнасцю пазначаны фартэпіянныя старонкі, бо іх аўтар меў і прафесію піяніста.

Ён быў патрабавальны ў выбары тэкстаў для харавых твораў, рамансаў, песень і меў тут прыярытэты. Сярод паэтаў, на вершах якіх спыняў сваю ўвагу Л. Абеліёвіч, былі Я. Колас, М. Танк, У. Дубоўка, А. Міцкевіч, М. Багдановіч, А. Бачыла, А. Астрэйка, А. Русак, Р. Бёрнс у перакладзе А. Бачылы, рускія класікі Ф. Цютчаў ды А. Пушкін. Шматкроп'е можна не ставіць, бо па-за гэтым пералікам застаецца некалькі беларускіх прозвішчаў, якія занялі не самае значнае месца ў вакальнай творчасці кампазітара.

Больш чым паўтара дзесяцігоддзя мінула, як скончыўся зямны шлях Льва Абеліёвіча. Ды жыццё яго музыкі працягваецца. Сённяшнія выканаўцы (а сярод іх нямала й тых, каму пашчасціла супрацоўнічаць з шаноўным класікам) трапятліва ставяцца да незабыўных музычных старонак. Яны прасякнутыя не толькі драматычнымі матывамі, але і пранікнёнай, тонкай інтанацыяй творцы-лірыка. Усё гэта разам хіба не сугучнае голасу новага, XXI стагоддзя?

**С. Б.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Ізноў — Вердзі

2001-ы, аб'яўлены ЮНЕСКА годам Джузепе Вердзі, Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі завяршыў пастаноўкай яшчэ адной оперы вялікага італьянца. Цяпер у рэпертуары ўжо 8 яго твораў.

Напярэдадні Новага года ў тэатры адбылася прэм'ера спектакля "Трубадур" (у мінулым сезоне падрыхтаванага ў канцэртным выкананні). Музычны кіраўнік пастаноўкі і дырыжор Аляксандр Анісімаў, рэжысёр-пастаноўшчык Барыс Утораў, сцэнограф — Людміла Ганчарова, мастак па касцюмах Эленора Грыгарук.

Вядучыя партыі выконваюць А. Саўчанка, У. Пятроў,М. Майсеенка, С. Франкоўскі, У. Раеўскі, В. Кавальчук, Т. Глаголева, Н. Галеева, А. Раеўская, Н. Руднева, Т. Трацціяк. Бліжэйшы прэм'ерны паказ адбудзецца 20 студзеня.

**А. ДЗМІТРЫЕЎ**



*На здымку: сцэна са спектакля "Трубадур".*

*Фота аўтара*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Кніга пра Палессе

Мазырскі літаратар Васіль Андрыеўскі — складальнік зборніка вершаў вядомых беларускіх паэтаў пра горад над Прыпяццю. І вось у свет выйшла яго асабістая кніжка паэзіі "Пад літасцю нябёсаў". У ёй — вершы пра родны палескі край, каханне, чарнобыльскую бяду. Адрэдагаваў выданне на грамадскіх пачатках пісьменнік, выкладчык Гомельскага дзяржуніверсітэта Віктар Ярац. А аформіў мастак Пётр Захараў.

## Гучалі салдацкія песні

У Жлобінскім Палацы культуры металургаў прайшоў абласны фестываль афганскай песні "Час выбраў нас". На канцэрце маладых выканаўцаў прысутнічалі маці загінуўшых удалечыні ад радзімы сыноў. Кожнай былі ўручаны кветкі і кнігі "Памяць" Жлобінскага раёна. У гэтым выданні змешчаны матэрыялы пра мужнасць маладых хлопцаў.

Гран-пры фестывалю атрымаў Сяргей Рагалевіч з Жыткавіцкага раёна, а дыплом першай ступені — браты Сяргей і Аляксандр Кемы з Рагачоўшчыны.

## Сямейная творчасць

У леташнім кастрычніку майстры выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Гомельшчыны рабілі справаздачу ў сталічным Палацы мастацтваў. А нядаўна яны адкрылі ў Гомелі сваю новую экспазіцыю. Асаблівай прывабнасцю вылучаюцца на выставе пейзажы. Цікава, што ў ліку лепшых — творы сямейных дынастый. Экспануюцца творы Роберта і Віктара Ландарскіх, Анатоля і Таццяны Отчыкаў, Пятра, Мікалая і Яўгеніі Феяў, Арсена Дваронін і Ірыны Данілавай-Дваронінай.

Запамінальнымі з'яўляюцца і работы Уладзіміра Кароткага, Пятра Захарава, Валянціна Пакаташкіна...

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Свісцёлкі з Крычава

Дзіцячай студыяй дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Свісцёлка" пры Крычаўскім раённым цэнтры культуры кіруе Вячаслаў Якавенка. Ён прызнаны майстар керамікі не толькі ў вобласці. Работы Вячаслава Мікалаевіча дэманстраваліся на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, на самых розных выставах народнай творчасці. На пазалеташнім конкурсе майстроў народных рамёстваў і промыслаў у рамках міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" у Віцебску Якавенка атрымаў дыплом другой ступені і спецыяльны прыз. Асаблівая заслуга майстра ў адраджэнні крычаўскай глінянай цацкі-свісцёлкі.

У студыі "Свісцёлка" займаецца каля сарака дзяцей. Яны вучацца маляваць, ляпіць, знаёмяцца з гісторыяй выяўленчага мастацтва, з традыцыямі народных промыслаў і рамёстваў, збіраюць прадметы старажытнага побыту. Вырабы выхаванцаў "Свісцёлкі" неаднаразова выстаўляліся на кірмашах розных фестываляў і святаў, на выставах народна-прыкладнога мастацтва.

**Валянціна БОНДАРАВА**

## Сябруюць гарады

Харавая музыка аб'яднала выканаўцаў з гарадоў-пабрацімаў — Магілёва і Тулы. І не толькі музыка. У ліпені 1941 года Магілёў абаранялі воіны 61-га стралковага корпуса, у якім было шмат тулякоў. На заходнім беразе Дняпра стаяў 388-ы полк, якім камандаваў ураджэнец Тулы Сямён Куцепаў — прататып генерала Сярпіліна з рамана "Жывыя і мёртвыя" Канстанціна Сіманава. Імем туляка названа магілёўская вуліца...

Тульскі абласны рускі народны хор упершыню выступаў у сакавіку 97-га ва ўстановах культуры Крычава і Магілёва. У наступным годзе з абменнымі канцэртамі ў Тулу выехаў народны хор магілёўскага прадпрыемства "Вяснянка" пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Беларусі Генадзя Обуха. З таго часу паміж музычнымі калектывамі завязалася цеснае творчае сяброўства. Летась Тульскі хор зноў прыехаў у Беларусь. На гэты раз у Асіповіцкі раён Магілёўшчыны. Ён выступіў з рускімі і беларускімі народнымі песнямі перад сельскімі і гарадскімі жыхарамі. Гэтым летам тулякі чакаюць да сябе ў госці самадзейныя калектывы Асіповіцкага раёна. Застаецца дадаць, што сяброўскім стасункам вельмі спрыяе дзейнасць спецыялістаў Магілёўскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы, а таксама кіраўніка Тульскага хору — Валерыя Арлова.

**Валянціна ПРУДНІКАВА**
**Лідзія МАХІНА**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Калядныя матывы

У будынку Віцебскай праваслаўнай епархіі адкрылася адмысловая выстава "Калядныя матывы". На ёй багата прадстаўлены праваслаўныя традыцыі ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Аўтары экспазіцыі — народны майстар Беларусі Надзея Петрушко і выхаванцы гуртка пры Свята-Панцеляймонаўскім храме пасёлка Руба, што пад Віцебскам.

## Выступае "Жалейка"

У нядзелю каталікі Беларусі святкавалі Аб'яўленне Панскае — Тры каралі, калі па традыцыі хрысціяне пішуць асвечанай крэйдай на дзвярах сваіх хат тры першыя літары імёнаў каралёў: К+М+В, што азначае — "мір усім, хто ўваходзіць".

У капліцы Віцебскай парафіі Маці Божай Саляцінскай у гэты дзень прайшоў дабрачынны канцэрт ансамбля старажытных народных інструментаў "Жалейка". Калектыў створаны пры Цэнтры народных рамёстваў і мастацтваў "Задзвінне".

Як адзначыла кіраўнік узорнага ансамбля Вера Казак, усе інструменты, і ліру, і дуду, і жалейку, вырабіў для іх віцебскі майстар. А іграюць у ансамблі як дарослыя, так і зусім малыя дзеці, якія нават не валодаюць нотнай граматай.

Беларуская народная музыка вельмі цёпла прымалася парафіянамі.

**Святлана ГУК**